Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 49 (4747) 13 снежня 2013 г.

## Пункціpам

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь з 80-годдзем з дня заснавання. «Развіццё гэтай установы непарыўна звязана са станаўленнем беларускай дзяржавы. Яна заўсёды ўносіла важкі ўклад у бібліятэчна-бібліяграфічнае забеспячэнне дзейнасці дзяржаўных органаў, вучоных і спецыялістаў, спрыяла вырашэнню важнейшых народнагаспадарчых задач», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Балетная трупа Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета 8 снежня накіравалася ў гастрольны тур па гарадах Германіі і Аўстрыі. Калядныя гастролі будуць доўжыцца па 28 студзеня. Еўрапейскім гледачам прадставяць класіку балетнага рэпертуару — спектаклі «Лебядзінае возера» і «Шчаўкунок, або Яшчэ адна Калядная гісторыя» Пятра Чайкоўскага. Турнэ ахопіць дзясяткі гарадоў. У іх ліку Вена, Берлін, Мюнхен, Кёльн, Гамбург, Штутгарт, Франкфурт, Гановер, Байрайт, Касель, Эсен, Дортмунд, Брэмен, Лейпцыг.

✔ Гродна 18 студзеня афіцыйна стане культурнай сталіцай Беларусі 2014 года. Урачыстасці з нагоды надання гораду ганаровага статусу пройдуць у Гродзенскім абласным драматычным тэатры. Чакаецца, што цягам года ў рэгіёне адбудзецца каля 300 мерапрыемстваў, у тым ліку свята нацыянальнай кухні, канцэрты і выстаўкі.

✔ «Калядны тыдзень» стартаваў у Беларускім дзяржаўным універсітэце. 11 снежня на філагагічным факультэце прайшоў баль-маскарад. Учора — касцюміраваны «Калядны канцэрт» аднаго з самых вядомых народных калектываў БДУ «Тутэйшая шляхта». 16 снежня гледачы ўбачаць спектакль «Тавары са мной бышцам дождж» па п'есе Тэнесі Уільямса ў пастаноўцы народнага драматычнага тэатра БДУ «На балконе». Завершыцца тыдзень 17 снежня штогадовай дабрачыннай канцэртнай праграмай «Дух Каляд».

Падрыхтавала
**Ярына РЫТАМІНСКАЯ**





















*Гаўрыіл Вашчанка «Тайна ночы», 1991 г.*

*Выстаўка «Таямніца ночы», прысвечаная 85-годдзю народнага мастака Беларусі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Гаўрыіла Вашчанкі, адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі.*

# У Мінску прайшоў Калядны дабрачынны баль кнігі

Каляды — час, калі здзяйсняюцца самыя запаветныя жаданні, час, калі проста неабходна верыць у цуды — і яны абавязкова адбудуцца. Адной з самых яркіх падзей 2012 года, якія ў нашай краіне прайшоў пад знакам Кнігі, стаў Калядны дабрачынны баль кнігі. Летась сродкі, атрыманыя падчас святочнага аўкцыёну — а гэта больш як 33 мільёны рублёў, — былі накіраваныя ў Гарадзішчанскі дом-інтэрнат для дзяцей-інвалідаў з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Вось і сёлета арганізатары не адмовіліся ад выдатнай магчымасці яшчэ раз зладзіць падарожжа ў краіну цудаў і здзяйснення жаданняў, а нераўнадушныя людзі атрымалі шанц далучыцца да дабрачыннай акцыі «Нашы дзеці», якая праводзіцца пад патранатам Прэзідэнта і Урада краіны. Так, у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі пад эгідай Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюза выдаўцоў і распаўсюджвальнікаў друку, пры актыўным удзеле ААТ «Белкніга», а таксама беларускіх выдаўцоў, паліграфістаў, кнігараспаўсюджвальнікаў учора прайшоў Калядны дабрачынны баль кнігі. Сродкі, атрыманыя ад правядзення святочнага аўкцыёну, дзе былі прадстаўлены адметныя лоты — сапраўды ўнікальныя выданні, будуць накіраваныя ў адзін з дзіцячых дамоў-інтэрнатаў.

Варта падкрэсліць, што дабрачынны аўкцыён не толькі застаецца такім жа цікавым і запатрабаваным сярод актыўных удзельнікаў культурнага жыцця краіны, але і пашырае свой колькасны склад. Калі летась тут было прадстаўлена каля 30 лотаў, аб'яднаных у 12 тэматычных груп, то сёлета са святочнага малатка «пайшло» каля 45 лотаў у 15 тэматычных групах. Але нязменным застаецца аўкцыяніст — папулярны шоумен і тэлевядучы Аляксандр Бугаёў.

Падчас адкрыцця аўкцыёну і прадстаўлення тэматычнай групы лотаў «Вытокі» першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч адзначыла:

— Гісторыя беларускага кнігавыдання пачалася ў далёкім 1517 годзе ў Празе. Наш першадрукар Францыск Скарына выдаў «Псалтыр» у перакладзе на беларускую мову. І ўжо цяпер у нашай краіне пад эгідай міністэрстваў інфармацыі, культуры, Мінгарвыканкама разгортваецца вялікая праца — каб Мінск у 2017 годзе атрымаў званне «Сусветная сталіца кнігі». І, канечне, такое права горад набывае не толькі дзякуючы гістарычным датам, а ў першую чаргу таму, якую ролю адыгрывае кніга ў нашым жыцці. Думаю, у гэтым кантэксце Дабрачынны баль кнігі і аўкцыён — унікальнае і адзінае ў свеце мерапрыемства!

Падрабязнасці чытайце на стар. 9 ▶

*З нагоды*

# Каму намінантам звацца?

Прэмія Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва амаль на дзве гадзіны стала аб'ектам павышанай увагі з боку кіраўнікоў і ўплывовых прадстаўнікоў творчых саюзаў краіны — пісьменнікаў, кінематаграфістаў, кампазітараў, архітэктараў, мастакоў, а таксама членаў экспертнага савета, лаўрэатаў «са стажам», іншых зацікаўленых і дасведчаных асоб. Напрыканцы мінулага тыдня ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ладзіўся «круглы стол», прысвечаны ролі прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва ў культурнай і духоўнай інтэграцыі народаў Беларусі і Расіі.

Яго пасяджэнне стала чарговым пунктам у абмеркаванні грамадствам працэсу намінацыі кандыдатур і асоб саміх прэтэндэнтаў на атрыманне прэміі. Імёны новых лаўрэатаў стануць вядомыя не сёння-заўтра. А пакуль…

Хто ўвогуле мае маральнае права прэтэндаваць на гэтую прэстыжную ўзнагароду? Каго вылучаць — мэтра з сусветным імем ці таленавітага пачаткоўца? Ці магчыма павялічыць колькасць прэмій? Як будзе (калі ўвогуле будзе) мяняцца іх памер? Гэтыя і іншыя вострыя пытанні ставілі перад сабой удзельнікі «круглага стала» і шукалі адказы на іх шляхам не менш вострай дыскусіі. А як наконт рацыянальных зярнят?

Намінант павінен мець значную вагу не толькі ў галіне культуры, але і ў грамадстве ў цэлым, а сам творца і яго ўнёсак — гэта з'ява ў жыцці краіны! Са словамі сакратара Саюза пісьменнікаў Беларусі Георгія Марчука прысутным было цяжка не пагадзіцца. Вядомы літаратар заклікаў больш плённа працаваць з творчымі саюзамі пры вылучэнні намінантаў. Яго меркаванне падтрымаў член прэзідыума СПБ прафесар Іван Саверчанка, які выказаўся за пашырэнне кола прэтэндэнтаў ад літаратуры.

Яшчэ адну праблему акрэсліў народны артыст СССР і Беларусі, прафесар Валянцін Елізар'еў. «Прэміі, як правіла, уручаюцца заслужаным людзям. Але ўзнікае пытанне пра моладзь, якую таксама своечасова трэба падтрымаць. Чаму б, прыкладам, не пакінуць дзве значныя прэміі (умоўна: адну — расійскаму боку, другую — беларускаму), а трэцюю падзяліць на дзве або чатыры часткі, тым самым прадугледзеўшы магчымасць узнагароджваць маладых творцаў. Такім чынам павялічыцца і сама колькасць намінантаў», — прапанаваў Валянцін Елізар'еў.

На думку першага намесніка міністра культуры Беларусі Уладзіміра Карачэўскага, гэта вельмі слушная думка. «Пакінуць дзве асноўныя прэміі, а астатнія ўручаць у падтрымку — цікава. Няхай сабе яны будуць і меншыя… Мы маглі б гэта абмеркаваць з расійскімі калегамі». Сярод прэтэндэнтаў на «саюзную» прэмію прадстаўніку кіраўніцтва Мінкульта хацелася б бачыць не толькі мэтраў, але і маладых аўтараў з цікавымі праектамі. Чаму? «Культура заўсёды ў авангардзе. З яе дапамогай рухаюцца наперад дыпламатычныя адносіны. Трэба, каб загучалі новыя імёны!» — пераканаы Уладзімір Карачэўскі.

Што датычыць памеру прэміі, то ён можа стаць фіксаваным. Як паведаміла ўдзельнікам «круглага стала» саветнік Прадстаўніцтва Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы ў Мінску Людміла Антонава, пытанне вырашыцца падчас бліжэйшага пасяджэння Савета Міністраў Саюзнай дзяржавы. Прапануемая сума — 5 мільёнаў расійскіх рублёў. «Цяпер грашовы эквівалент кожнай прэміі роўны 1250-кратнаму мінімальнаму памеру аплаты працы ў Расійскай Федэрацыі. Фактычна атрымліваюцца амаль тыя ж грошы, але яны ўжо не будуць залежаць ад ваганняў курсу», — патлумачыла Людміла Антонава.

У галіне літаратуры і мастацтва прысуджаюцца тры прэміі Саюзнай дзяржавы — адзін раз на два гады. На прэмії за 2013 — 2014 гады вылучана 11 намінантаў, і гэта — рэкордная колькасць! Нагадаем, ад Беларусі намініраваны такія выбітныя асобы, як скульптар Іван Міско, мастак Гаўрыіл Вашчанка, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча Міхась Дрынеўскі. Імёны лаўрэатаў ужо ў снежні зацвердзіць Вышэйшы Дзяржсавет Саюзнай дзяржавы. Грошы будуць выплачаныя да Дня яднання народаў Беларусі і Расіі, а цырымонія ўганаравання лаўрэатаў адбудзецца на Славянскім базары ў Віцебску.

**Інеса ПЕТРУСЕВІЧ**

*Юбілеі*

# Дваццаць год і адзін дзень

Творчы вечар, прысвечаны 20-годдзю выдавецтва «Чатыры чвэрці», прайшоў у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

На імпрэзе прысутнічалі намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Славакіі ў Рэспубліцы Беларусь Міраслаў Мойжыта, намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік, начальнік Упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Алена Паўлава і супрацоўнік упраўлення Валерый Рагалевіч, прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі, адміністрацыі Савецкага раёна Мінска і Фрунзенскай раённай арганізацыі «Белая Русь», аўтары і творцы.

Як адзначыла намеснік дырэктара НББ Алена Далгаполава, галоўную кніжніцу краіны з выдавецтвам звязваюць даўнія партнёрскія сувязі. На многія кнігі, што выдаюцца ў «Чатырох чвэрцях», акрамя абавязковага экзэмпляра бібліятэка робіць дадатковы заказ, шэраг выданняў праз праграму дакументаабмену паступіў у калекцыі замежных кніжніц. Цяпер НББ і выдавецтва маюць агульны клопат — выданне каталога ўсходніх рукапісаў. Паводле першага сакратара Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзя Пашкова, які ўручаў дырэктару Ліліяне Анцух медаль «За вялікі ўклад у літаратуру», «Чатыры чвэрці» развеялі недавер да прыватных выдавецтваў. Былі ўручаныя таксама медалі «Дзень беларускага пісьменства» і ад Саюза музычных дзеячаў. Шэраг супрацоўнікаў узнагароджаны граматамі і падзякамі міністраў культуры і інфармацыі, пісьменніцкай арганізацыі.

Пасля афіцыйнай часткі адбыўся цудоўны канцэрт. Вялі імпрэзу Алег Вінярскі і Маргарыта Захарыя.

**Ірына ТУЛУПАВА**



# Сэрцы, словам паяднаныя…



*Фота Кастуся Дробава*

У Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце прайшла прэзентацыя кнігі сучаснай беларускай і туркменскай літаратуры «Святая любоў». Падчас імпрэзы Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Туркменістан у Рэспубліцы Беларусь Мурад Язбердыеў расказаў пра развіццё беларуска-туркменскіх палітычных, эканамічных стасункаў на сённяшнім этапе.

— Нашы народы маюць сапраўднае, на працягу многіх дзесяцігоддзяў і нават стагоддзяў, літаратурнае, культурнае сяброўства. У газеце закаспійскай вобласці ці не ўпершыню яшчэ да рэвалюцыі быў надрукаваны пераклад на рускую мову аднаго з апавяданняў Якуба Коласа. У 1941 годзе ў Ашхабадзе пабачылі свет кнігі Янкі Купалы і Якуба Коласа на туркменскай мове… Сёння адбываецца пашырэнне сяброўскіх стасункаў паміж пісьменнікамі нашых краін, — зазначыў пасол.

Што ж да кнігі «Святая любоў», якая з'явілася на свет у серыі «Сугучча сэрцаў», то ў ёй пра сваю краіну, свой народ расказваюць Агагельды Аланазараў, Атамурад Атабаеў, Худайберды Дзіванкуліеў, Касым Нурбадаў, Бібі Араздурдыева і іншыя паэты і празаікі.

Удзел у прэзентацыі ўзялі паэт Алесь Бадак, які з'яўляецца укладальнікам кнігі «Святая любоў», Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Таджыкістана ў Рэспубліцы Беларусь Казідаўлат Каімдодаў (ён доўгі час працаваў дыпламатам у Туркменістане), туркменскія студэнты, якія спявалі па-беларуску.

Варта нагадаць, што прэзентацыя кнігі «Святая любоў» ужо адбылася і ў Ашхабадзе — на міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы «Залатая кніга».

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Максімава свята

Літаратурны музей Максіма Багдановіча адзначыў чарговыя ўгодкі паэта.

Імпрэзу адкрылі радкі знакамітага верша «Места», у якім М. Багдановіч адлюстраваў сутнасць гарадскога жыцця. Родны горад паэта, уплыў гарадскіх рэалій на яго творчае сталенне — тэма, абраная арганізатарамі лейтматывам сустрэчы.

У прамовах запрошаных гасцей — вядомых літаратараў — гучаў і другі лейтматыў: роля постаці і творчасці М. Багдановіча ў спраўджанні феномена беларускай літаратуры, у станаўленні і захаванні нацыянальнай і культурнай ідэнтычнасці яго суайчыннікаў.

Мова — яшчэ адна тэма, якую немагчыма абмінуць у кантэксце гутаркі пра творчасць класіка. Як зазначыў дырэктар радыё «Беларусь», паэт Навум Гальпяровіч, «Максім Багдановіч адным з першых даказаў, што на беларускай мове можна пісаць вытанчаныя, нават выкшталцоныя рэчы. Гэта добра адчувае сучасная моладзь — дзякуючы творам паэта і яго светламу вобразу многія маладыя людзі далучыліся да беларускай мовы».

Першы дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча — старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў — прыгадаў час стварэння мемарыяльнай установы у пачатку 1980-х: цяжкасці вызначэння з будынкам, першыя музейныя рэчы, уласны досвед асваення музейнай справы. У размовах з людзьмі, якія ведалі Максіма, першы дырэктар даведаўся пра яго улюбёныя месцы ў Мінску: Прывакзальная плошча, узбярэжжа Свіслачы, Верхні горад, «Беларуская хатка».

Літаратары прынеслі на дзень нараджэння М. Багдановіча падарункі — прысвечаныя яму вершы. Песні на словы паэта выканала бард, мастацкі кіраўнік тэатра «Жывое слова» Алеся Сівохіна. А «Зорку Венеру» разам з ёй спявала ўся зала.

**Лея ХАШЫМБА**

# Пачак чыпсаў і «рэспект»

30 лістапада ў Кіеве адбыўся фінал міжнароднага дзіцячага конкурсу песні «Еўрабачанне-2013». Прадстаўніца Мальты, 11-гадовая Гая Каучы, заняла першае месца. Яе лірычная балада *The Start* («Пачатак») заваявала сэрцы публікі і была прызнана лепшай па выніках галасавання прафесійнага журы і тэлегледачоў. Другой была ўкраінка Сафія Тарасава, якая выконвала песню *We are One* («Мы адзіныя»). Прадстаўнік Беларусі Ілья Волкаў з кампазіцыяй «Спявай са мной» стаў бронзавым прызёрам музычнага конкурсу.

Яшчэ да фіналу ў беларускай дэлегацыі адзначалі, што ў нашага выканаўцы адзін з самых складаных нумароў, таму што ён павінен быў не толькі спяваць, але і танцаваць у суправаджэнні групы *Maxi Briz*.

Упершыню за ўсю гісторыю міжнароднага дзіцячага конкурсу песні ўзнагароджвалі не толькі трыумфатара форуму, але і выканаўцаў, якія занялі другое і трэцяе месцы. У якасці прызоў маладыя артысты атрымалі фігуркі «Пазліка» — сімвала дзіцячага «Еўрабачання-2013».

Трэба адзначыць, што Ілья Волкаў ужо ўдзельнічаў у дзіцячым «Еўрабачанні» раней. У 2012-м ён танцаваў у нумары Ягора Жэшко «А морэ-морэ...». Увогуле юны артыст займаецца вакалам з шасці гадоў. Выканальніцкае майстэрства набывае ў студыі «Залатыя галасы» пры арт-групе «Беларусы».

На прэс-канферэнцыі, прысвечанай вынікам міжнароднага конкурсу ў Кіеве, кіраўнік беларускай дэлегацыі, выканаўчы прадзюсар тэлеканала «Беларусь 2» Людміла Барадзіна паведаміла, што Ілья Волкаў можа прадставіць Беларусь на міжнародным конкурсе «Новая Дзіцячая хваля-2014»: ёсць афіцыйная прапанова. Юны артыст таксама атрымаў запрашэнне паўдзельнічаць у міжнародным конкурсе ў Малдове.

Як адзначылі ўдзельнікі беларускай дэлегацыі «Еўрабачання-2013», кіеўскія арганізатары зрабілі ўсё прадумана: палац «Украіна», дзе праходзіў сам конкурс, знаходзіўся за тры хвіліны ад гасцініцы, знайшлося нават некалькі вольных гадзін для экскурсій па ўкраінскай сталіцы. Ілью Волкава засцерагалі ад марозу, ветру і... разнастайных прысмакаў — для таго, каб захаваць чысціню голасу. Пасля заканчэння конкурсу ў юнага артыста была толькі адзіная просьба: «Пачак чыпсаў і "рэспект"»!

Паводле Людмілы Барадзіной, збор заявак на ўдзел у дзіцячым «Еўрабачанні-2014» пачнецца не раней як у лютым. «Яшчэ дакладна невядома, ці адбудзецца музычны форум увогуле. Пакуль няма кампаніі, якая ўзяла б на сябе выдаткі. Узнос, пералёт, пражыванне — на «Еўрабачанні-2013» гэтую ношу змагло адужаць толькі 12 краін. Белтэлерадыёкампанія, на шчасце, пакуль можа дазволіць сабе такое мерапрыемства», — адзначыла выканаўчы прадзюсар тэлеканала «Беларусь 2».

**Таццяна ШЫМУК**

# Пад крыламі трох матуль

Вечар памяці рускага паэта, перакладчыка, воіна Ігара Грыгор'ева, прымеркаваны да 90-годдзя з дня яго нараджэння, прайшоў 5 снежня ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна. Невыпадкова Беларусь шчыра адгукнулася на юбілейную дату паэта, бо менавіта з гэтай краінай звязаны старонкі яго лёсу і творчасці.

Паэт не ўяўляў жыцця без Пскоўшчыны, роднай вёскі Сітавічы, дзе нарадзіўся, а беларускай зямлёй быў зачараваны. Амаль дванаццаць гадоў кроўна звязвала яго з мястэчкам Гарадок на Віцебшчыне, дзе з'явілася шмат паэтычных радкоў, сярод якіх — вершы «Беларусь» і «Воробьёвы горы». Ігар Грыгор'еў з задавальненнем, смакуючы кожнае слова, перакладаў паэтаў Беларусі. Вершы рускага лірыка атрымалі беларускае гучанне дзякуючы паэтам-перакладчыкам Уладзіміру Скарынкіну, Міколу Шабовічу ды іншым. Дарэчы, Уладзімір Скарынкін асабіста ведаў Ігара Грыгор'ева.

На памятным вечары былі прэзентаваны кніга ўспамінаў пра Ігара Грыгор'ева «Поэт и Воин» і яго апошні паэтычны зборнік «Боль». Наваполацкім філолагам, літаратарам Анатолем Бясперстых складзены слоўнік эпітэтаў Грыгор'ева. Хутка з'явіцца яшчэ некалькі сур'ёзных моўных прац, прысвечаных паэту.

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхась Пазнякоў адзначыў, што памятныя вечары як беларускіх, так і рускіх класікаў — моцны ўклад у духоўнае пабрацімства. «Мы не павінны замыкацца ў нацыянальным коле, гэта шлях у тупік. Трэба, узвышаючы сваё, нацыянальнае, шанаваць літаратуру суседзяў», — упэўнены Міхась Паўлавіч.

Сын паэта, заслужаны ўрач Расійскай Федэрацыі, прафесар, пісьменнік, святар, грамадскі дзеяч Рыгор Грыгор'еў, на жаль, не змог прыехаць на мінскую імпрэзу, але перадаў прывітальны ліст усім, хто сабраўся ў бібліятэцы, каб ушанаваць памяць яго бацькі.

«Мне вельмі хацелася прысутнічаць на вечары, але маё жаданне не спраўдзілася. У сувязі з гэтым падумалася: можа быць, так больш правільна, бо асоба сына з яго цяперашнімі заслугамі не павінна засланяць сабой памяць пра бацьку, таленавітага паэта, імя якога спецыялісты ставяць побач з класікамі рускай літаратуры. Я невымоўна ўдзячны Беларусі за разуменне і любоў да майго бацькі», — прызнаўся ў лісце Рыгор Грыгор'еў.

Адданай даследчыцай жыццёвага і творчага шляху паэта з'яўляецца пісьменніца Наталля Саветная. Менавіта яна, разам з акцёрам тэатра і кіно Яўгенам Піменавым правяла вечарыну.

Паэт казаў, што пры жыцці яго выратоўвалі тры маці: першая — Багародзіца, Царыца Нябесная, другая — Радзіма, Расія цудоўная, а трэцяя — родная матуля, Марыя Лаўрыкава, надзвычай добразычлівая жанчына. Маці сваю паэт любіў, песціў і бярог да апошніх дзён. Маліў Бога, каб не даў яму памерці раней за яе. Бог пачуў яго, і Ігар Грыгор'еў пайшоў з жыцця пазней за маці... на адзін дзень.

Вялікая Айчынная вайна заспела Ігара 17-гадовым падлеткам, ён стаў камандзірам моладзевай падпольнай групы. А потым паэту давялося стаць не толькі падпольшчыкам, але і разведчыкам партызанскай брыгады. Тэма вайны лілася з-пад яго пяра. Балючыя, вострыя, нібы кулі, яго вершы натхнялі на подзвіг, дарылі надзею. Шмат твораў ён прысвяціў загінуўшым таварышам.

Пасля вайны паэт не толькі пісаў сам, але і ўважліва ўслухоўваўся ў лірычныя радкі іншых аўтараў. У 1967 годзе ён стварыў і ўзначаліў Пскоўскае аддзяленне саюза пісьменнікаў СССР, актыўна дапамагаў друкавацца таварышам па літаратурным цэху, клапаціўся пра здароўе творцаў, дбаў пра іх жыллё, працаўладкаванне. А да свайго побыту быў абсалютна абыякавы, нават уласных кніг не выдаваў — не было часу. Невялічкая кватэра Ігара Грыгор'ева ператварылася ў паэтычную майстэрню, цэнтр прыцягнення празаікаў і паэтаў з розных гарадоў.

Паэт прапаведаваў прыгажосць жывой народнай мовы, любіў простыя, гутарковыя інтанацыі, а ў кожнае слова ўкладваў клопат пра сваю Радзіму.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Пачытаем віртуальна!

Зацікаўленая размова пра інавацыйныя працэсы як фактар развіцця сучаснай бібліятэкі ішла падчас абласнога семінара, які праводзіўся ў Ваўкавыскім раёне Гродзенскай вобласці.

Яшчэ гадоў дзесяць таму ў бібліятэках толькі пачыналася ўкараненне сучасных камп'ютарных тэхналогій, а сёння чытача ўжо не здзівіш доступам у інтэрнэт. У кніжніцу цяпер прыходзяць для таго, каб атрымаць самую розную інфармацыю. Задача бібліятэкара — дапамагчы наведвальніку, прычым у самыя кароткія тэрміны.

Як адзначыла загадчыца навукова-даследчага аддзела бібліятэказнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Марына Пшыбытка, сёння супрацоўнікі бібліятэчных сістэм працуюць над павелічэннем тэмпаў інфарматызацыі, развіццём карпаратыўнага ўзаемадзеяння ўстаноў па набыцці, стварэнні і выкарыстанні электронных інфармацыйных рэсурсаў, фарміраванне інфармацыйных рэсурсаў і іх захаванне. Гэтыя задачы сфармуляваны ў дзяржаўнай праграме «Культура Беларусі» на 2011 — 2015 гады, мэта якой — забеспячэнне вольнага доступу да інфармацыйных рэсурсаў для ўсіх жыхароў краіны.

Для павелічэння тэмпаў інфарматызацыі дзяржпраграмай прадугледжана аснашчэнне бібліятэк новымі камп'ютарамі і серверным абсталяваннем. Чакаецца, што да канца 2015 года на 1000 адзінак насельніцтва будзе прыходзіцца не менш як адно аўтаматызаванае працоўнае месца з камп'ютарам і доступам у інтэрнэт. Самых вялікіх поспехаў у інфарматызацыі бібліятэк дамагліся ў Гродзенскай вобласці.

А як папаўняюцца бібліятэчныя фонды? Сучасная моладзь больш сарыентавана на электронныя дакументы. Таму дзяржпраграма развіцця бібліятэк прадугледжвае набыццё электронных выданняў і баз дадзеных. На жаль, не кожная кніжніца можа іх сабе дазволіць. Рашэнне праблемы прапанавала Нацыянальная бібліятэка, якая адкрыла віртуальную чытальную залу і запрасіла астатнія бібліятэкі стаць партнёрамі, набываць неабходныя дакументы карпаратыўна.

На Гродзеншчыне супрацоўнікі бібліятэк не баяцца эксперыментаваць з новымі формамі. Нават разглядаецца магчымасць адкрыцця ў некаторых установах дзіцячых пакояў для самых маленькіх наведвальнікаў. Хаця спярша трэба вырашыць шмат арганізацыйных пытанняў. Пра працу з самымі юнымі чытачамі распавяла загадчыца Ваўкавыскай раённай дзіцячай бібліятэкай Маргарыта Нікіфарава. Яна і яе калегі добра ведаюць, як навучыць дзіця любіць кнігу.

По заказе Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама ў Выдавецкім доме «Звязда» хутка ўбачыць свет багата ілюстраванае выданне «Культура Гродзеншчыны: Факты. Падзеі. Асобы», якое распавядае пра гістарычную, культурную і духоўную спадчыну гэтага самабытнага рэгіёна. У многія бібліятэкі вобласці паступілі кнігі з серыі «Сугучча сэрцаў». «Гэта ўнікальны кніжны праект, які ўпершыню рэалізуецца ў Саюзе Незалежных дзяржаў і спрыяе ўмацаванню літаратурных сувязей паміж краінамі СНД, — зазначыла намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Ала Корбут. — Маладым чытачам цікава будзе пазнаёміцца з творчасцю такіх майстроў слова, як Алена Брава, Дзмітрый Саўчык, Вольга Тарасевіч, Ірына Фамянкова.

**Раіса МАРЧУК**

## Каляндар літаратурных дат

***Снежань***

**4 снежня** — 75 гадоў з дня нараджэння Ніны Маеўскай (1938, Любань — 2011), пісьменніцы.

**7 снежня** — 60 гадоў з дня нараджэння Любові Тарасюк (1953, Пінскі р-н — 2006), паэтэсы, крытыка, літаратуразнаўца.

**12 снежня** — 95 гадоў з дня нараджэння Кастуся Кірэенкі (1918, Слаўгарадскі р-н — 1988), пісьменніка, заслужанага дзеяча культуры БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі імя Я. Купалы (1972), Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964).

**17 снежня** — 130 гадоў з дня нараджэння Яўгена Барычэўскага (1883, Мінск — 1934), педагога, перакладчыка, аднаго з першых бібліёграфаў у беларускім літаратуразнаўстве.

**17 снежня** — 115 гадоў з дня нараджэння Мікалая Аляксеева (1898 — 1985), пісьменніка, заслужанага работніка культуры БССР.

**24 снежня** — 215 гадоў з дня нараджэння Адама Бярнарда Міцкевіча (1798, Баранавіцкі р-н ці Навагрудчына — 1855), паэта, грамадскага дзеяча, публіцыста, асветніка.

**24 снежня** — 100 гадоў з дня нараджэння Аляксея Кулакоўскага (1913, Салігорскі р-н — 1986), пісьменніка, заслужанага работніка культуры БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі БССР (1986).

**26 снежня** — 220 гадоў з дня нараджэння Евы Фялінскай (1793, Клецкі р-н — 1859), удзельніцы нацыянальна-вызваленчага руху на Беларусі, пісьменніцы, мемуарысткі.

**27 снежня** — 90 гадоў з дня нараджэння Анатоля Вялюгіна (1923, Сенненскі р-н — 1994), паэта, кінадраматурга, перакладчыка, заслужанага дзеяча культуры БССР, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Я. Купалы (1964), Дзяржаўнай прэміі БССР (1968).

***Рэдкалегія***

# Кожнаму — свой час

Падчас рэдкалегіі «ЛіМа» былі падведзены вынікі 2013 года, сярод іх — вяртанне тыднёвіка ў каляровы фармат, падрыхтоўка спецыяльных нумароў і праектаў, асвятленне асноўных культурных падзей краіны, знаёмства з творчасцю замежных аўтараў і прадстаўленне кніжных навінак.

Многія матэрыялы газеты выклікалі розгалас і станоўчую ацэнку членаў рэдкалегіі (інтэрв'ю з Мітрапалітам Тадэвушам Кандрусевічам, мовазнаўчыя артыкулы, асвятленне пісьменніцкіх вандровак і «круглыя сталы», прысвечаныя айчыннай дзіцячай і ваеннай літаратуры ды інш.). Разам з тым удзельнікі рэдкалегіі параілі рэдакцыі штотыднёвіка больш увагі звяртаць на крытычны аналіз творчасці маладых. «Раней пра першую кнігу маладога аўтара заўжды пісалі прызнаныя майстры. Але стасункі паміж класікамі і маладымі памяняліся: цяпер яны проста не ведаюць адзін аднаго! — адзначыў галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Алесь Бадак і падкрэсліў: у літаратуры застаецца не традыцыйнае ці новае, а самае цікавае і арыгінальнае. Гэтую думку падтрымаў і загадчык аддзела паэзіі і прозы «ЛіМа» Віктар Гардзей: «Паэтаў прыбавілася, але прафесіяналаў — мала. Чамусьці ў кожнага, хто толькі паспрабаваў нешта зрыфмаваць, з'яўляецца ўпэўненасць, што яго адразу ж павінны надрукаваць, у той час як наша пакаленне цікавілася, ці падышлі вершы. А сёння даводзіцца пісаць лісты і тлумачыць, чаму гэтыя «творы» друкаваць немагчыма».

Акадэмік Уладзімір Гніламёдаў наступным чынам падвёў вынікі пасяджэння рэдкалегіі: «У кожнага выдання, як і ў чалавека, — свой час. Мне падаецца, сёння «ЛіМ» задавальняе патрэбы сучаснасці».

**Кіра МУРАЎСКАЯ**

# Цяпло ад «Полымя»

Адбылося пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі старэйшага беларускага літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Полымя». На парадку дня было падвядзенне вынікаў дзейнасці рэдакцыі за 2013 год і абмеркаванне планаў на першае паўгоддзе наступнага года, а таксама падпіскі на выданне.

Са справаздачай выступіў галоўны рэдактар часопіса «Полымя», лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Мікола Мятліцкі. Ён адзначыў, што адыходзячы год быў вельмі напружаным і выніковым, згадаў лепшыя публікацыі 2013 года ў розных жанрах.

Што да бліжэйшых планаў, то ў першым паўгоддзі 2014 года «Полымя» плануе надрукаваць раздзелы з рамана М. Чаргінца «Аперацыя "Кроў"» (пераклад А. Марціновіча), раман У. Гніламёдава «Пасля вайны», аповесці Н. Рыбік «Разам», Н. Гальпяровіча «Подых пяшчоты», У. Саламахі «Не цурайся веры сваёй», В. Гардзея «Прыгоды сарамлівага карэспандэнта», п'есу Г. Марчука «Святы грэшнік», апавяданні і вершы вядучых айчынных празаікаў і паэтаў. У планах рэдакцыі таксама супрацоўніцтва з многімі пасольствамі, у тым ліку Казахстана, В'етнама, каб узбагаціць рубрыкі «Галасы свету» і «У лучнасці братняй». «Палымянцы» традыцыйна праводзяць шмат мерапрыемстваў, сустрэч у бібліятэках і музеях краіны.

Старшыня рэдакцыйнага савета акадэмік Уладзімір Гніламёдаў падкрэсліў, што «Полымя» змагло захаваць найлепшыя традыцыі сваіх папярэднікаў. У рэдакцыі працуюць людзі, якія адчуваюць слова. Добра, што друкуюцца не толькі сучасныя аўтары, але і творы са спадчыны.

Свае ўражанні і прапановы выказалі таксама члены рэдакцыйнай калегіі Зіновій Прыгодзіч, Навум Гальпяровіч, Уладзімір Саламаха, Валерый Максімовіч.

**Уладзімір ПРАХАРЭНКАЎ**

# Як і раней, адзіны

У канферэнц-зале РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прайшло пасяджэнне рэдакцыйнай калегіі часопіса сатыры і гумару «Вожык».

Галоўны рэдактар выдання Юлія Зарэцкая ў сваім выступленні падвяла вынікі працы рэдакцыі за 2013 год і распавяла пра перспектыўныя планы. Адзінае і старэйшае ў рэспубліцы выданне ў галіне сатыры і гумару, «Вожык» па-ранейшаму адкрывае новыя імёны, падтрымлівае цесную сувязь з аўтарамі і чытачамі, знаёміць з папулярнымі жанрамі гумару і сатыры, арганізоўвае выступленні і вытсаўкі.

Члены рэдкалегіі адзначылі, што супрацоўнікі рэдакцыі спрабуюць зрабіць кожны нумар разнастайным у літаратурным і мастацкім плане — пачынаючы ад фельетонаў ды іранесак і заканчваючы коміксамі да анекдотамі. Член рэдкалегіі М. Пазнякоў прапанаваў арганізоўваць з Саюзам пісьменнікаў больш сумесных выступленняў і конкурсаў, Н. Гальпяровіч узгадаў, што ў часопісе заўсёды працавалі сапраўдныя майстры гумарыстычнага пяра і алоўка і цяпер выданне не зніжае свой узровень, У. Саламаха зазначыў, што часопіс адлюстроўвае надзённыя праблемы, а ў многіх выпадках прадбачыць іх.

У планах рэдакцыі на наступны год — распрацоўка адметнага сайта «Вожыка», правядзенне сумесна з Міністэрствам інфармацыі выстаўкі карыкатур на спартыўную тэматыку, прымеркаваную да Чэмпіянату свету па хакеі, выданне кніг у серыі «Бібліятэка "Вожыка"» ды іншае.

**Юрый ВЯРБІЦКІ**



Фота Кастуся Дробава



Дар'я ЛЁСАВА

Дарагая рэдакцыя «ЛіМа»!
Турбую таму, што напісалася нешта нечаканае нават для мяне — паэма, прысвечаная памяці Янкі Сіпакова. Баліць і шчыміць душа, што яго няма з намі. Вельмі любіла гэтага цудоўнага паэта і празаіка, сардэчнага, шчырага чалавека. Ведаю яго сям'ю, яго ўнучку (вучыліся разам). Мы ж з ім нават і землякі — з ваколіц Оршы, з сівога Дняпра...

**З ліста Дар'і Лёсавай**

## Дзень добры, Іван Данілавіч!

*Паэма Страты*

**Светлай памяці Янкі Сіпакова**

### Нялёгкі ўступ

*— Мы ў жорсткім свеце чужакі, —*
*Сказаў Ён Маме.*
*О, скаланіцеся, вякі,*
*Прад гэтай драмай!*
*Яго ж не мініце магілы,*
*Мае зялёныя крылы!*
*Сэрца Яго больш няма.*
*Лютуе зіма.*
*Не акрыяць ад Страты*
*Пісьменніка-Брата.*
*Няма Сыночка ў Радзімы.*
*І кліч — лебядзіны!*
*Ляціце, лябёдкі:*
*Сумныя Орша і лодкі!*
*Ляціце вы, гусі,*
*На плач Беларусі!*
*...Стаю я на беразе*
*Дняпроўскага верасу.*
*Зямля партызанская*
*З адвагай сялянскаю!*
*Там Бацька і Маці*
*Не ўседзелі ў хаце,*
*Бо трэба змагацца*
*З навалай фашысцкай.*
*Адчулася блізка*
*Зямля абеліскаў!*
*Айчыны Душа,*
*Цябе я знайшла*
*І ў Песні Ягонай.*
*І творцу — мой помнік!*

* * *

*Дзень добры, Іван Данілавіч!*
*Словы — як веснае голле,*
*Трымцяць на вятрах, над нівамі,*
*Рыдаюць над долам.*
*Шок! Атрымала ад Вас я*
*Знак таямнічы.*
*Прысніла? Але як ясна:*
*Пісьмо — з зорак-знічак!*
*Я прачытаць хацела.*
*Задумалася на хвіліну...*
*І душа мая вымкне з цела*
*Жураўкай да кліну!*
*І я — узіраюся ў Высі,*
*Маркотна шукаю Вас.*
*...Сэрцайка, азірніся*
*І на Зямлю праз час!*

* * *

*Сумую. Не дайсці ўжо.*
*Й не пазваніць ніколі.*
*Якая скрозь ціша!*
*Якое ў той цішы поле!*
*Дзе ж Ты, Душа, якая*
*Мне блізкаю была?*
*Бясконца гукаю*
*Паэзіяй святла!*
*Прабачце... Вінавата,*
*Але й няма віны.*
*Над жытам і над садам*
*Я — музыкай вясны.*

* * *

*Балюча. Вельмі балюча.*
*І слёз — не стрымаць.*
*Месячык сёння змучыў,*
*На рукі лёг спаць.*
*Яго калыхала доўга,*
*Пакуль аж не стала днець.*
*Ваша, Паэце, дарога*
*Доўга шчэ будзе балець.*
*Іван Данілыч, не ведаю,*
*Як сярод зла мне жыць,*
*Калі нікога — над бедамі,*
*Калі ні есці, ні піць,*
*Калі перапёлачка раніць*
*Крыкам у жыце пра Вас!*
*...Вяртае радзінная памяць*
*У полымны час.*

* * *

*Хаджу па Оршы ў задуменні,*
*Хаджу па Ільнаплошчы.*
*Маё адзінае маленне*
*Да ўсіх, жыве хто ў Оршы:*
*— О, не забудзьце пра Паэта,*
*Бо тут блукаў ён часта,*
*І выпіў да дна няшчасце*
*Свайго, з вайны, сіроцтва,*
*Ды ўчуў там дзіўнае прароцтва,*
*Што знойдзе след бацькоў.*
*І праўда ж: там іх кроў!*
*Закатавалі іх фашысты,*
*Як патрыётаў непахісных,*
*Барацьбітоў за сваю Волю,*
*За мірную Айчыны Долю.*
*Хай ззяюць зоркамі з вякоў*
*Імёны простых змагароў,*
*Імёны сціплага Данілы,*
*Яго Вулляны, І Кацярыны, жонкі мілай.*
*Няхай і сэрцайка сціскаецца*
*І познім вечарам, і раніцай,*
*Што тут не ўсе пра Страту ведаюць,*
*Што з Матчынай —*
*Душа Паэтава!*
*Я нават бачыла: Яна*
*Там, каля матчынай, адна!*
*Так Божа, мусіць, адкрыў Зрок:*
*Нам, маладым, — пра тое ўрок!*
*Каб не ківалі на вайну,*
*Не перакідвалі віну*
*На ціхі наш народ прачысты,*
*Які шукаў з нядолі выйсце.*
*Таму й сустрэліся Яны,*
*Душа з Душою, ў вышыні.*
*Я чула, як Паэт казаў:*
*— О мама, мамачка, матуля,*
*Сягоння я цябе ўратую!*
*Ты будзеш вечна ля мяне*
*У мройным сне!*
*Ты будзеш вечна са мной, Бацька,*
*Абняўшыся па-брацку!*

* * *

*О Песня Памяці, о Песня,*
*З Табою звязана я цесна!*
*Нібы ў мяне — з вайны ўсе кулі,*
*Каб на Зямлі наш боль пачулі!*
*Хай помняць Сіпакова Янку!*
*Гучы над светам, калыханка!*

### Калыханка памяці

*— Спі, мой любы Паэце!*
*Так неспакойна ў свеце!*
*Думаю, лепей там,*
*Дзе не дастане хам,*
*Дзе не дагоніць шум,*
*Дзе пазбыты наш тлум,*
*Дзе анёлачкі белыя,*
*Дзе песні — сунічкі спелыя.*
*Спі, мой добры Паэце!*
*Хай Табе Любасць свеціць,*
*Наша зямная любасць,*
*Якая, дзе ёсць, не згубіць!*
*Я да Цябе прыхіну,*
*Твайго не парушу сну.*
*Я да Цябе, як да Таты,*
*Нібы да крэўнага Брата,*
*Я да Цябе — бы да роднага,*
*Самага неабходнага!*
*Я да Цябе — адзінаю*
*Матулечкай-Радзімаю:*
*Спі, мой сыночак дзіўны,*
*Мудры і самы наіўны.*
*Спі, я — галубка-мама,*
*Горкая гэтаксама.*
*...Красачкі слоў нясу,*
*Стаіўшы слязу.*

* * *

*Дзень добры, Іван Данілавіч!*
*Раніца пачынаецца.*
*Са мной павіталася чаіца,*
*Сказала, што з Вашай магілачкі.*
*Дзень добры, Іван Данілавіч!*
*Песня Ваша — як лекар*
*Ад нейчага здзеку...*

* * *

*Сэрца мае разрываецца.*
*Дзе Ты, белая чаіца?*
*Помнік з граніту. Ціша.*
*Ветрык лісток калыша.*
*Божачка! Цішыня!*
*І я каля Вас — адна.*
*Але не баюся нічога.*
*Я ж — бы ў Палацы Бога!*
*Чую дыханне Ваша,*
*Чую, як нехта кажа:*
*— Спіць. Адсвісцелі кулі.*
*Яначка — ля матулі.*
*Яначка — каля мамачкі,*
*Няма Яго ў ямачцы.*
*...Зноў узіраюся ў неба.*
*Там, дзе Гасподзь, Вам лепей!*
*Лепей — каля Сумлення.*
*Мама і Сын — збавенне*
*Ад цяжару зямнога,*
*Музыкай там дарога...*
*Хоць ці забыць на вайны,*
*На боль незагойны?!*
*...Гляджу, углядаюся ў Высі,*
*І там Вы — нібыта ў Кнізе!*
*Дзень добры, Іван Данілавіч!..*



Расціслаў БЕНЗЯРУК

## Завіруха

*Завіруха ў палях,*
*Замятаючы шлях,*
*Ад зары маладой аж іскрыцца.*
*На парозе вясны, —*
*Сярод лютай вайны, —*
*Меў я шчасце калісь нарадзіцца.*

*І цаню цішыню,*
*Дабрыню, цеплыню,*
*Іх, магчыма, удосталь не маю.*
*Бачыць светлыя сны*
*У чаканні вясны*
*Зычу шчыра я роднаму краю.*

## Вячоркі

*Зімы далёкай непаўторны час.*
*Усё ў завеі:*
*лес, лугі, пагоркі.*
*Збіраюцца жанчыны на вячоркі —*
*На попрадкі, як гаварылі ў нас.*

*Заходзяць гуртам —*
*аж у хаце цесна*
*Ад жартаў, смеху, сонечных вачэй,*
*І нараджаецца, расце, сталее песня*
*Пра рэчку,*
*што з-пад каменя цячэ.*

*Далей — смялей. То песні, то частушкі,*
*А то вясёлыя ўспаміны пра жыццё...*
*— А вы чаму, малечы, не спіцё?*
*Даўно чакаюць вас падушкі!*

*А як жа спаць, бо гарманіст Даніла*
*Жартоўныя ва ўсю «пячэ» прыпеўкі,*
*Пішчаць жанкі нягучна, незласліва*
*І чырванеюць, як суніцы, дзеўкі.*

*Нарэшце за парог,*
*у зорнасць зімняй ночы,*
*Дый на дварэ не гасне ўраз гаворка...*
*Нам спаць пара, заплюшчваюцца вочы,*
*А ў сны да нас прыходзяць зноў...*
*вячоркі.*

## Калядная вячэра

*Снег на Каляды белы, як папера,*
*Нібы зіма раскручвае сувой.*
*Зноў на стале —*
*святочная вячэра,*
*А за сталом —*
*і радасць, і спакой,*

*І дзіўны пах —*
*ні летні, ні вясенні,*
*Мо поры года зблытаны ў жыцці?*
*Бо з-пад абруса вытыркае сена,*
*А стравы пачынаюцца з куцці.*

*Тут, за сталом,*
*і казка быць павінна,*
*Калі чакаеце ад працы летній плён.*
*Вось выцягнеш даўжэзную сяніну,*
*І радуйся: высокі будзе лён.*

*У гэты вечар моляцца і вераць,*
*А ў небе зорак ясных харавод...*
*Закончыцца калядная вячэра —*
*Прачнёмся*
*з думкай светлай на Раство.*

## Наташцы

*Сэрца здрадай яшчэ не атручана,*
*На каханне глядзіш,*
*як здаля,*
*Дый са шчасцем пакуль не заручана:*
*Спіць душа,*
*як пад снегам ралля.*

*Ды вятры патыхаюць паўднёвыя,*
*Што прыносяць цяпло і вясну,*
*Разаб'юць яны думы зімовыя*
*І абудзяць пачуцці ад сну.*

*Маладым не ўсядзець пад засовамі,*
*Шчасця міг не схаваць у сабе —*
*І засвеціцца радасць вясновая,*
*Быццам першынец-ліст на вярбе.*

Ніна РЫБІК

# Жыццё, і слёзы, і каханне

*(з жыццёвага)*



## ДРЭВЫ — ЯК ЛЮДЗІ

Вам не даводзілася заўважаць, што людзі, якія шмат гадоў пражылі разам, бываюць вельмі падобныя? Не толькі ў звычках сваіх, у густах і манеры паводзін, а нават знешне? Бы за гады прыціраюцца, раўняюцца не толькі характары, але і рысы твару, паставы.

Дык то людзі. А неяк мне паказалі дрэвы, якія падняліся ўвысь з аднаго кораня, — дуб і бярозу. Аднаму Богу вядома, што адбылося дзесяцігоддзі таму, як бярозавае семя і жолуд прараслі разам, чаму мацнейшы парастак не заглушыў слабейшы. Але сёння гэтае дзіва прыроды можа бачыць кожны: дрэва, якое з кораня ўздымаецца адным ствалом, зверху, над зямлёй, раздвойваецца на магутны разлапісты дуб і даўгакосую беластвольную бярозку.

Ды толькі гэта не ўсё дзіва: на цёмнашэрай шурпатай кары дуба відавочна праступаюць гладкія белыя плямкі бярозы. І ў бярозкі сукня не такая аксамітавасветлая, як у суседак-сяброўак: сям і там і яе пачарнілі, спярэсцілі колеры, характэрныя для маладога дубняку.

Батанікі, напэўна, змогуць даць гэтаму феномену навуковае тлумачэнне. А паэты напішуць лірычную песню пра тое, што бяроза, у адрозненне ад нешчаслівай рабіны, змагла-такі да дуба перабрацца.

А мне здаецца, гэта зусім не цуд і нават не феномен, а закон жыцця. І дрэвы, як і людзі, пражыўшы столькі гадоў разам, п'ючы адны сокі, гнючыся і засланяючыся пад аднымі парывамі ветру, адначасова распростваючы лістоту пад аднолькава шчодрымі ці скупымі сонечнымі праменямі, не могуць не стаць падобнымі. Не толькі лёсамі, характарамі, але і абліччам.

## СТАРЭНЬКАЯ МАМА

Жыццё — тэатр, а людзі ў ім — акцёры…

Найчасцей у гэтым пераконваешся, калі едзеш у грамадскім транспарце, дзе за некалькі хвілін можна стаць гледачом (а калі — і ўдзельнікам) і драм, і камедый.

…У аўтобусе перада мной сядзяць дзве немаладыя кабеты. Па тым, як яны ажыўлена размаўляюць, можна зразумець, што гэта даўнія знаёмыя, нават ці не колішнія аднавяскоўкі, а цяпер — сталічныя жыхаркі. Усе пасажыры становяцца міжвольнымі сведкамі сямейных клопатаў, праблем на рабоце адной і другой.

Неўзабаве размова пераходзіць на вясковыя тэмы.

— Мама хварэе, — жаліцца адна. — І ў мяне ўжо няма сіл кожны тыдзень да яе ездзіць — работа, ды і дома таксама турбот хапае. Да таго ж дарога — білеты, купіць нешта трэба, бо аўталаўка ў вёску рэдка прыходзіць, ды і што там прывозяць… Валачэш сумкі — рукі да каленяў выцягваюцца. Колькі прашу да мяне пераязджаць — не згаджаецца. Але гэтае лета яшчэ хай неяк перабудзе: там, ля лесу, на агародзе, яна душой адыходзіць. А на зіму забяру яе да сябе. Дарогі як завее, то не дабрацца да яе. Сэрца потым баліць, як яна там адна, ці мае сілы прынесці дроў, вады, ці не стала дрэнна — у яе ціск высокі…

— А я сваю ў бальніцы на сацыяльны ложак аформіла, — падказвае рашэнне праблемы другая.

І ці то апраўдваецца, ці то хваліцца:

— А што ж рабіць? Ты праўду кажаш — штодня не наездзішся. А да сябе забраць — кватэра ў мяне невялікая. Ды і цяжка: яна грузная, а як злегла — рабі што хочаш. Ні падняць, ні павярнуць… А ў бальніцы ёй добра, дагледжаная: накормленая, абмытая, памперсы своечасова памяняюць. Санітаркам таксама нялёгка яе варочаць? Ну, у іх работа такая, яны за гэта грошы атрымліваюць… Ды і ў палаце ўсе такія ж старыя, як яна, ляжаць — інтарэсы ў іх аднолькавыя, ёсць што ўспомніць. А ў мяне ёй і пагаварыць няма з кім, мне ж няма часу. Я яе калі-нікалі праведваю, пернікаў мядовых прывязу, любіць яна іх. Але ж капрызная стала… Прыдумала: кажа, перад Вялікаднем забярыце мяне з бальніцы, я хоць адну ночку ў сваёй хатцы паначую. Свенчанае яйка з'ем з усімі разам, мо каго з аднавяскоўцаў пабачу. А раніцай назад у бальніцу адвезяце. Ну як яе забіраць? Каму? У сына свае планы на свята, а ў нас машына сапсавалася. Дык пакрыўдзілася — плакала цэлы дзень…

…Клопаты ў жанчын-аднавяскоўак падобныя. Але вырашаюць яны іх па-рознаму…

## ВЯРТАННЕ НА КРУГІ СВАЕ…

Размаўляю па скайпе з сяброўкай свайго даўняга студэнцкага юнацтва. Святлана цяпер жыве ў Сібіры, бачымся мы вельмі рэдка, але з дапамогай сучасных тэхналогій сувязь падтрымліваем.

Света расказвае пра сямейныя праблемы. Адзіны сын ажаніўся рана, нявестка — сквапная драпежніца. Калі, трапіўшы ў даволі складаную жыццёвую сітуацыю, свякроўка — мая Святлана, якая да таго ўвесь час цягнула маладую сям'ю на сваіх плячах, — «урэзала» маладым «матэрыяльнае забеспячэнне», маладуха, упэўненая, што яе павінен усім неабходным забяспечыць муж, а калі не ён, то яго бацькі, зрабіла «ход канём»: забараніла бабулі бачыцца з унукам, якога тая любіць больш за ўсё на свеце.

Праўда, сын, цалкам падпарадкаваны загадам сваёй уладнай жонкі, усё ж калі-нікалі парушае «вета» і цішком прывозіць малога да бабулі. Але і яго ў матчыну хату вядзе інтарэс: «не вучы жыць, а дапамажы матэрыяльна». Такі вось бартар: я табе — адзінага любімага ўнука на пару гадзін, ты мне — энную суму…

Я шчыра паспачувала сяброўцы. А калі размова была скончана, узгадала, як шмат гадоў таму ў жыцці Святланы ўжо была падобная сітуацыя — толькі з дакладнасцю да наадварот. Неўзабаве пасля вяселля, пасварыўшыся з-за нечага са свякроўкай, Света заявіла: «Нагі маёй больш у яе доме не будзе!» Узяла на рукі сына і пайшла жыць да сваіх бацькоў. Муж — следам: а што яму заставалася рабіць? Пазней Святлана катэгарычна забараніла бабулі сустракацца з унукам. І моцна злавалася на мужа, калі той час ад часу «краў» у яе малога і вадзіў на спатканне з бабуляй. Тады яна была абсалютна ўпэўненая ў тым, што ўсё робіць правільна.

Зрэшты, цяпер — таксама… Толькі вось час ад часу ўсклікае ў роспачы: «І за што мне гэта ўсё?»

## БАГАТЫЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

Дом у Любы з Барысам — трохпавярховы, з падземным гаражом, у якім у кожнага дарослага свая машына, таксама не абы-якая. І ў доме ўсё суперсучаснае, супердарагое, супермоднае.

Не ведаю, на чым яны зрабілі свой дабрабыт, — мяне гэта не цікавіла. Пазнаёмілася я з імі выпадкова, ведала як людзей прыстойных, разумных. І запрашэнне ў госці прыняла ахвотна, бо спадзявалася на прыемнае баўленне часу ў кампаніі цікавых людзей, што ўрэшце і атрымалася.

Раскошу сваю яны напаказ не выстаўлялі, не хваліліся — заможнасць і без таго была відаць. Але пры тым дом іх вабіў утульнасцю: з раскіданымі тут і там дзіцячымі цацкамі, з падрапанымі коцікам дарагімі шпалерамі, з пагрызенымі сабакам хатнімі пантофлямі, з запэцканымі дзіцячымі ручкамі высачэзнымі — ад столі да падлогі — люстранымі дзвярыма ў шафе-купэ.

— Лізавета, ты зноў рукі не памыла! — нязлосна крычыць бабуля, мая новая знаёмая Люба. — Хадзі хутчэй, я цябе пазнаёмлю з гасцямі.

Аднекуль з неабсяжных апартаментаў вялізнага дома выпырхвае анёлак — дзяўчынка гадоў чатырох з бялявымі кучаравымі валаскамі, тонкімі рысамі твару. Праз хвіліну знаёмства, ніколькі не саромеючыся, залазіць на калені, пяшчотна туліцца, як кацянятка, расказвае вершыкі, гуляецца, звонка смяецца…

І раптам позірк мой падае на яе ручкі — маленькія, з доўгімі тоненькімі пальчыкамі. Усе яны ўсыпаны гнойнымі ранкамі — дзе ўжо крышку закарэлымі, дзе свежымі.

— Божачкі, што гэта ў яе? — разуменне, што больш тактоўна было б прамаўчаць, зрабіць выгляд, што не згледзела, прыйшло ўжо пасля таго, як гэты воклічздзіўленне вырваўся вонкі.

— Гэта? — перапытвае Люба. — Гэта ўжо нічога, мы цяпер траўкамі лечымся, то стала шмат лепш. А раней яна ўся такая была: і рукі, і твар, і ўсё цела. Такая цяжкая форма дыятэзу. Ніхто з урачоў не можа растлумачыць, адкуль што ўзялося, і не ў стане параіць, як гэта лячыць. Адна парада — жорсткая дыета. Хлеб, вада, каша на вадзе. Нічога іншага нам нельга.

Сапраўды, калі я пачаставала Лізу цукеркамі, яна разгарнула адну, аддала маме — малая не ведае, што гэта такое — і пачала захоплена разглядваць фанцік, прыдумваючы з ім гульню. Банан ёй дазволілі — малюсенькі кавалачак, а вінаград яна нават не прасіла — не ведае яго смаку, як і цукерак. І як многага іншага.

— Калі мы прыходзім некуды ў госці, мяне пытаюць, чым можна Лізу пачаставаць. Я адказваю: скарыначкай хлеба, больш ёй нічога нельга.

Я не ведаю, ды і не хачу ведаць, на чым зарабілі сваё багацце мае новыя знаёмыя. Але цяпер я ведаю дакладна, што багатыя, і нават вельмі багатыя, таксама плачуць. І не толькі ў бразільскіх серыялах. І не толькі ад нераздзеленага кахання…

## І КОЖНАМУ КАРА ПА СПРАВАХ ЯГО...

Некалі даўно, у сваім маладзейшым жыцці, яны былі блізкімі родзічкамі. Хадзілі адна да адной на дні нараджэння і іншыя святы, прыносілі падарункі, дзяліліся запаветным.

Потым пасварыліся — ці памятаюць ужо самі, з-за чаго? Сварка з-за дробязі разрасталася, як снежная лавіна, успаміналіся колішнія забытыя і дараваныя крыўды, недагаворкі: «Ты казала, я казала» — і паступова накрыла абедзвюх дзявятым валам нянавісці — такім, што ні ўздыхнуць, ні войкнуць.

Цяпер яны непрымірымыя ворагі. Не вітаюцца, не размаўляюць. І ў размовах з іншымі для азначэння адна да адной ужываюць адзін толькі займеннік — «тая». Часам дадаюць да яго яшчэ якінебудзь назоўнік ці прыметнік: «ведзьма», «шалёная», «аферыстка».

І ўсё ж яны рэгулярна сустракаюцца. У нядзелю, у царкве. Кожная падыходзіць да алтара, цалуе ікону, ставіць свечку. Кожная пасціцца, ходзіць да споведзі, прычашчаецца. Шчыра моліцца. Просіць у Госпада дапамогі. Просіць пакараць сваіх ворагаў — маючы на ўвазе тую, што стаіць побач і гэтак жа ўтрапёна прамаўляе «Ойча наш» і «Верую…» І кожная перакананая, што Бог дапаможа менавіта ёй, бо «воздастся не словам их, но по делам их», а справы — кожная ў гэтым упэўнена — яна робіць толькі добрыя. І хто ж заслугоўвае Божай міласці, як не яна, і Божага пакарання, як не Тая?..

Як гэта нагадвае біблейскую прытчу пра пакутніка і фарысея! Вось толькі пакутнікаў апошнім часам нават у царкве ўсё менш: колькі ўжо такіх, што навучыліся рабіць злыя справы з Божым імем на вуснах, спрабуючы не толькі сябе і іншых, а нават Усявышняга пераканаць, што гэта — дабро…

## РОЗНЫЯ ВЫСНОВЫ

Зусім выпадкова — да пачатку мерапрыемства, на якое мы былі запрошаны, заставаўся час, які трэба было нечым заняць, — трапіла ў Мінску на выставу выцінанкі Надзі Бука з інтрыгуючай назвай «Нешта». І яна сталася для мяне сапраўдным адкрыццём!

Выцінанка ў маім ранейшым разуменні ўяўлялася папяровымі карункамі, у якіх можна перадаць розныя прыгожыя кветачкі, расліны, казачных персанажаў… А тут — сапраўдныя сюррэалістычныя карціны з глыбокім філасофскім сэнсам. Ля кожнай можна доўга стаяць і думаць…

…Да адной я вярталася некалькі разоў, рызыкуючы спазніцца на важную імпрэзу. Уявіце: на белым фоне — вялікае чорнае вока: зрэнка, вейкі. А з двух бакоў зрэнкі стаяць анёл і д'ябал — і кожны стараецца зрушыць бачанне чалавекам свету на свой бок…

Маладая мастачка падгледзела, адчула невядома якім пачуццём — і таленавіта перадала з дапамогай тоненькіх нажнічак і паперы тое, што ў чалавеку адбываецца кожны дзень, кожнае імгненне. Мы глядзім на адны і тыя ж рэчы, людзей, падзеі — і адны бачаць у іх прыгажосць, веліч, высакароднасць, а іншыя — пачварнасць, сквапнасць, хцівасць… Хоць часцей за ўсё ні адно, ні другое не адпавядае ісціне — калі яна ўвогуле існуе, гэтая абсалютная ісціна.

## ВЯСНА

Вясна выдалася нечакана ранняй, небывала цёплай. Пакуль сіноптыкі высвятлялі, што ды чаму, дзяўчаткі спаднічкі на пядзю даўжынёю панацягвалі, голыя жывоцікі напаказ павыстаўлялі, усмешкі сонечна-загадкавыя апранулі...

У Мінску ў падземным пераходзе бабулька стаіць, крокусы прадае — пяшчотна-вытанчаныя, яны, здаецца, разносяць пах вясны па ўсёй гэтай бетонна-шкляной гаргары, перабіваючы і перагар, і смурод нечыстот ад жабракоў, што сядзяць непадалёк на прыступках.

— Купляйце кветкі! — нараспеў, бясконца, як зайграная грамафонная пласцінка, паўтарае бабулька. — Першыя вясновыя кветкі для каханых…

У пераход дзяўчына спускаецца — маленькая, худзенькая, з заплечнікам. Убачыла кветкі, бабульку — заўсміхалася пяшчотна, летуценна — нібы сонечны зайчык па твары прабег.

Насустрач ёй малады чалавек ішоў. Усмешку тую злавіў — нібы яму персанальна адрасаваную. І ў адказ усміхнуўся. А сустрэчныя, назіраючы гэты дыялог усмешак, таксама — пайшоў скакаць сонечны зайчык па тварах…

…Дзяўчына ўжо на вуліцу выйшла, да аўтобуснага прыпынку падыходзіла, калі хлопец той дагнаў яе. У руках — букецік крокусаў.

— Гэта — вам. Віншую з вясной!

Імя не спытаў. Тэлефон не папрасіў. Пабег далей па сваіх справах.

*Практыкум*

# Срэбра ці серабро?

**Абноўленае ўжыванне даўніх слоў: ці заўсёды яно правільнае? Спартыўны аглядальнік паведамляе, што юныя беларускія спартсмены на спаборніцтвах па цяжкай атлетыцы ў Таліне заваявалі «два *“серабра”*» (Беларускае радыё. Першы канал. 25.09.2013). Навіна прыемная, а вось форма яе падачы засмучае. Праскочыла граматычная памылка (вылучана). Запынім на ёй увагу.**

У сферы спорту традыцыйна прысуджаюць узнагароды: залаты медаль, сярэбраны медаль, бронзавы медаль. Узніклі і іх аднаслоўныя адпаведнікі: *золата, серабро (срэбра), бронза.*

Развіўшы новае значэнне, гэтыя назоўнікі набылі ўласцівасць скланяцца і ў множным ліку (у рускай, а за ёй у беларускай мовах).

Але, як сведчыць моўная практыка, гэта адбываецца не заўсёды гладка. Так, спартыўны аглядальнік паведамляе: «*Жаночая каманда атрымала два “золата”*» (Беларускае радыё. 19.05.2008). Канчатак *-а* ўтвараецца пад уплывам рускай мовы *(два «золота»)*. У беларускай мове назоўнікі ніякага роду ў спалучэнні з лічэбнікамі *два, тры, чатыры* ў назоўным і вінавальным склонах маюць канчатак *-ы*: *два долаты, два рэшаты*. Таму і *два (тры, чатыры) «золаты», два (тры, чатыры) «срэбры»*. Па-беларуску правільна казаць: *заваявалі пяць «золатаў», восем «срэбраў», дзесяць «бронзаў»*.

Ускладняе аваладанне правілам тая акалічнасць, што назоўнікі *золата, серабро, бронза* ўсталяваліся ў беларускай мове (як і ў рускай) у формах адзіночнага ліку, склонавыя формы множнага ліку ўспрымаюцца як нязвыклыя, некаторыя цяжка вымаўляюцца, асабліва ў назоўніка *серабро*.

Праскланяем: Н. *чатыры серабры*, Р. *чатырох серабро́ў*, Д. *чатыром серабрам*, В. *чатыры серабры*, Т. *чатырма серабрамі*, М. *чатырох серабрах*. Такія формы наўрад ці жыццёвыя. Мэтазгодна карыстацца варыянтам *срэбра*: *чатыры срэбры, чатырох срэбраў, чатыром срэбрам, чатырма срэбрамі, чатырох срэбрах*. Але, відаць, самае зручнае — ужываць стылістычна нейтральныя спалучэнні *сярэбраны медаль, срэбны медаль*.

Паведамленне пра "два серабра" засмуціла яшчэ з адной прычыны. У канцы перадачы журналіст адрэкамендаваўся: «Аляксей Тэрра». Спартыўны аглядальнік (які ў цэлым пільнуецца правілаў беларускай арфаэпіі) вымаўляе сваё прозвішча насуперак фанетычным заканамернасцям беларускай літаратурнай мовы, у якой зычны *р* не падаўжаецца.

Згаданая памылковая форма адлюстроўвае тэндэнцыю да перайначвання імёнаў, прозвішчаў, назваў. Назіраецца нястрымная сваволя нашых сучаснікаў — імкненне падпраўляць, паднавіць, «абдалікатніць» сваё прозвішча (пры патуранні работнікаў ЗАГСаў, пашпартных сталоў).

Некаторыя словы-прозвішчы падкарочваюцца ці падаўжаюцца. Ходкі прыклад: *Ус, Усс* (параўнаем натуральнае беларускае *Вус*).

Праблема ўскладняецца тым, што ў варунках білінгвізму даводзіцца пісаць прозвішча па-беларуску і па-руску. Як зазначае даследчыца беларускіх прозвішчаў Ірына Гапоненка, пры адсутнасці правілаў і дапаможнікаў робіцца гэта «зусім адвольна». У выніку з’яўляецца шмат памылак.

Мабыць, самая пашыраная хіба — змена месца націску: *Буто, Боцян, Прадко, Цалко, Шкрабо, Шупянько* ды інш. Прамоўцы, у тым ліку журналісты, дыктары, настолькі звыкліся з гэтай з’явай (зрушэннем націску), што гатовы ў любы момант падвесці пад такое «дасканаленне» нават прозвішча з празрыстаю, тыповаю будовай. Напрыклад, *Варанец* (Беларускае радыё. Першы канал. 19.05.2013).

І ўсё ж натуральныя, непадпраўленыя прозвішчы ў тэкстах СМІ сустракаюцца ўсё часцей, напрыклад: *Кацярына Булка, Ірына Дудка, Аксана Лакотка, Марыя Масла*. Значыць, не знікае, жыве ў грамадстве разуменне таго, што прозвішчы, асабовыя ўласныя імёны і назвы — важны складнік культурнага, духоўнага набытку беларускага народа. І яго трэба шанаваць.

**Алесь КАЎРУС**

# Новае слова ў дыялогу літаратур




**Манаграфія Таццяны Кабржыцкай, Мікалая Хмяльніцкага і Элы Дзюкавай «Гісторыя ўкраінскай літаратуры: Украінска-беларуска-польскія літаратурныя дыялогі. Частка 1» (выдавецтва БДУ, 2012), як пазначана на яе тытуле, «дапушчана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі па філалагічных спецыяльнасцях». У той жа час мы павінны адзначыць, што гэта выданне з’яўляецца значным прарывам не толькі ў сістэме навучання. Яно спрыяе навуковаму паглыбленню айчыннай кампаратывістыкі.**

Кампаратывістыка як навука закранае пытанні міжлітаратурных сувязей і на ўзроўні гісторыі развіцця мастацтва слова, і на ўзроўні тэорыі літаратуры. Гэтыя два вектары выдатна спалучаюцца ў даследчыцкай практыцы аўтараў. Трэба прызнаць, што праблема «кампаратывістыка ў сістэме літаратуразнаўчых прац» мае сур’ёзных спецыялістаў у такіх славянскіх краінах, як Польшча (Э. Касперскі і інш.), Украіна (Д. Налівайка і інш.). У Беларусі да асваення гэтага акіяна літаратуразнаўчага матэрыялу, вялікага па аб’ёме, складанага па інтэрпрэтацыі, апошнім часам актыўна, смела і прафесійна глыбока далучаюцца Т. Кабржыцкая, М. Хмяльніцкі і Э. Дзюкава. Кніга пашырае і паглыбляе праблематыку папярэдніх выданняў аўтарскага калектыву «Фальклор і літаратура: феномен беларуска-польска-ўкраінскага культурнага сумежжа» (2011) і «Нарысы суседазнаўства: Украіна і Польшча ў прасторы і часе вачыма беларусаў» (2012). Усе згаданыя выданні былі годна прадстаўлены на Міжнародным Кангрэсе ўкраіністаў, які сёлета паспяхова прайшоў у Кіеве.

Да гэтага часу ў нашай краіне даследаванне літаратурных сувязей вялося ў рэчышчы бікультурных кантактаў. Згадаем чатырохтомнае выданне «Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей», «Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей: культурна-гістарычныя і літаратуразнаўчы аспекты». Сёння, як справядліва лічаць аўтары манаграфіі, «у агульнаеўрапейскім маштабе становіцца відавочнай неабходнасць пашыранага вывучэння культурнай сферы тых народаў, якія ў выніку пэўных гістарычных акалічнасцей знаходзіліся ў цесным узаемадзеянні».

> *Даследчыкі ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве скіравалі ўвагу адразу на тры славянскія народы — украінскі, польскі, беларускі. У навуковай працы Т. Кабржыцкай, М. Хмяльніцкага і Э. Дзюкавай прадуктыўна выкарыстоўваюцца даследчыцкія ключы герменеўтыкі, культурнай антрапалогіі, рэцэптыўнай эстэтыкі і інтэртэкстуальнасці.*

Даследчыкі ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве скіравалі ўвагу адразу на тры славянскія народы — украінскі, польскі, беларускі, што доўгі час існавалі ў адным дзяржаўным утварэнні. Аўтары засяродзіліся на ролі культурна-этнаграфічнага сумежжа ў працэсе станаўлення нацыянальнай самабытнасці народаў, іх фальклору і літаратур, абапіраючыся на ўзоры ўзаемапранікнення нацыянальных прыкмет, творчага ўзбагачэння прадстаўнікоў адной культуры за кошт звароту да багаццяў культуры суседзяў.

Катэгорыі ўплыву, яго марфалогія, функцыянальнасць лічацца формамі, механізмам рэцэпцыі і ўяўляюць сабой так званую «традыцыйную кампаратывістыку». Бо сапраўды, найперш праз уплыў выяўляецца і адшукваецца творчае ўзаемадзеянне. У даследаваннях Т. Кабржыцкай, М. Хмяльніцкага і Э. Дзюкавай пры разглядзе мастацкіх тэкстаў прадуктыўна выкарыстоўваюцца даследчыцкія ключы герменеўтыкі, культурнай антрапалогіі, рэцэптыўнай эстэтыкі і інтэртэкстуальнасці. Назіранні часта прарываюцца ў сферу тэарэтычнай кампаратывістыкі. А гэта азначае, што аўтары не абмяжоўваюцца даследаваннем генетычнай роднаснасці, не спыняюцца выключна на тэкставых перагуках і дакументальна зафіксаванай кантакталогіі.

Погляд аўтараў на прадметы літаратурных камунікацый выразна пашыраецца. Яны даследуюць асаблівасці літаратурнага працэсу не толькі на ўзроўні падабенства. Нацыянальны мастацкі свет у іх інтэрпрэтацыі падаецца таксама як непаўторны. Аўтары раскрываюць іманентныя, уласцівыя толькі пэўнай культуры якасці, абумоўленыя сацыяпсіхалагічнымі фактарамі, высвятляюць пытанні адметнасцей і агульных заканамернасцей у развіцці сусветнага літаратурнага працэсу.

Варта звярнуць увагу на тое, што аўтары манаграфіі — выкладчыкі БДУ, выданне выканана на кафедры славянскіх літаратур — адзінай у рэспубліцы.

Аўтарскі калектыў вытрымаў высокі літаратуразнаўчы ўзровень. З аднаго боку, аўтары спрабуюць даць адказ, як усталяваныя стагоддзямі традыцыйныя формы міжнародных камунікацый суседніх народаў набываюць новае зместавае напаўненне. З другога боку, улічваючы той факт, што славяназнаўства, славістыка на сучасным этапе ўсё актыўней распрацоўваюцца паводле навуковых міждысцыплінарных законаў, аўтары паглядзелі на заяўленую праблему праз прызму ўзаемадзеяння моў, літаратур, фальклору, гісторыі, матэрыяльнай і духоўнай культур суседніх славянскіх народаў. Так на працягу ўсёй манаграфіі прасочваецца метадалагічны плюралізм даследчыкаў. Канцэпцыя, структура працы выразныя, прадуманыя, выданне аднолькава эфектыўна павінна працаваць на ўспрыманне чытача: і студэнта, і выкладчыка, і навукоўца.

Наватарства даследавання выявілася ў адборы фактаў, арыгінальнасці іх інтэрпрэтацыі. З перыяду старажытнасці безумоўную цікавасць уяўляюць распрацоўкі тэм «Адметнасці стылю ўсходніх і заходніх славянскіх храністаў», «Летапісы, сагі, быліны як крыніцы рэканструкцыі ўзаемадачыненняў усходніх славян і палякаў у IX — XI стст.», датычна беларускай драматургіі «Еўрапейская драматургія і школьная драма. Польскі і беларускі элемент ва ўкраінскай барокавай п’есе».

Адкрыццём для беларускага чытача стане раздзел «Украіназнаўчае мысленне Юльюша Славацкага». Як і тэкст «Непапраўны рамантык Кабзар: гуманістычныя асновы хрысціянскага светапогляду, творчы метад пісьменніка», у якім на аснове незаідэалагізаваных украінскіх




даследаванняў разглядаюцца, паміж іншым, і дачыненні таленавітага рускага крытыка Вісарыёна Бялінскага з украінскімі пісьменнікамі, у тым ліку яго творчыя непаразуменні з Тарасам Шаўчэнкам. Раздзел «Украінскі кантэкст біяграфіі і творчасці пачынальніка беларускай драматургіі В. Дуніна-Марцінкевіча» закранае сферу дыскусій адносна аўтарства знакамітай «Пінскай шляхты». Уводзячы жыццё і творчасць беларускага пісьменніка ў сінхронна знакавыя калізіі ўкраінскага культурнага працэсу, даследчыкі даюць чытачам падставы для пераканаўчай думкі на карысць аўтарства В. Дуніна-Марцінкевіча. У раздзеле «Прафесійны тэатр славян у параўнальна-гістарычным асвятленні: рэцэпцыя — камунікацыя — традыцыя» высвятляецца тыпалогія зараджэння жанру «нацыянальнай оперы» ў французаў, рускіх, чэхаў, украінцаў, палякаў і беларусаў.

Паназіраўшы за сучасным працэсам літаратуразнаўчых даследаванняў і тэарэтычных разважанняў, нельга не прызнаць важкасць і перспектыўнасць параўнальнага літаратуразнаўства. Бо менавіта кампаратывісцкая метадалогія і практыка дазваляе глыбей пазнаць і вывучыць такія адносіны паміж нацыянальнымі літаратурнымі з’явамі, як тоеснасць / падобнасць / адрознасць; агульнае / асаблівае / унікальнае; універсальнае / занальнае / лакальнае; агульначалавечае / інтэрнацыянальнае / нацыянальнае.

У хуткім часе — спадзяёмся, з не меншай цікавасцю і карысцю — мы азнаёмімся з другой часткай выдання «Гісторыя ўкраінскай літаратуры: украінска-польска-беларускія літаратурныя дыялогі», прысвечанай, як абяцаюць аўтары, аналізу спецыфікі мастацкага ўзаемадзеяння паміж славянскімі літаратурамі ў плённым і няпростым XX стагоддзі.

**Аляксандр МАРОЗАЎ,**
**доктар філалагічных навук, прафесар**

# Паэткі таксама смяюцца!

Усе, хто сустракаўся з гэтай прыветлівай і прыгожай жанчынай, згадваюць яе толькі светлымі словамі. Хоць на яе долю выпала шмат выпрабаванняў і неспадзяваных удараў лёсу, яна ніколі нікому не дакучала сваімі цяжкасцямі. Наадварот, імкнулася дапамагчы іншым, падтрымаць у складаных сітуацыях, бытавых і творчых, падбадзёрыць, акрыліць.

Апошнія гады літаратурнай працы ў Анэлі Тулупавай, нашай вядомай паэтэсы і празаіка, прыйшліся на «Вожык». Сюды яе прывёў рэдкі для жанчын дар — пісаць вясёлыя, гарэзлівыя, прасякнутыя гумарам творы. Яе вершы, напоўненыя сакавітым смехам і меладычнасцю, радавалі чытачоў і прываблівалі кампазітараў. І песні на яе тэксты нярэдка прымалі за народныя. Такія казусы не здараліся б, каб не ўдалыя моўныя знаходкі і стылістычныя спалучэнні з фальклорным пачаткам, якія былі характэрнымі для аўтаркі. Яна ўмела пераўвасобіцца ў сваіх герояў:

*Як павезлі мяне сватаць,*
*Ды без мамы, ды без таты,*
*А я хлопец не стары,*
*Мне шчэ толькі трыццаць тры, —*
*Ранавата!*

Думаецца, Эдуарду Ханку было няцяжка працаваць з матэрыялам, які сам прасіўся ў нотную стыхію. У выніку стварaліся выдатныя песні: «Што за людзі», «Восем дзевак, адзін я» (музыка Э. Зарыцкага), «Ручаёк-ручаіна» (муз. Б. Фёдарава), «Ксеня» (муз. У. Будніка) і інш. Песні Анэлі Тулупавай выконвалі легендарныя «Песняры», таксама — «Верасы», «Чараўніцы», Віктар Вуячыч, Тамара Раеўская, Валерый Кучынскі.

Паводле аднайменнай песні была названа і кніжачка з «Бібліятэкі "Вожыка"» «Як павезлі мяне сватаць», выдадзеная ў 1987 годзе. Тады А. Тулупава яшчэ працавала рэдактарам у «Мастацкай літаратуры». Пазней дар пісаць вясёлыя рэчы нарэшце прывёў у часопіс гумару і сатыры, дзе і мне давялося папрацаваць з ёй амаль два гады. На памянёнай вожыкаўскай кніжачцы яна лаканічна напісала: «…Янусю, каб памятаў, што і паэткі ўмеюць смяяцца». Хто б сумняваўся!

З ёй было цікава працаваць і шмат чаму вучыцца. Да яе з павагай ставіліся калегі і галоўны рэдактар, а таксама шматлікія наведвальнікі-аўтары. Адзінае, што ёй давалася, на мой погляд, цяжкавата, — гэта пісаць сатырычныя фельетоны, якія неабходна было ствараць па кантракце. Празмерная дабрыня і любоў да людзей не дазвалялі ёй некага пакрыўдзіць вострым словам. Таму звычайна яна карысталася асцярожным ушчуваннем і папрокам. Часцей за ўсё фельетоны міжвольна напаўняліся лірычным святлом і адыходам ад канкрэтных рэалій да агульных разважанняў. Але гэта было настолькі таленавіта, што галоўны рэдактар Валянцін Болтач пагаджаўся з нязвыклай формай і рэдка калі ставіў над машынапісным тэкстам сваё любімае «Пакруціце яшчэ!» ці проста «Пакруціце!».

Анэлю Іванаўну звязвала моцная дружба з вядомай артысткай размоўнага жанру Ганнай Рыжковай, якую называлі «каралевай смеху». Без сумнення, такога вызначэння заслугоўвала і Тулупава ў яе гумарыстычнай творчасці.



Шарж Мікалая Гіргеля.

Прапаную чытачам некалькі твораў з архіва А. Тулупавай, якія знайшлі ў свой час яе дачка Алеся і ўнучка Лера. Здаецца, гэтыя рэчы раней не друкаваліся. Можа, паэтэса палічыла іх слабаватымі ці былі нейкія іншыя прычыны. Аднак сціплыя радкі прыўносяць новыя штрышкі ў старонкі памяці пра светлага, шчырага чалавека і таленавітага творцу.

### Вялікдзень цёткі Ганны

*А Вы казалі, што даўно не спіцца.*
*Цяпер Вас не разбудзіць нават медзь.*
*Навошта Вы замоўклі, навальніца?*
*Няўжо Ваш гром не будзе нам грымець?*
*А гром сціхаў — усмешка, як Вясёлка!*
*І зоркі з воч —*
*хоць сабірай у мех.*
*О, як без Вас на Беларусі золка.*
*Няўжо Вы не пакінеце нам*
*Смех?*
*Чым больш Душа,*
*тым болей яна важыць…*
*Ад нас ёй адарвацца*
*няма сіл…*
*Ганула, Цётка, Каралева наша,*
*Вялікдзень Ваш і нас уваскрасіў!*

### Размова паэткі з навукоўкай

*— Крый мяне Божа*
*ў каго закахацца.*
*Сэрца туды-сюды будзе матляцца.*
*— А мы табе хлопца навукай прынадзім.*
*І сэрца ягонае ўраз перасадзім.*
*— Цісну́ць жа будзе. Не прыжывецца.*
*Войкнуць не ўспееш, як адарвецца.*
*— Ну й пустадомак! Шапні каму — любы.*
*Нехта ж ды вып'е дзявочыя губы.*
*— Бач што вярзеш ты. Вып'ю лепш чаю…*

*Муза пачула і ўцекла з адчаю.*

### Старому пачаткоўцу

*І раманам тваім, і вершам*
*Не, не ўбачыць, браток, Парнас.*
*Не апошні ты і не першы,*
*Ёсць багата такіх у нас.*
*Намачыць бы бізун у расоле*
*Ды пакласці ямчэй,*
*Каб дарма штаны не мусоліў,*
*Не псаваў пад старасць вачэй.*

**Янусь МАЛЕЦ**

# Сонца ад бабулі

Даўно ўжо маю ў сваёй хатняй бібліятэцы першую кніжачку Валерыі Радунь — зборнік паэзіі «След дождя». Помню, як атрымаў яго з рук аўтара і гартаў, ідучы ўздоўж праспекта Пераможцаў, паспешліва шукаючы мэтай: а ці зачэпіцца зрок за нейкі твор, ці наткнецца на нешта нечаканае, здзіўляльнае. Хваляваўся, бо добра быў знаёмы з вядомай літаратаркай Анэляй Тулупавай, унучкай якой з'яўляецца Валерыя. Леру я таксама трохі ведаў, чуў яе творы і ад самой дзяўчыны, і ад яе маці Алесі Валер'еўны Саротнік-Лісоўскай. Аднак успрымаць пасобныя вершы на слых, часам па тэлефоне, зусім іншае, чым чытаць на паперы, ды яшчэ ў першым зборніку, дзе звычайна праяўляецца мера паэтычнага таленту, аб'яўляецца ці не аб'яўляецца свету Паэт. Уздыхнуў з палёгкай, калі амаль адразу ж у вочы кінулася:

*Жёлтые листья,*
*Жёлтый узор,*
*Жёлтые нити*
*Маминых штор.*

*Воздух прозрачный,*
*Словно прицел…*
*Значит, не значит?*
*Жизнь или цель?*

*Боль или радость?..*
*Солнцем больны —*
*Жёлтые ночи,*
*Жёлтые сны.*

Можна спрачацца наконт вобраза «воздух прозрачный, словно прицел…», але так уявілася паэтцы, і, несумненна, яна на гэта мае права. Быў жа ў Ясеніна «розовый конь». Класік так убачыў. І пачатковец Валерыя Радунь уявіла «прозрачный прицел», як і пры нейкіх абставінах убачыла «над стрелою прозрачной крана» «хрупкий прозрачный след». А чаму б і не — бываюць жа такія моманты, як гэты:

*Просто легче дышать стало,*
*Стало больше простора свету,*
*Просто синее небо попалось*
*В западню из ажурных веток.*

Дарэчы, таямнічы, прыхаваны ад чытача сэнс характэрны і для




*Валерия Радунь. След дождя. — Минск, изд. «Четыре четверти», 2012 г.*

некаторых іншых вершаў у зборніку. У гэтым ёсць своеасаблівы шарм. Аднак ісці такім шляхам, на мой погляд, патрэбна асцярожна, як паміж скруткаў калючага дроту, бо можна аступіцца і параніцца. І тады ў радках «Я в тебе запуталась нечаянно, / Словно рыбка в сети рыбака» будзе апраўданай замена «тебе» на «себе».

Паэзія будуецца звычайна на вобразнасці. Калі знаёміўся з кнігай «След дождя» ўжо дома, то парадаваўся: вобразаў у маладой паэткі хапае, як і ўменне ўбачыць жыццё па-свойму, па-юначы смела і энергічна. І тэхніка рыфмоўкі, і стылістыка ў Валерыі таксама цікавая, не заезджаная. Працытую для прыкладу хаця б вось гэты вершык:

*По-прежнему хвалиться нечем —*
*Полёт нормальный, вижу цель,*
*Да вот в осадке только вечер,*
*И голос на другом конце.*

*А голос этот судит строго,*
*Но и ему не помешать*
*Тому, что осень на пороге*
*Стоит, завязывая шарф.*

А як вам такі вобраз: «И облака, как чешуя у рыбы, / Слипаются в один тревожный знак»? І тут жа: «Зима кругом лохмотьями повисла / И распласталась шалью по земле». А вось яшчэ: «В глубине души / Шевельнулось прошлое, / Подскочило, взъерошенное, / Хоть стихи про него пиши». І яшчэ: «Тени роются по углам», «Тоску кто-то тянет за хвост», «Бросила ночь на луну, / Как на ночник косынку».

Можна было б працягнуць, але і гэтага дастаткова, каб пераканацца: вобразнае бачанне рэчаіснасці, сінтаксічная пабудова сказаў і рыфмоўка ў аўтара адметныя і яркія. Валерыя пакуль у пошуку:

*А проснусь — застонет, заболит*
*Сердце. Не услышать невозможно,*
*Как рукам оно писать велит:*
*«В этом мире всё ужасно сложно».*

*Сложно всё —*
*рассвет, цветы, поля…*
*Пусть глазам*
*и кажется случайным.*
*Сердце видит сквозь тебя, Земля,*
*Хрупкой жизни золотую тайну.*

І смела, і ў той жа час адчуваецца прыхаваная няўпэўненасць. Відаць, пакуль проста не хапае жыццёвага досведу. За плячыма толькі школа ды ўніверсітэт — вучоба, вучоба, вучоба і гарадская кватэра. Пакаленне моладзі, якое вырасла ў горадзе, у былых шасці сваёй атрымлівае ў сучасных умовах шмат ведаў, аднак практычнага досведу не хапае. Усе папярэднікі, у асноўным выхадцы з сельскай мясцовасці, не атрымлівалі столькі насычанай інфармацыі, але былі бліжэй да прыроды, на іх долю выпадалі нялёгкія выпрабаванні, даводзілася шмат працаваць, прымаць самастойныя рашэнні, дапамагаць бацькам, і яны ў больш раннім узросце «намацвалі» пульс рэалій жыцця, гаротнага і ў той жа час радаснага. А пакаленне Анэлі Тулупавай у дадатак было апалена полымем страшэннай вайны. Такі досвед, дзякуй Богу, абмінуў унучку, але і яна адчувае той час па-свойму:

*Мы не имеем права*
*Говорить о войне.*
*Очень просто: тогда нас не было…*

*Но почему,*
*Когда плачут*
*в апреле*
*ручьи,*
*почему же мне*
*под утро снятся*
*бои?..*

Можа, і сняцца. Напэўна. Я таксама нарадзіўся ў пасляваенны час, а вайна шмат разоў снілася. І ці ёсць увогуле ў Беларусі людзі, каму б хоць раз не прыснілася нешта з вайны, бо тут і зямля, і лясы, і палі — усё насычана крывёй і порахам.

Валерыя Радунь добра ведае напісанае сваёй бабуляй, асэнсоўвае, беражліва адбірае з рукапісаў недрукаванае. Дзякуючы такой клапатлівасці ўдалося апублікаваць некалькі празаічных твораў Анэлі Тулупавай у «Маладосці», «Полымі» і іншых выданнях. У 2003 годзе выйшаў зборнік песень «Світальная сініца». А зусім нядаўна з'явілася кніга «Вочы ў вочы», якую выдала Горкаўская Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія, дзе Анэля Тулупава працавала ў маладосці.

Вядома ж, уплыў бабулі, яе адметны талент паспрыяў абуджэнню творчага пачатку ва ўнучкі. Але яна ідзе сваім шляхам, мае свой светапогляд, сваё разуменне рэчаіснасці. У пацвярджэнне мушу працытаваць цэлы верш, бо інакш не атрымаецца, настолькі ў ім усё счэплена:

*Да уж, муза моя очень странная:*
*По утрам трясётся в метро,*
*В переходе, на стыке «миров»*
*Надевает улыбку обманную.*

*Ну зачем ты, подруга, прячешься?*
*Вот, подтёкший от слёз макияж,*
*Глаз усталых влажный витраж…*
*Ты в анкете моей не значишься.*

*И от грусти бедняга мается…*
*В песне города на синтезаторе*
*И в готическом мрачном аватаре*
*Очень часто она обретается.*

*Ей и книги писать уже впору…*
*Из-за мрачности музы моей*
*Вижу дождь в полумраке теней…*
*А за ним —*
*свет проклюнется скоро.*

У вершах Анэлі Тулупавай, нягледзячы на складанасці лёсу паэтэсы, было шмат святла і дабрыні. Адзін са зборнікаў нават носіць назву «Сонца ў хату». Ёсць сонца ды святло і ў вершах Валеры: «Солнца лучи растут», «Над домами улыбка рассвета», але чамусьці больш дажджу і самоты, трывожнасці.

У аўтара і лірычнай гераіні ўсё яшчэ наперадзе, але яна катэгарычна сцвярджае горыч кахання. І гэта чужое, не свая думка. Часам у маладым узросце фантазіі неапраўдана набываюць надуманы трагізм, які ў творчых людзей абвастраецца асабліва. Хочацца верыць, што плынь чужога і ўласная надуманасць не паглынуць паэтку і яна адчуе, дзе яе думкі набываюць другаснасць, перакліюцца з тым, што ўжо было. Як вось такі вобраз: «Под лёд спуститься в ожиданьи мая / И, как подлодка, закопаться в ил». Адразу прыгадваецца Высоцкі: «Лечь бы на дно, как подводная лодка, И позывных не подавать».

Ані ў якім разе не сцвярджаю, што гэта плагіят, хутчэй чыстая выпадковасць. І ўсё ж, на мой погляд, дасведчанаму рэдактару Міхасю Башлакову варта было звярнуць на гэты момант увагу.

У газеце «Звязда» (за 15 чэрвеня 2013 г.) прачытаў публікацыю Валеры «Трэцяя сасна». Арыгінальна, лёгка, на адным дыханні напісана эсэ на дыхтоўнай беларускай мове. Усё сур'ёзна, прафесійна, прадумана. Вельмі шчыра, з любоўю перададзены вобраз пісьменніцы Анэлі Тулупавай. Пераканаўча асэнсоўваюцца ўзаемаадносіны бабулі і ўнучкі. Яшчэ больш упэўніўся: у нашу літаратуру ідзе цікавы і адказны літаратар, які не падсечэ карані папярэднікаў, бо яны родныя, яны сілкуюць спадчыннымі сокамі з тутэйшай зямлі.

**Янусь МАЛЕЦ**

*Асобы*

# Першы старшыня парламента

Алімардан бек Тапчыбашаў — легендарная асоба ў гісторыі Азербайджана. Ён адыграў важную ролю ў абуджэнні нацыянальнай самасвядомасці азербайджанскага народа, прыклаў шмат намаганняў для фарміравання структур яго першай у гісторыі па-сапраўднаму дэмакратычнай дзяржавы і стаў сімвалам імкнення да незалежнасці і свабоды сваёй Радзімы. У гэтым — асаблівае значэнне ролі вялікага чалавека і для сучаснага Азербайджана, які па праве з'яўляецца прадаўжальнікам традыцый той, першай, Азербайджанскай рэспублікі.

Алімардан бек Тапчыбашаў быў знаным юрыстам і журналістам, дэпутатам Першай Дзяржаўнай думы Расіі (1906), старшынёй парламента Азербайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі (1918 — 1920).

Некалькі важкіх штрыхоў да біяграфіі. А. Тапчыбашаў нарадзіўся ў 1862 годзе ў Тыфлісе, у сям'і арыстакратаў. У 1888 годзе скончыў юрыдычны факультэт Санкт-Пецярбургскага Імператарскага ўніверсітэта і атрымаў ступень кандыдата юрыдычных навук.

На Каўказе працаваў памочнікам міравога суддзі і сакратаром акружнога суда, выкладаў у Тыфліскім землямерным вучылішчы. У 1895 годзе перайшоў у прысяжную адвакатуру, практыкаў у якой займаўся і пасля пераезду на пастаяннае месца жыхарства ў Баку. Галосны, а пасля і галава Бакінскай гарадской Думы, ён выкарыстоўваў пасаду для прапаганды пашырэння прадстаўніцтва цюркскага насельніцтва ў эканамічным і духоўным жыцці горада. У якасці галосната бакінскай гарадской Думы ён упершыню праявіў сябе як палітык. У лютым 1906 года быў удзельнікам прымірэнчага армяна-мусульманскага (азербайджанскага) з'езда, членам асобай нарады пры Каўказскім намесніку па армяна-мусульманскіх справах. Малады таленавіты прысяжны паверань хутка стаў адным з лідараў мусульманскай абшчыны нафтавай сталіцы Расіі — Баку.

З'яўляўся таксама членам гарадской вучылішчнай камісіі, членам апякунскіх саветаў Марыінскай жаночай гімназіі, Бакінскага камерцыйнага вучылішча і руска-мусульманскага жаночага вучылішча імя Аляксандра III.

Выдатны публіцыст, ён неўзабаве стаў рэдактарам рускамоўных газет «Каспий», «Баку». А калі цэнзура крыху змякчылася, то і цюркамоўнай «Хаят» («Жыццё»). Адказнымі рэдактарамі газеты былі вядомыя прыхільнікі цюркскага яднання Алі бек Гусейнзадэ і Ахмед бек Агаеў. Гэта вызначыла аблічча друкаванага органа, на старонках якога актыўна выступалі не толькі грамадскія дзеячы і асветнікі Азербайджана, а і прадстаўнікі іншых цюркамоўных раёнаў Расіі: Крыма, Цэнтральнай Азіі, Татарыі.

Пасля нядоўгага знаходжання ў рэвалюцыйным Іране і ўдзелу ў прававой рэформе гэтай краіны Тапчыбашаў вярнуўся на радзіму. Ён узяў удзел у IV Усерасійскім мусульманскім з'ездзе, які праходзіў 15 — 25 чэрвеня 1914 года ў Санкт-Пецярбургу.

У 1916 годзе ў Тыфлісе на з'ездзе народаў Каўказа Алімардан бек упершыню вылучыў ідэю стварэння Каўказскай канфедэрацыі. У 1917 годзе па яго парадзе лідары дзвюх вядучых азербайджанскіх палітычных партый М. Э. Расулзадэ і Н. Б. Юсіфбейлі прымаюць рашэнне аб аб'яднанні і ствараюць партыю «цюрк Адэмі Меркезійет фігесі — Мусават».

Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года Тапчыбашаў выступаў за захаванне адзінай Расійскай дзяржавы і скліканне Устаноўчага Сходу, ні да якіх партый не далучаўся. З сакавіка ўзначальваў Азербайджанскі Нацыянальны Камітэт. Удзельнічаў у працы Каўказскага мусульманскага з'езда і Першага Усерасійскага мусульманскага з'езда, на якіх выступаў за федэратыўнае ўладкаванне Расіі. Быў абраны ва Усерасійскі ўстаноўчы сход, разагнаны бальшавікамі пасля першага пасяджэння.

Пасля абвяшчэння Азербайджанскай Дэмакратычнай Рэспублікі (АДР) 28 мая 1918 года стаў надзвычайным прадстаўніком у Грузіі, Арменіі і Асманскай імперыі. Знаходзячыся ў Стамбуле, быў прызначаны міністрам замежных спраў АДР. Там жа 7 снежня 1918 года завочна быў абраны старшынёй азербайджанскага парламента. Паколькі незалежны Азербайджан быў парламенцкай рэспублікай, А. Тапчыбашава можна лічыць першым кіраўніком Азербайджанскай дзяржавы. У ходзе перамоў



Тапчыбашаў дамагаўся аказання Турцыяй дапамогі Азербайджану для вырашэння розных праблем новай незалежнай краіны. У пачатку мая 1919 года Алімардан бек прыбыў у Парыж для ўдзелу ў Версальскіх мірных перамовах.

З падзеннем АДР 28 красавіка 1920 года пачынаецца новы этап у жыцці Тапчыбашава — жыццё эмігранта ў Парыжы (1920 — 1934 гг.), горадзе, дзе сабралася шмат палітэмігрантаў з Расійскай імперыі. Пачалася барацьба за выжыванне, з'явіўся комплекс эміграцкай адрынутасці.

Усё сваё жыццё А. Тапчыбашаў быў прыхільнікам незалежнага і аб'яднанага Каўказа. У Парыжы, дзе жылі ўсе былыя кіраўнікі Грузіі, Арменіі і Паўночнага Каўказа, была магчымасць сустрэч і каардынацыі дзеянняў.

Намаганні Тапчыбашава мелі поспех. 10 чэрвеня 1921 года ім, а таксама Чхенкелі, Агаранянам і Чармоевым была падпісаная дэкларацыя пра стварэнне «Саюза Каўказскіх рэспублік».

На Генуэзскай (1922) і Лазанскай (1923) канферэнцыях ён ставіў пытанне пра незаконную акупацыю Азербайджана Чырвонай Арміяй.

14 ліпеня 1934 года Тапчыбашаў і Расул-задэ ад імя Азербайджана падпісалі пакт аб стварэнні Каўказскай канфедэрацыі (Азербайджан, Грузія і Паўночны Каўказ) у выгнанні. Гэтыя краіны падпісалі дамову з Украінай пра сумесную барацьбу за аднаўленне сваёй незалежнасці.

Лёс не песціў Тапчыбашава ў эміграцкія гады. Актыўная палітычная дзейнасць не вырашала ўласных матэрыяльных праблем. Аддаленасць ад Радзімы і недахоп грошай засмучалі яго жыццё. Сярод былых кіраўнікоў Азербайджана, якія знаходзіліся ў выгнанні, ён быў найстарэйшым як па ўзросце, так і па займаемай пасадзе. І да яго, былога кіраўніка парламента і кіраўніка афіцыйнага і паўнамоцнага ўрада Азербайджана ў Парыжы, звярталіся па матэрыяльную дапамогу ўсе — ад студэнтаў, якія вучыліся за мяжой, да былых палітычных і грамадскіх дзеячаў Азербайджана. Забяспечыць усе просьбы было, зразумела, немагчыма, і ў сувязі з гэтым узнікалі розныя чуткі вакол яго імя. Тапчыбашаў пакутаваў, аднак змяніць нічога не мог.

Памёр А. Тапчыбашаў у Парыжы 8 лістапада 1934 года і пахаваны ў заходнім прыгарадзе Парыжа, Сен-Клу. У 2012 годзе была выдадзена вялікая манаграфія пра жыццё і дзейнасць Алімардана бек Тапчыбашава, якая ўтрымлівае шмат каштоўных дакументаў, раней не даступных даследчыкам.

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Азербайджанскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь**
**Ісфандзіяр Бахціяр аглы Вагабзадэ**

*Падпісвайся!*

# Ёсць роднае...

Снежань — самы час, каб зрабіць падарунак сабе і сябрам, падвесці вынікі года і падумаць пра будучыню. А яшчэ — зайсці на пошту і падпісацца на выданне, з якім не хочацца развітвацца. На «ЛіМ», напрыклад, альбо на «Маладосць», «Нёман» ці «Полымя». Дарэчы, прычыны, каб выпісаць апошняе са згаданых выданняў, падкажа вам яго галоўны рэдактар Мікола Мятліцкі.

**— Якім быў 2013 год для часопіса «Полымя»?**

— Летась адзначыўшы сваё 90-годдзе, першы нумар 2013-га мы амаль цалкам аддалі маладым талентам, нават адкрылі яго вершамі пачынаючага паэта Міколы Галавача — па сімвалічным супадзенні цёзкі нашага першага рэдактара Платона Галавача. Такім чынам, і ў XXI стагоддзі ззяе «галавачоўская» зорка. Другі нумар — 1000-ы! З гэтай нагоды мы правялі «круглы стол» у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, зрабілі своеасаблівыя агляды айчыннай літаратуры за апошнія 90 гадоў.

Думаю, што многія творы, якія друкаваліся на старонках «Полымя» ў 2013 годзе, запомняцца нашым чытачам. Я б асабіста адзначыў раман «Ліхалецце» Уладзіміра Гніламёдава, які даследаваў трагічныя ваенныя старонкі беларускай гісторыі. Вартыя згадкі і празаічныя творы нашых жанчын-пісьменніц: Ніны Рыбік, Лідзіі Адамовіч, Таццяны Мушынскай, Галіны Васілеўскай, Зінаіды Дудзюк, Наталіі Касцючэнкі, Людмілы Кебіч. У паэзіі таксама можна прывесці цэлы шэраг імёнаў — Казіміра Камейшы, Міколы Маляўкі, Васіля Макарэвіча ды іншых.

**— А якія творы прымусілі вас асабіста па-іншаму зірнуць на беларускую літаратуру?**

— Не баюся паўтарыцца, вельмі ўразіў Уладзімір Гніламёдаў: тым, што на тэму, якая, здавалася б, сёння раскрытая напоўніцу, здолеў прамовіць уласнае, новае слова! У яго рамане — не толькі ваенныя дзеянні, але і жыццё народа ў час вайны. Гэта панарамны твор, які дазваляе пабачыць усю трагедыю вайны. Адкрыццём сталі для мяне і гутаркі Зіновія Прыгодзіча з дзеячамі айчыннай культуры, напрыклад, Алесем Савіцкім, Валянцінай Гаявой, Міхаілам Фінбергам... Лічу, што зварот да сумежных жанраў якраз і надае нашаму саліднаму выданню свежы струмень — новае аблічча.

**— У вас не проста «саліднае» — у вас яшчэ і «ВАКаўскае» выданне!**

— Так, і мы рупімся, каб навуковыя публікацыі адпавядалі ўсім патрабаванням Вышэйшай атэстацыйнай камісіі. Бо створана гэта рубрыка была, каб тыя, хто заўтра будзе абараняць свае дысертацыі, нашы маладыя літаратуразнаўцы, маглі весці на старонках «Полымя» навукова абгрунтаваную гаворку пра літаратуру! Для іх гэта першая прыступка, але і яе трэба адолець: у нас ёсць рэдакцыйны савет, які ўзначальвае той жа акадэмік Гніламёдаў, — некаторыя артыкулы вяртаюцца на дапрацоўку, з многімі аўтарамі і іх навуковымі кіраўнікамі мы працуем, разумеючы, што менавіта гэтыя студэнты і аспіранты з часам скажуць сваё важкае слова пра айчыннае пісьменства.

**— Але ці вырашаюць гэтыя публікацыі праблему недахопу сучаснай літаратурнай крытыкі, асабліва на творы маладых аўтараў?**

— Часткова — так. Мы не толькі спыняемся на юбілейных датах, аддаючы даніну павагі папярэднікам, але і робім агляды прозы і паэзіі як сталых, так і маладых аўтараў, аналізуем публікацыі на старонках рэспубліканскіх літаратурных выданняў. Прыкладам, Яўген Гарадніцкі разгледзеў сучасную паэзію, Ігар Шаладонаў распавёў пра сучасную беларускую аповесць. Артыкулы Уладзіміра Гніламёдава, прысвечаныя творчасці маладых паэтаў, можна будзе прачытаць у нашым снежаньскім нумары, а таксама ў першым і другім нумарах «Полымя» 2014 года.

**— Якія новыя кірункі працы з чытачамі і аўтарамі плануеце на 2014-ы?**

— «Полымя» заўжды працавала адрасна — мы літаральна ва ўсіх бібліятэках нашых абласных цэнтраў маем духоўную падтрымку. Творчыя сілы пісьменнікаў абласных аддзяленняў мабілізуем на супрацоўніцтва з часопісам. Хочацца, каб тое, што мы друкуем, і надалей атрымлівала чытацкую падтрымку. Упэўнены, што выклічуць цікавасць і старонкі рамана Мікалая Чаргінца «Аперацыя "Кроў"», які мы палічылі патрэбным перакласці на беларускую мову і апублікаваць на старонках часопіса, бо ў ім распавядаецца пра вельмі значныя падзеі ў жыцці нашага народа. Думаю, што і раман «Пасля вайны» Уладзіміра Гніламёдава, які завяршае яго слынны цыкл, будзе цікавы шырокаму чытачу — у пэўнай ступені гэта дакумент для будучых пакаленняў пра наша жыццё.

**— Менавіта таму часопіс «Полымя» мусіць трапляць і ва ўсе школьныя бібліятэкі!**

— На жаль, яшчэ не ўсе разумеюць такую патрэбу, але мы працуем і са школамі. А нядаўна да нас завітала выкладчыца каледжа з Лунінца Галіна Антановіч. Яны з навучэнцамі чытаюць «Полымя», нават пішуць паводле нашых матэрыялаў свае конкурсныя работы, абмяркоўваюць творы. А як у свой час усцешыла сустрэча ў Астравецкім раёне — у бібліятэцы вёсачкі Рытань! Падышла да мяне сівенькая жанчына, настаўніца мясцовай школы, і прызналася, што з 1941 года не прапусціла ніводнага нумара «Полымя». Вось якая бывае вернасць часопісу!

**— Усё-ткі «Полымя» — выданне досыць элітарнае, высокая прыступка для аўтараў. Ці не пазбаўляе гэта пэўнай колькасці чытачоў?**

— Тут «элітарнасць» умоўная. Уявіце той час, калі ў 1922 годзе думалі пра стварэнне падобнага часопіса. Чаму і назву такую далі — таму, што нацыя патрабавала азарэння, духоўнай цеплыні, агню! Але потым былі 30-я гады, якія «спалілі» многіх таленавітых творцаў. Так што «Полымя» назаўжды пазначана мужнасцю выжывання. Пасля падобных ахвяр літаратура не магла не быць сумленнай: кожны ведаў, колькі каштуе праўда... І творцы, асабліва тыя, што прайшлі вайну, імкнуліся усталяваць каштоўнасці, якія будуць непераможнымі. «Полымя» — гэта наш беларускі лёс. Мы ўзбагачаем увесь свет сваім літаратурным досведам!

**— Што б вы сказалі тым чытачам «ЛіМа», якія вагаюцца, ці выпісваць часопіс «Полымя» на наступнае паўгоддзе?**

— Сучасны чалавек адкрыты ўсяму свету — у свеце яго чакаюць і прымаюць. Але без ведання тага, што ёсць у нас, у нашай айчыннай літаратуры, культуры, мы ў свеце — нецікавыя! Можна чытаць многае, але ёсць роднае...

**Гутарыла Таццяна СІВЕЦ**

# Аўкцыён для бібліяфілаў

Лоты, прадстаўленыя падчас святочнага аўкцыёну, што прайшоў сёлета ў межах Каляднага дабрачыннага балю кнігі, — гэта сапраўды ўнікальныя выданні, вынік стараннай працы выдавецтваў, узор высокага майстэрства паліграфіі. Варта прыгадаць хаця б факсімільнае выданне «Жыція Еўфрасінні Полацкай» (Выдавецтва Беларускага Экзархата), «Баркулабаўскі летапіс» («Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі») ці серыю «Сугучча сэрцаў» (Выдавецкі дом «Звязда»). Таму і не дзіўна, што яны выклікалі жывую цікавасць патэнцыяльных (а потым і рэальных) пакупнікоў. Пра многія з прадстаўленых выданняў мы ўжо распавядалі на старонках «Кніжнага свету», таму сёння звернем увагу на новыя, але ўжо прызнаныя праекты, а таксама засяродзімся на сапраўдных знаходках для бібліяфілаў.




*Эдуард Загарульскі. Белая Русь з сярэдзіны I тысячагоддзя да сярэдзіны XIII стагоддзя. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2013.*

Сёння сярод гісторыкаў вядуцца досыць актыўныя спрэчкі наконт магчымых адказаў на, здавалася б, ужо не новыя пытанні паходжання беларускага этнасу, верагоднасці існавання адзінай дзяржавы ўсходніх славян. Некаторыя варыянты інтэрпрэтацыі гістарычных фактаў і вынікаў археалагічных раскопак ужо сталі кананічнымі і ўвайшлі ў школьную праграму, некаторыя ж і сёння падаюцца як альтэрнатыўныя і нават сенсацыйныя.

Гэтая праца беларускага гісторыка і археолага Эдуарда Загарульскага прапаноўвае арыгінальныя рашэнні цэлага шэрагу пытанняў, звязаных са з'яўленнем і рассяленнем славян на тэрыторыі Усходняй Еўропы (у тым ліку на землях сучаснай Беларусі), фарміраваннем славянскага дзяржаўнага ўтварэння Русь і палітычнай гісторыі яе заходніх зямель — Белай Русі. Асаблівую ўвагу аўтар звяртае на развіццё манументальнага дойлідства і нават прапануе новыя дацiроўкі некаторых помнікаў каменнай архітэктуры. Але не толькі гэтымі момантамі абмяжоўваецца аўтар. Эдуард Міхайлавіч у сваім даследаванні закранае таксама складаныя этнічныя працэсы, у тым ліку адметнасці фарміравання мовы мясцовага насельніцтва, этнічнай самасвядомасці, культурнай самаідэнтыфікацыі.

*Рускія ў Беларусі. — Мінск: Макбел, 2010.*

Той, хто набыў гэтае выданне падчас аўкцыёну, атрымаў у сваю калекцыю сапраўдную бібліяграфічную рэдкасць. Шыкоўная кніга пабачыла свет тры гады таму накладам усяго… 15 асобнікаў. І хоць зместам сваім яна адрасавана ў асноўным рускім, якія воляю лёсу апынуліся сталымі жыхарамі нашай краіны, думаецца, выданне зацікавіць і беларусаў. Адметна, што кніга падрыхтавана самімі сябрамі рускай дыяспары і распавядае пра тое, як складваўся іх лёс.




*Іван Шамякін. Вазьму твой боль. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013.*




*Янка Купала. Паўлінка. Тутэйшыя. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013.*

Аўдыёкнігі, з'явіўшыся на рынку ў сярэдзіне 2000-х, сёння губляюць навізну ды страчваюць папулярнасць як з'ява, саступаючы месца выданням электронным. Але не варта думаць, што ў якасці лота на святочным аўкцыёне аўдыторыі былі прапанаваныя звычайныя аўдыёкнігі, створаныя на аснове класічных узораў беларускай літаратуры. Натуральна, гэта не так. Перад намі таксама — своеасаблівыя рарытэты. Але не друкаванага, а прамоўленага слова, прыклады класічнай ігры акцёраў не на сцэне, а каля радыёмікрафона. Так, запіс радыёспектакля «Вазьму твой боль», створанага на аснове аднайменнага рамана Івана Шамякіна, зроблены ў 1980 годзе. Тэкст чытаюць народныя артысты Беларусі Валянцін Белахвосцік, Марыя Захарэвіч, Генадзь Гарбук, Мікалай Кірычэнка і іншыя выдатныя акцёры.

Радыёкампазіцыя камедыі Купалы «Паўлінка» з удзелам майстроў беларускай сцэны была запісана ў 1952 годзе, трагікамедыі «Тутэйшыя» — у 2011-м. Адметна, што акрамя спектакляў на дыску можна паслухаць гутаркі ў студыі з народнымі артыстамі Беларусі Віктарам Манаевым, Марыяй Захарэвіч і артысткай Аленай Сідаравай пра жыццё і творчасць.



*Кшыштаф Монвід Дарагастайскі. Гіпіка, альбо кніга пра коней. — Мінск: Юніпак, 2007.*

Арыгінальнае выданне гэтай працы пабачыла свет у 1603 годзе. Тады кніга стала першым у Рэчы Паспалітай даведнікам па каняводстве і коннай яздзе. Яго аўтар — вялікі маршалак літоўскі Кшыштаф Монвід Дарагастайскі, чый радавы маёнтак знаходзіўся ў мураванай Ашмянцы (цяпер Ашмянскі раён). Выданне складаецца з чатырох частак. У першай аўтар распавядае пра гісторыю коннай язды, масці коней, іх прыкметы, правілы гадавання племяннога маладняку. Другая частка прысвечана пачатковай падрыхтоўцы баявых коней. У трэцяй вядзецца гаворка пра збрую, а чацвёртая, з назвай «Гіпіятрыя», — гэта своеасаблівы ветэрынарны даведнік, адкуль гаспадар даведаецца пра хваробы коней, а таксама спосабы іх лячэння.

Сёння гэтае выданне ўяўляе цікавасць з некалькіх пунктаў гледжання. Як бібліяграфічная рэдкасць: на аўкцыёне яно прадстаўлена з прыватнай калекцыі. Як твор мастацтва кнігі: ілюстрацыі да выдання зроблены вядомым мастаком, гравёрам Томашам Макоўскім. Як гістарычная крыніца, дакумент: тут можна знайсці шмат звестак пра жыццё шляхты ў Рэчы Паспалітай у пачатку XVII стагоддзя.




*The Enchanted World = Чароўны свет: з беларускіх міфаў, паданняў і казак (на англійскай мове). — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2013.*

Цяперашні ўладальнік гэтага выдатнага лота, думаю, не пашкадуе… нават тройчы. Бо выданне — навінка ад «БелЭн імя П. Броўкі» — можа быць каштоўным, папершае, сваім зместам: тут прадстаўлены найбольш папулярныя казачныя персанажы і вобразы беларускай міфалогіі, якія захаваліся ў духоўнай спадчыне беларусаў і да нашых дзён. Па-другое, мастацкім афармленнем. Над ілюстрацыямі працаваў вядомы беларускі мастак Валерый Славук. Па-трэцяе, мовай. Выхад кніг на англійскай мове — досыць вялікая рэдкасць і нечаканасць для беларускага выдаўца. Але адразу ж зразумела, што такая кніга не толькі мае шырокую патэнцыяльную аўдыторыю (і яе ўяўныя межы не супадаюць з межамі нашай краіны), але і пашырае моўную кампетэнцыю беларускіх чытачоў, якія вывучаюць англійскую мову.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Форум-2014*

## Паўналецце кірмашу

21 год шмат дзе ў свеце — узрост паўналецця. Ды што казаць, да часу, пакуль маладому чалавеку спаўняецца 21, ён ужо мае сярэднюю адукацыю, вучыцца ў ВНУ, яго погляды на жыццё і жыццёвая філасофія амаль цалкам сфарміраваліся. А калі весці гаворку пра кніжны форум? Менавіта такі ўзрост мае Мінская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш. Ды гэта ж цэлая эпоха ў развіцці айчыннай кніжнай справы! Падаецца, якраз напярэдадні XXI ММКВК варта прыгадаць некаторыя адметныя факты з гісторыі выстаўкі.

Гісторыя Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу пачынаецца ў 1994 годзе. Да гэтага часу адзіная эканамічная прастора былога Савецкага Саюза канчаткова распалася, у тым ліку перарваліся сувязі паміж краінамі і ў галіне кнігагандлю. Міжнародная выстаўка ў Мінску (горадзе, што знаходзіцца на скрыжаванні ўсіх дарог — з поўначы на поўдзень і з усходу на захад) першапачаткова задумвалася як сувязное звяно паміж выдаўцамі і кнігагандлярамі з цяпер ужо суверэнных дзяржаў-удзельніц СНД, краін Прыбалтыкі і Еўропы.

Першы кніжны кірмаш у Мінску прайшоў у 1994 годзе. У ім узяло ўдзел 315 фірм з 8 краін СНД і Прыбалтыкі. У межах форуму адбыўся ўстаноўчы сход Беларускай асацыяцыі кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў.

Найбольшую колькасць краінудзельніц Мінскі кніжны форум сабраў у 2005 годзе, калі ў беларускую сталіцу завіталі прадстаўнікі 33 дзяржаў свету. А ў 2006-м быў упершыню ўведзены статус Ганаровага госця Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Першай гэта права атрымала Расія. У якасці Ганаровых гасцей нашага форуму выступалі таксама Украіна, Ізраіль, Казахстан, Францыя, Германія, Венесуэла. Дарэчы, Ганаровым госцем XX ММКВК зноў была Расія. Яе экспазіцыя — плошчай 272 квадратныя метры — стала самай вялікай з ліку краін у статусе Ганаровага госця. А самую насычаную праграму ў статусе Ганаровага госця прадставіла Францыя. На стэндзе гэтай краіны падчас форуму ў 2010 годзе прайшло 29 прэзентацый, «круглых сталоў», прафесійных дыскусій.

У 2012-м на форуме з'явіўся і статус Цэнтральнага экспанента. Тады ім стала Арменія, а сёлета гэтая роля была адведзена Ірану.

2013 год у гісторыі выстаўкі стаў рэкордным па колькасці наведвальнікаў кірмашу. Каб пазнаёміцца з навінкамі ад выдавецтваў з розных краін свету, у дні працы выстаўкі ў БелЭкспа завітала 55 тысяч чалавек.

**Чэслава ПАЛУЯН**

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

**Беларуская літаратура**



***Баравікова, Р. А.* Кава для дамавіка: апавяданні, аповесць / Раіса Баравікова. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 300 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1450-8 (у пер.).**

*Чытачы, знаёмыя з творчасцю паэтэсы, празаіка, казачніцы Раісы Баравіковай, думаю, ад кожнай новай яе кнігі чакаюць нейкага сюрпрыза — з'яўлення новага героя, падарожжа на незвычайную планету, нечаканага сюжэтнага хода. Вось і гэтая кніга не падмане аматараў смелых аўтарскіх рашэнняў. Гэтым разам гаворка пойдзе пра паралельны свет, які пісьменніца досыць арганічна ўпісвае ў свет творчай фантазіі. Тут няма аднастайных і вядомых сюжэтаў зямнога свету, замест іх чытач знаёміцца з займальнымі і вельмі праўдзівымі, але ў той жа час фантастычнымі гісторыямі на тэмы жыцця і смерці, кахання і расчараванняў.*

**Белы, А. І.** Прыватны сектар: паэтычны зборнік / Аляксей Белы. — Брэст: Альтернатива, 2013. — 119 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-521-379-7.

**Будакашалёўшчына літаратурная**: Паэзія. Проза / [укладальнікі: А. М. Зэкаў, М. М. Чарняўскі]. — Гомель: Барк, 2013. — 146 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Зямшчае аўтараў: Адашкевіч Б. Я., Атрошанка Т. А., Бабкоў У. Я., Буткевіч М. А., Габееў В. Х., Гарэлікава Т. І., Гаспадароў П. П., Дзюба У. І., Зэкаў А. М., Калінічэнка В. І., Кейзараў А., Літвінаў М. І., Мільячэнка А. М., Міронаў М. П., Новікаў М. К., Стрыгалёў М. Л., Чарняўскі М., Шальманаў І. І. — 500 экз. — ISBN 978-985-6763-89-5 (памылк.).

**Дубоўскі, В. Л.** На пачатку маўчання: кніга паэзіі / Валеры Дубоўскі. — Мінск: Юніпак, 2013. — 173 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6802-65-5.

**Захаранка, М.** І тады ўдарыў бом: апавяданні і п'есы / Мікола Захаранка; [укладанне Анатоля Астапенкі]. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 219 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-7057-52-8.

**Зэкаў, А. М.** Пад кронай белых аблачын: вершы / Анатоль Зэкаў; [мастак: У. М. Жук]. — Мінск: Ковчег, 2013. — 171 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-7055-44-9.

**Камейша, К. В.** Ад Кромані да Свіцязі: лірычныя запісы, мініяцюры, эсэ / Казімір Камейша. — Мінск: Мастацкая літаратура , 2013. — 412 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1448-5 (у пер.).

**Карамазаў, В.** Выбраныя творы / Віктар Карамазаў; [укладанне і каментар аўтара; прадмова Анатоля Бараноўскага]. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 573 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-7057-38-2 (у пер.).

**Кукуць, М. М.** На сёмым небе: аповесці, апавяданні / Міледзій Кукуць. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 219 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1452-2 (у пер.).

**Супрунчук, В. П.** Цвіў белы-белы бэз: аповесць, апавяданні / Віктар Супрунчук. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 269 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1432-4.

**Хадановіч, А.** Разам з пылам: калекцыя перакладаў / Андрэй Хадановіч. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 199 с. — Змяшчае пераклады аўтараў: Айгі Г., Андруховіч Ю., Апалінэр Г., Ахмадуліна Б., Бадлер Ш., Бараньчак С., Баске А., Бродскі І., Віён Ф., Вуацюр В., Галчыньскі К. І., Гензбур С., Герасімюк В., Герберт З., Дон Д., Дыкінсан Э., Ейтс У. Б., Жадан С. Карэм М., Катул Г. В., Качмарскі Я., Квінт Гарацый Флак, Коэн Л., Крыніцкі Р., Лышэга А., Ляйп Г., Малармэ С., Малерб Ф., Мандэльштам В., Мілаш Ч., Міцкевіч А., Нэрваль Ж. дэ, Одэн У. Х., Паўнд Э., По Э. А., Пэрс С.-Ж., Рыльке Р. М., Рэмбо А., Седакова В., Стывенс У., Твардоўскі Я. — 500 экз. — ISBN 978-985-7057-49-8.

**Цвёрды арэшак** : абразкі, апавяданні, прыпавесці, навелы, фантазіі / [укладанне Алены Масла]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 284 с. — Змяшчае аўтараў: Бензярук А., Бензярук Р., Гапееў В., Касцюкевіч М., Клімковіч М., Нераток Ю., Федарэнка А. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1429-4 (у пер.).

**Шамякін, І. П.** Збор твораў: у 23 т. / Іван Шамякін; рэдкалегія: У. В. Гніламёдаў [і інш.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2010– — ISBN 978-985-02-1190-3 (у пер.).

Т. 12: Сэрца на далоні: раман / рэдактары тома: А. І. Бельскі, Т. С. Голуб; [падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі Тацццяны Махнач; пасляслоўе Алеся Бельскага]. — 2013. — 532 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-02-1425-6.

**Польская літаратура**

**Сапковский, А.** Цири = Ciri: [сборник] / Анджей Сапковский; [перевод с польского и примечания Е. П. Вайсброта]. — Москва: АСТ, 2013. — 1213 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-078268-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1987-0 (Харвест) (в пер.).

**Мастацкая літаратура для дзяцей і юнацтва**

**Алексеев, С. П.** 100 рассказов о войне: [сборник: для младшего и среднего школьного возраста] / С. Алексеев. — Москва: АСТ, 2013. — 348 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1500 экз. — ISBN 978-5-17-063573-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2073-9 (Харвест) (в пер.).

**Бокова, Т. В.** Увлекательное чтение для маленького гения: [для младшего школьного возраста] / Татьяна Бокова; рисунки И. и А. Чукавиных. — Москва: АСТ, 2012. — 61 с. — Издано при участии ООО «Астрель» (Москва) и ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-077432-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1932-0 (Харвест) (в пер.).

**Волшебные истории**: [для младшего и среднего школьного возраста / перевод с итальянского С. Н. Булекова]. — Москва: АСТ, 2013. — 143 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-074442-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1446-2 (Харвест) (в пер.).

**Горшочек каши**: по мотивам сказки братьев Гримм: [для младшего школьного возраста] / автор сценария В. Голованов; художник-постановщик Т. Зуйкова. — Москва: АСТ, 2013. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-077637-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1969-6 (Харвест) (в пер.).

**Детям о любви**: [литературные произведения классических и современных писателей: для среднего школьного возраста / составитель Куцаева Наталия Георгиевна; художник Г. Л. Иванова]. — 3-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 61 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — Содержит авторов: Антипова-Татур Н., Безымянная О., Лукашевич К., Наумович И., Немирович-Данченко В., Параскевин А., Паустовский К., Пермяк Е., Романов К., Савицкая С., Тургенев И., Ушинский К. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-598-5.

**Детям о смирении**: [литературные произведения классических и современных писателей: для среднего и старшего школьного возраста / составитель Велько Александр Владимирович; художник Е. А. Покалицына]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 62 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — Содержит авторов: Адамчиков П., Гуров В., Лаврентьева С., Ладонщиков Г., Михалков С., Осеева В., Панов И., Пермяк Е., Санин Е., Соловьев-Несмелов Н., Тургенев И., Федоров-Давыдов А., Чарская Л., Чирков В. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-402-5.

**Достоевский, Ф. М.** Преступление и наказание: роман в 6 ч. с эпилогом: [для старшего школьного возраста] / Ф. М. Достоевский. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 607 с. — 31819 экз. — ISBN 978-985-11-0707-6 (в пер.).



***Залатая кніга казак: [для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту / літаратурная апрацоўка В. Паўлушэнка]. — Мінск: Харвест, 2012. — 127 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-16-9565-8 (у пер.).***

*Гэтае выданне ўжо досыць доўгі час трымаецца ў рэйтынгах самых папулярных кніг па выніках продажаў розных айчынных кнігарняў. І, думаецца, не выпадкова. Выдатны падбор казак, яркія ілюстрацыі, досыць нізкі кошт… І нават на фоне агульнага багацця выбару дзіцячай літаратуры (а яна сёння перажывае ўздым) гэтая кніга глядзіцца вельмі прыстойна. Больш за тое, мы тут маем справу з улюбёным жанрам маленькіх чытачоў і слухачоў — казкай. Таму пастаяннае месца ў кошыку пакупак бацькоў і на паліцы любімых выданняў іх дзяцей гэтай кнізе забяспечана.*

**Зощенко, М. М.** Самое главное: рассказы для детей: [для младшего школьного возраста] / М. Зощенко; рисунки А. Андреева. — Москва: АСТ, 2013. — 94 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-077545-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2027-2 (Харвест) (в пер.).

**Карганова, Е. Г.** Желтик: [для дошкольного возраста] / Е. Карганова; [художник мультфильма Н. Свободова; обработка иллюстраций Е. Вульф]. — Москва: Астрель, 2012. — 42 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-271-45480-6 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1907-8 (Харвест) (в пер.).

**Карганова, Е. Г.** Песенка мышонка: [для дошкольного возраста] / Е. Карганова; [художник-постановщик А. Волков]. — Москва: Астрель, 2012. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск).— 4000 экз. — ISBN 978-5-271-45937-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1770-8 (Харвест) (в пер.).

**Коваль, Ю. И.** Сказка про Зеленую Лошадь: [сказки: для младшего школьного возраста] / Юрий Коваль; художник Л. Казбеков. — Москва: АСТ, 2013. — 78 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-077958-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1993-1 (Харвест) (в пер.).

**Кот, Лиса и Петух**; Лисичка-сестричка и Волк; Кот и Лиса: [русские народные] сказки: [для старшего дошкольного и младшего школьного возраста] / художник Е. М. Дидковская. — Минск: Полиграфкомбинат им. Я. Коласа, 2013. — 48 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-7056-09-5 (в пер.).

**Линдгрен, А.** Знаменитый сыщик Калле Блюмквист; Знаменитый сыщик Калле Блюмквист рискует; Калле Блюмквист и Расмус; Расмус, Понтус и Растяпа; Расмус-бродяга: [повести: для среднего школьного возраста] / Астрид Линдгрен; [перевод со шведского Н. Городинской-Валлениус, Е. Тиновицкой, Н. Беляковой; художники: Г. В. Соколов, Б. В. Тржемецкий, М. Е. Федоровская]. — Москва: АСТ, 2012. — 765 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-070306-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1851-4 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** Карлсон, который живет на крыше; Карлсон строит башню: [главы из книги «Малыш и Карлсон, который живет на крыше»: для младшего школьного возраста] / Астрид Линдгрен; [перевод Л. Лунгиной; художник А. Савченко]. — Москва: АСТ, 2012. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-044818-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-0338-1 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** Малыш и Карлсон: сказочная повесть: [для среднего школьного возраста] / Астрид Линдгрен; [перевод со шведского Л. Лунгиной]. — Москва: АСТ, 2012. — 172 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-17-071395-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2061-6 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** Малыш и Карлсон: сказочная повесть: [для среднего школьного возраста] / Астрид Линдгрен; [перевод со шведского Л. Лунгиной]. — Москва: АСТ, 2012. — 172 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-040083-6 (АСТ). — ISBN 978-985-13-9778-1 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** Малыш и Карлсон, который живет на крыше: сказочная повесть: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / Астрид Линдгрен; перевод со шведского Л. З. Лунгиной; художник Анатолий Савченко. — Москва: АСТ, 2012. — 142 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 40000 экз. — ISBN 978-5-17-052096-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1956-6 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** Малыш и Карлсон, который живет на крыше: сказочная повесть: [для младшего школьного возраста] / Астрид Линдгрен; перевод со шведского Л. Лунгиной; рисунки А. Савченко. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 124 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-039246-9 (АСТ). — ISBN 978-5-271-14843-9 (Астрель). — ISBN 978-985-18-2050-0 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** Малыш и Карлсон, который живет на крыше: сказочные повести: [для младшего школьного возраста] / Астрид Линдгрен; [перевод со шведского Л. Лунгиной; художник А. Савченко]. — Москва: АСТ, 2012. — 439 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 6000 экз. — ISBN 978-5-17-044995-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2045-6 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** Малыш, Карлсон и все-все-все: повести / Астрид Линдгрен; в переводе [со шведского] Л. З. Лунгиной; [художники: Бьёрн Берг, Илон Викланд, Ингрид Ванг Нюман]. — Москва: АСТ, 2012. — 909 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск).. — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-054325-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2026-5 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** Мио, мой Мио!: сказочная повесть: [для среднего школьного возраста] / Астрид Линдгрен; перевод со шведского И. Токмаковой; [художник Н. Салиенко]. — Москва: АСТ, 2012. — 157 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-054226-0 (АСТ). — ISBN 978-985-16-6438-8 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** На острове Сальткрока: повесть: [для среднего школьного возраста] / Астрид Линдгрен; перевод со шведского О. Мяэотс; художник Б. Тржемецкий. — Москва: АСТ, 2012. — 349 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-057983-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2037-1 (Харвест) (в пер.).

**Линдгрен, А.** Почти детективные истории для детей: [повести: для среднего школьного возраста] / Астрид Линдгрен; [перевод со шведского Н. Беляковой,' Н. Городинской-Валлениус, Е. Тиновицкой]. — Москва: АСТ, 2012. — 954 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 10000 экз. — ISBN 978-5-17-074172-4 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2010-4 (Харвест) (в пер.).

**Лучшие стихи и сказки в картинках В. Сутеева**: [для дошкольного возраста]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 124 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Барто А., Кипнис И., Маршак С., Михалков С., Пляцковский М., Юсупов Н. — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-070755-3 (АСТ). — ISBN 978-5-271-31584-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-0280-3 (Харвест) (в пер.).

**Любимые русские сказки в рисунках Ю. Коровина**: [русские народные сказки: для дошкольного возраста]. — Москва: Астрель, 2012. — 42 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит пересказчика и обработчика: Толстой А. Н., Афанасьев А. Н. — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-45105-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1789-0 (Харвест).

**Любимые русские сказки в рисунках Ю. Коровина**: [русские народные сказки: для дошкольного возраста]. — Москва: Астрель, 2012. — 42 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-271-45104-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1788-3 (Харвест) (в пер.).

**Любимые сказки**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Виктора Чайчука и Александра Ткачука. — Изд. 2-е, стереотипное. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 223 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0656-9 (в пер.).

**Марченко, А. М.** Дом со сверчком: домашние стихи: [для дошкольного возраста] / Алла Марченко; рисунки Веры Цепиловой. — Москва: АСТ, 2012. — 42 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-077429-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1879-8 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Азбука в стихах и картинках: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / С. Маршак. — Москва: АСТ: Астрель, 2013. — 124 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-077805-8 (АСТ). — ISBN 978-5-271-44215-5 (Астрель). — ISBN 978-985-16-9924-3 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Двенадцать месяцев: сказка-пьеса: [(в сокращении): для детей до 3 лет: (для чтения родителями детям)] / С. Маршак; художник А. Сазонов; обработка иллюстраций К. Прытковой. — Москва: АСТ, 2013. — 63 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-048208-5 (АСТ). — ISBN 978-985-16-7688-6 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Кошкин дом: сказка-пьеса: [(в сокращении): для дошкольного возраста] / С. Маршак; художники: Т. Сазонова, К. Прыткова, К. Романенко. — Москва: АСТ: Астрель, 2013. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-047556-8 (АСТ). — ISBN 978-5-271-18379-9 (Астрель). — ISBN 978-985-16-9560-3 (Харвест) (в пер.).

**Маршак, С. Я.** Разноцветная книга: стихи, сказка, английские песенки: [для дошкольного возраста] / С. Маршак; [художники: С. Бордюг и др.]. — Москва: АСТ, 2013. — 107 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Киплинг Р., Лир Э., Милн А. А. — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-065896-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1866-8 (Харвест) (в пер.).

**Матюшкина, К.** Влипсики атакуют!: [сборник] / Катя Матюшкина; [рисунки: Катя Матюшкина; стихи: Александр Тимофеев]. — Москва: АСТ, 2013. — 189 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-078514-8 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1515-5 (Харвест) (в пер.).

**Матюшкина, К.** Трикси-Фикси. Волшебница Злюня и ее пакости / [Катя Матюшкина; иллюстрации Валерия Новоселова и Кати Матюшкиной]. — Москва: АСТ; Санкт-Петербург: Астрель-СПб, 2013. — 60 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-078688-6 (АСТ). — ISBN 978-5-9725-2339-9 (Астрель-СПб). — ISBN 978-985-18-1554-4 (Харвест) (в пер.).

**Маяковский, В. В.** Что ни страница, — то слон, то львица: [для дошкольного и младшего школьного возраста] / В. В. Маяковский; [художник К. В. Остахов]. — Минск: Сказ, 2013. — 14 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-015-0.

**Михалков, С. В.** Азбука: стихи: [для младшего школьного возраста] / Сергей Михалков; рисунки В. Чижикова. — Москва: АСТ, 2013. — 31 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-077630-6 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1847-7 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Дядя Степа – милиционер: [для дошкольного возраста] / Сергей Михалков; художник-постановщик Л. Шварцман. — Москва: Астрель, 2012. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-271-46010-4 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1773-9 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Знакомые лица; Миллионер; Сорока-наушница / С. Михалков; [художники-постановщики: Г. Брашишките, В. Бордзиловский, Ю. Прытков]. — Москва: Астрель, 2012. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-271-45584-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1784-5 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Козел-музыкант: [для младшего школьного возраста] / С. Михалков; [художники-постановщики: П. Репкин, В. Василенко, А. Винокуров]. — Москва: АСТ, 2012. — 47 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-077259-9 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1904-7 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Про непослушных малышей: [стихи: для дошкольного возраста] / С. Михалков; рисунки В. Сутеева. — Москва: АСТ, 2013. — 45 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-077631-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1946-7 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Стихи друзей: из польского поэта Юлиана Тувима: [для младшего школьного возраста] / Сергей Михалков; рисунки В. Чижикова. — Москва: АСТ: Астрель, 2013. — 64 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-077629-0 (АСТ). — ISBN 978-5-271-46364-8 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1897-2 (Харвест) (в пер.).

**Михалков, С. В.** Три поросенка: сказка: [(по мотивам английской народной сказки): для дошкольного возраста: новая редакция] / Сергей Михалков; рисунки В. Чижикова. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 31 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-077435-7 (АСТ). — ISBN 978-5-271-46275-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1912-2 (Харвест) (в пер.).

**Орлова, А.** Читаем в детском саду / Анастасия Орлова. — Москва: АСТ, 2013. — 68 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-077640-5 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1931-3 (Харвест) (в пер.).

**Остер, Г. Б.** Петька-микроб: [для младшего школьного возраста] / Г. Остер; художник Валерий Дмитрюк. — Москва: Астрель, 2012. — 123 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-271-41377-3 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1760-9 (Харвест) (в пер.).

**От 6 месяцев до 3 лет**: стихи, сказки, песенки, потешки, загадки: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям) / художники: И. Цыганков, И. Блохина]. — Тула: Родничок; Москва Астрель, 2013. — 318 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Аким Я., Александрова О., Барто А., Берестов В., Бианки В., Гудков В., Жак В., Котляр Э., Лагздынь Г., Лунин В., Мазнин И., Орлов В., Пикулева Н., Погореловский С., Сапгир Г., Селезнева Н., Серова Е., Сеф Р., Сладков Н., Усачев А., Шим Э., Шлыгин А., Яхнин Л. — 4000 экз. — ISBN 978-5-89624-510-0 (Родничок). — ISBN 978-5-271-42837-1 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1970-2 (Харвест) (в пер.).

**Радуга-дуга**: русские народные сказки, загадки, считалки, скороговорки, колыбельные и песенки-потешки: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 223 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-17-0655-2 (в пер.).

**Ситников, Ю.** Маска для злодея: [повесть: для младшего и среднего школьного возраста] / Юрий Ситников. — Минск: Букмастер, 2013. — 315 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-538-4 (в пер.).

**Сказки для самых маленьких**: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям) / басни И. А. Крылова; сказки в пересказе Е. Каргановой, С. Летовой, М. Тарловского]; рисунки Тони Вульфа. — Москва: Астрель, 2012. — 42 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-271-44963-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-2031-9 (Харвест) (в пер.).

**Сказки для самых маленьких**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Виктора Чайчука и Александра Ткачука. — Изд. 2-е, стереотипное. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 223 с. — 2550 экз. — ISBN 978-985-17-0658-3 (в пер.).

**Сказки маленьким**: [для дошкольного возраста]. — Москва: АСТ: Астрель, 2012. — 38 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — Содержит авторов: Берестов В., Битный М., Остер Г., Сутеев В., Толстой А. Н., Успенский Э., Ушинский К. Д., Цыферов Г., Чуковский К. — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-077438-8 (АСТ). — ISBN 978-5-271-46282-5 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1880-4 (Харвест) (в пер.).



***Русалочки: феи Винкс в подводном мире Андрос: [для младшего и среднего школьного возраста / перевод с итальянского Анны Орловой]. — Москва: АСТ, 2013. — 57 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3000 экз. — ISBN 978-5-17-075273-7 (АСТ). — ISBN 978-985-18-1985-6 (Харвест) (в пер.).***

*Літаратура ў жанры фэнтэзі папулярная не толькі сярод дарослых, але і сярод дзяцей і падлеткаў. Серыя кніг, напісаных на аснове італьянскай анімацыйнай стужкі, рэжысёра і аўтара сцэнарыя Іджыніа Страфі, — добры доказ гэтаму. Добрыя феі з клуба Вінкс гэтым разам трапляюць у падводныя недры Андраса, каб дапамагчы русалачкам, якія апынуліся ў вялікай небяспецы. Адметна, што і пасля заканчэння гэтых прыгод чытачоў чакаюць новыя гісторыі пра добрых фей.*

**Сутеев, В. Г.** Кто сказал «мяу»?: [для дошкольного возраста] / В. Сутеев; рисунки автора. — Москва: АСТ, 2013. — 37 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-078373-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2049-4 (Харвест) (в пер.).

**Сухова, Е. А.** Сумеречный охотник. Сезон браконьеров: [для среднего и старшего школьного возраста] / Елена Сухова. — Москва: АСТ; Санкт-Петербург: Астрель-СПб, 2013. — 345 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-078375-5 (АСТ). — ISBN 978-5-9725-2451-8 (Астрель-СПб). — ISBN 978-985-18-2005-0 (Харвест) (в пер.).

**Толкин, Д. Р. Р.** Хоббит: [повесть] / Джон Р. Р. Толкин; [перевод с английского К. Королева; перевод стихов В. Тихомирова]. — Москва: АСТ, 2013. — 284 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2500 экз. — ISBN 978-5-17-076811-0 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2014-2 (Харвест) (в пер.).

**Толкин, Д. Р. Р.** Хоббит: [повесть] / Джон Р. Р. Толкин; [перевод с английского К. Королева; перевод стихов В. Тихомирова]. — Москва: АСТ, 2013. — 284 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-078506-3 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2015-9 (Харвест) (в пер.).

**Толкин, Д. Р. Р.** Хоббит: [повесть] / Джон Р. Р. Толкин; [перевод с английского К. Королева; перевод стихов В. Тихомирова]. — Москва: АСТ, 2013. — 284 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 3500 экз. — ISBN 978-5-17-078576-6 (АСТ). — ISBN 978-985-20-0299-8 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Дядя Федор, пес, кот и другие: сказки: [для детей до 3 лет: (для чтения взрослыми детям)] / Э. Успенский. — Москва: АСТ: Астрель, 2013. — 122 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 4000 экз. — ISBN 978-5-17-063740-9 (АСТ). — ISBN 978-5-271-26045-2 (Астрель). — ISBN 978-985-16-7689-3 (Харвест) (в пер.).

**Успенский, Э. Н.** Про девочку Веру и обезьянку Анфису: [повесть-сказка: для дошкольного возраста] / Э. Успенский; художник Г. Соколов. — Москва: АСТ, 2013. — 143 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 7000 экз. — ISBN 978-5-17-077776-1 (АСТ). — ISBN 978-985-18-2042-5 (Харвест) (в пер.).

**Чудесная полянка**: русские народные сказки, загадки, считалки, скороговорки, колыбельные и песенки-потешки: [для дошкольного и младшего школьного возраста / составление и литературная обработка Сергея Кузьмина]; иллюстрации Ирины и Владимира Пустоваловых. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 223 с. — 2550 экз. — ISBN 978-985-17-0657-6 (в пер.).

**Чуковский, К. И.** Сказки: [для детей до 3 лет: для чтения взрослыми детям] / К. Чуковский. — Москва: АСТ, 2013. — 125 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 5000 экз. — ISBN 978-5-17-058322-5 (АСТ). — ISBN 978-985-16-6963-5 (Харвест) (в пер.).

# Гонка за прывідамі

Прызнаюся, я не вельмі люблю чытаць творы пра вайну. Хіба толькі Хэмінгуэя, Рэмарка, Олдынгтана і Гарэцкага… Але апавяданні амерыканскага пісьменніка, лаўрэата Пулітцэраўскай прэміі, што ўвайшлі ў зборнік «Самагубная гонка», які не так даўно пабачыў свет пры падтрымцы ТАА «Харвест», пераканалі мяне ў адваротным: ваенная (дакладней, пасляваенная) проза можа прыцягваць увагу. Варта толькі знайсці правільны падыход. У выпадку са Стайранам гэта глыбокі псіхалагізм, яркасць характараў і нечаканая развязка. Апроч «Пяці апавяданняў пра марскую пяхоту», якія склалі першую частку кнігі, у выданне ўвайшла кніга-эсэ «Бачная цемра».




## ДЗЁННІК ДЭПРЭСІІ

Думаецца, лагічна было б пачаць расповед менавіта з другой часткі — кнігі-эсэ «Бачная цемра. Успамін пра вар'яцтва». Яна ўпершыню пабачыла свет у 1990 годзе.

Псіхолагі сцвярджаюць, што сёння дэпрэсія — адно з самых распаўсюджаных псіхічных захворванняў. Яна паддаецца лячэнню, і для дасягнення пэўнага станоўчага эфекту доктар можа выкарыстоўваць як спецыяльныя хімічныя рэчывы — антыдэпрэсанты, так і немедыкаментозныя метады лячэння. Напрыклад, псіхатэрапію. Здавалася б, гэта шырокавядомыя, я б нават сказала, сухія факты. Але што рабіць, калі вы захварэлі на дэпрэсію? Калі вы самі разумееце, што гэта не проста часовы стан, абумоўлены стомленасцю ці нейкай псіхалагічнай траўмай, але сапраўдная хвароба?

У некаторай ступені можа дапамагчы кніга Уільяма Стайрана. Заўсёды лягчэй пераадольваць цяжкасці, ведаючы, што ты не адзін, што ёсць чалавек, які справіўся з хваробай і да таго ж выдатна ўсё апісаў у кнізе. Адметна, што на клінічную дэпрэсію пакутаваў і бацька пісьменніка, а ў 1985 годзе на яе захварэў сам аўтар.

Твор «Бачная цемра» пачаўся з лекцыі, якую Уільям Стайран прачытаў у 1989 годзе ў Балтымары на сімпозіуме па афектыўных расстройствах, арганізаваным аддзяленнем псіхіятрыі медыцынскай школы Джона Хопкінса. Потым тэкст быў значна пашыраны і перароблены аўтарам у эсэ, якое было надрукавана ў часопісе *Vanity Fair*. Але перад намі самы поўны варыянт кнігі. Справа ў тым, што ў першай версіі эсэ адсутнічае вельмі важны момант — апісанне паездкі ў Парыж, якая ў многім і стала адным са штуршкоў для развіцця дэпрэсіўнага стану. Як прызнаецца сам аўтар у прадмове, нават нягледзячы на тое, што месца для публікацыі яго тэксту ў часопісе было выдзелена досыць шмат, жаданне распавесці пра іншыя важныя моманты ўсё ж прымусіла яго апусціць менавіта гэты ўрывак. У кнізе, што пабачыла свет сёлета ў рускім перакладзе (апублікаваны ён упершыню), па сутнасці, прадстаўлены поўны варыянт тэксту.

Надзвычай таленавіты аўтар, Стайран вельмі добра апісвае ўласны стан на пачатку хваробы, у перыяд яе развіцця, адчуванні падчас прыёму розных лекаў, шлях да выздараўлення. У тым, што сам пісьменнік пасля розных спроб і пакут паспяхова справіўся з дэпрэсіяй, можна пераканацца, зірнуўшы хаця б на спіс яго кніг, што пабачылі свет пасля 1989 года. Гэта сапраўды выдатныя творы, сярод іх — раман «Шлях воіна» (2001), над якім аўтар працаваў амаль дзесяць год, а таксама зборнік «Самагубная гонка: Пяць апавяданняў пра марскую пяхоту» (апублікаваны пасмяротна ў 2009 годзе).

## ВАЙНА, ЗНОЎ ВАЙНА

Тэма вайны добра знаёмая Уільяму Стайрану. Сам пісьменнік у час Другой сусветнай быў вымушаны хутка прайсці пачатковы курс навучання і выправіцца на службу ў марскую пяхоту. Універсітэт ён змог скончыць толькі ў 1946 годзе, ужо пасля заканчэння вайны і дэмабілізацыі з арміі ў званні лейтэнанта запасу. Вядома, што менавіта падчас службы ў марской пяхоце ў зборніку студэнцкіх работ Стайран апублікаваў сваё першае апавяданне і быў абвінавачаны ў занадта моцным перайманні стылю Уільяма Фолкнера.

У 1950 годзе пачалася вайна ЗША з Карэяй, і тых, хто калісьці звольніўся ў запас, зноў прызвалі ў войска. Так Уільям Стайран ужо другі раз патрапіў у марскую пяхоту. З-за праблем са зрокам пісьменнік звольніўся з войска ў 1952 годзе, а праз год выйшла аўтабіяграфічная аповесць «Доўгі марш» (1953). Кніга «Самагубная гонка: Пяць апавяданняў пра марскую пяхоту», пра якую мы і павядзём далей гаворку, была апублікавана пасля смерці аўтара.




Варта адзначыць, што, нягледзячы на тое, што перад намі — зборнік апавяданняў, можна казаць пра іх не паасобку, а разам, бо гэтыя творы кароткай формы аб'яднаныя агульнымі падзеямі (Карэйскай вайной і пасляваенным часам) і героямі (вобразы апавядальніка, якога завуць Пол Уайтхерст, яго сяброўкі, а таксама сябра Лэйсі і яго жонкі-францужанкі падарожнічаюць з аднаго апавядання ў другое). З іх ліку выбіваецца хіба толькі першы расповед «Блэнкеншып», у якім дзейнічаюць зусім іншыя героі, але і ён іграе сваю ролю ў цыкле. Узняўшы філасофскае пытанне сутнасці вайсковай службы праз параўнанне гэтай працы са зняволеннем, аўтар нібыта папярэджвае чытача: на вайне ўсе дзейнічаюць не па сваёй волі.

Апавяданне «Марскі пехацінец Марыёт» пераносіць чытача ў інтэрнат для халастых афіцэраў, якія праходзяць паўторную падрыхтоўку перад адпраўленнем войскаў у Карэю, на месца баявых дзеянняў. Вайна яшчэ далёка, яна бачыцца дзеючым асобам толькі як магчымая пагроза. У той жа час чытач усведамляе, што перад ім не толькі маладыя курсанты, ёсць у іх ліку і дасведчаныя марскія пехацінцы, якія ўжо ваявалі ў гады Другой сусветнай. Яны разам успамінаюць былое, пачуваюцца досыць вольна і нават параўноўваюць умовы побыту афіцэраў падчас розных ваенных кампаній.

Адметна, што ў гэтым апавяданні аўтар звяртае ўвагу на суадносіны ваеннага і мастацкага ў асобе і характары аднаго чалавека. Патлумачу. Галоўны герой (ён жа апавядальнік) Пол Уайтхерст, выпускнік каледжа з гуманітарнай спецыялізацыяй, вымушаны зноў ісці ў войска. Ён чакае выхаду сваёй першай кнігі, перажывае з-за таго, што рэцэнзія-прадмова апынаецца не вельмі станоўчай. Яшчэ больш пакутлівым гэты час робіць тое, што маладому пісьменніку няма з кім падзяліцца вынікамі творчых эксперыментаў. Толькі яго сябар Лэйсі з задавальненнем чытае гранкі кнігі. Лэйсі і знаёміць яго з гэтым самым пехацінцам Марыётам. Напачатку ён падаецца Уайтхерсту выдатным чалавекам, бо Марыёт мае тонкае адчуванне літаратуры і захапляецца тымі ж аўтарамі, што і апавядальнік. Але напрыканцы твора мы бачым класічную стайранаўскую развязку — зусім для нас нечаканую. Апынаецца, што вайсковая служба і расповеды пра подзвігі для Марыёта намнога важнейшыя, чым «мастацкі» бок яго натуры.

Гэтак жа нечакана заканчваецца і апавяданне «Самагубная гонка». Пачаўшыся як згадка пра вясёлыя падарожжы Уайтхерста і Лэйсі да сваіх каханых у іншы горад, якія яны здзяйсняюць кожныя выхадныя, гісторыя заканчваецца згадкамі пра падзеі Другой сусветнай вайны. У крытычнай сітуацыі на дарозе ў паўсвядомым стане Лэйсі бачыць прывід сабакі і распавядае свайму сябру, як аднойчы, падчас жорсткага бою, сабака, звар'яцелы ад моцных гукаў выбухаў, учапіўся яму ў руку і наскрозь пракусіў яе. Пад кулямётным абстрэлам ворагаў Лэйсі здолеў застрэліць сабаку і вызваліць руку.

Апошнія апавяданні цыкла — «Дом майго бацькі» і «Элабей, Анабон і Карыска» пераносяць нас ужо ў пасляваенны час. Жывы і здаровы, Уайтхерст вяртаецца ў бацькоўскі дом. Чытач, пэўна, заўважыць, з якой радасцю аўтар апісвае самыя простыя рэчы: пах блінцоў і кавы зранку, смачную ежу, прыгожы від з вакна на марскі заліў, адчуванне, што ён жывы і цалкам здаровы. Пасля такіх яркіх вобразаў і ўласнае жыццё падаецца больш прывабным, нібыта расквечваецца новымі фарбамі. Але для героя апавяданняў цымус гэтых адчуванняў у іншым: прайшоўшы праз самыя страшныя ваенныя падзеі, ён выжыў і вярнуўся. А мог бы і загінуць…

Падаецца, што прывабнасць прозы Уільяма Стайрана — не ў сюжэтах, а ў манеры вядзення расповеду. Аўтар цалкам шчыры з чытачом, незалежна ад таго, пра што ён піша: уласная хвароба, вайна, цёплая і шчымлівая любоў да бацькі, успаміны пра маленства. Кажуць, што «Самагубная гонка» — не самая лепшая кніга для пачатку знаёмства з творчасцю Стайрана, лепш звярнуць увагу на «Выбар Сафі» ці «Прызнанні Ната Цёрнера» (менавіта за гэты раман ён атрымаў Пулітцэраўскую прэмію). Але калі «няўдалая» кніга так захапляе, то які эфект аказваюць астатнія? Думаю, варта праверыць.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Чалавек супраць тыгра

Пасля выхаду гэтай кнігі яе аўтара, канадскага журналіста Джона Вэйланта, які напісаў шмат вострых і актуальных артыкулаў, прысвечаных розным аспектам захавання чысціні навакольнага асяроддзя, сталі называць заснавальнікам новага жанру ў літаратуры — прыродаахоўнага трылера. Выданне «Тыгр. Гісторыя помсты і выратавання» адразу ж пасля выхаду ў 2010 годзе атрымала сталых прыхільнікаў. Цяпер і беларускія чытачы маюць магчымасць пазнаёміцца з нашумелай кнігай — гісторыяй амурскага тыгра-людаеда, уплеценай у расповед пра ўзаемаадносіны чалавека і драпежніка, прадстаўніка віду, які вымірае. Выданне пабачыла свет пры падтрымцы ТАА «Харвест».




Нягледзячы на тое, што кнігу назвалі «прыродаахоўным трылерам», яе жанр складана вызначыць адназначна. Ён зменлівы, але пры гэтым сам расповед успрымаецца цалкам гарманічна. Аўтар то прыводзіць сухія звесткі пра адметнасці існавання віду амурскага тыгра ў прыродным асяроддзі, то засяроджваецца толькі на гісторыі, то спецыяльна стварае атмасферу сапраўднага трылера. Яшчэ больш жудасна становіцца ад усведамлення таго, што прыведзеныя ў выданні факты рэальныя і перад табой амаль дакументальная кніга. Пры гэтым зразумела, што сапраўдны злачынца — чалавек — у кантэксце расповеду апынаецца ахвярай. Ды аўтар справядліва расстаўляе акцэнты: звер праяўляе надзвычайную жорсткасць не таму, што гэта ў яго прыродзе, а таму, што чалавек сам дапусціў гэта, паставіўшы пад пагрозу цэлы від.

Звернемся да сюжэта. 1997 год. У далёкаўсходнім пасёлку Сабаліны з'явіўся крывавы забойца. Яго ахвярам наканавана смерць — нават самы смелы паляўнічы бяссільны ў барацьбе супраць раззлаванага тыгра. Каманда інспектараў выклікаецца ў Сабаліны, каб знайсці і ліквідаваць забойцу. Але нездарма мясцовыя жыхары паважліва называюць тыгра ўладаром тайгі: нават паранены і адзінокі, ён застаецца моцным праціўнікам: ні колькасная перавага, ні зброя не гарантуюць людзям перамогу над раз'юшанымі сіламі прыроды.

**Юзэфа ВОЎК**

## Выдавецкія клопаты

# Місія — выратаваць і захаваць

2013 год выдаўся досыць багатым на знакавыя даты для айчынных выдавецтваў. Вось і «Тэхналогія» напрыканцы лістапада адсвяткавала свой 25-гадовы юбілей. За чвэрць стагоддзя тут зроблена нямала: выйшла факсімільнае ўзнаўленне газеты «Наша ніва», заснаваная серыя «Нашы славутыя землякі», пачалі і працягваюць выдавацца альбомы паштовак з калекцыі вядомага філакартыста Уладзіміра Ліхадзедава. Пра патрабаванні да рукапісаў, іншыя яркія праекты і планы на будучыню — наша гутарка з галоўным рэдактарам выдавецтва-юбіляра Зміцерам Санько.



**— З якімі дасягненнямі падышлі да знакавай даты?**

— Сённяшняя «Тэхналогія» — сучаснае прадпрыемства, якое мае ў сваім складзе высокакваліфікаваных спецыялістаў выдавецкай справы і забяспечана неабходнай тэхнікай, абсталяваннем і праграмамі. Профіль — выданне навуковай, даведачнай і навукова-папулярнай літаратуры на мовах свету. Мы маем кола аўтараў, якім імпануе наша патрабавальнасць, адказнае стаўленне да працы з тэкстам. Мы маем і сваю аўдыторыю — удзячнага і дапытлівага чытача, якому ўласціва імкненне да жывых ведаў, жаданне самастойна мысліць, які радуецца нашым поспехам і чакае ад нас новых выданняў. Гэта, можа, і ёсць той галоўны набытак, з якім мы сустракаем юбілей.

**— Якімі кніжнымі праектамі вы асабліва ганарыцеся?**

— Перадусім гэта серыйныя і шматтомныя выданні. Свайго чытача, зацікаўленага гісторыяй, знайшлі кнігі серыі «Нашы славутыя землякі» — пра Ігната Дамейку, Мікалая Пржавальскага, Палуту Бадунову, Аркадзя Смоліча, Міхася Забэйду-Суміцкага, Расціслава Лапіцкага ды іншых знакамітых суайчыннікаў. Добра вядомая ў Беларусі і па-за межамі краіны шматмоўная серыя «У пошуках страчанага», якая грунтуецца на філакартычнай калекцыі У. Ліхадзедава. Напрыклад, кніга гэтай серыі, прысвечаная Тадэвушу Касцюшку, была прэзентаваная пазалетась у бібліятэцы Кангрэса Злучаных Штатаў Амерыкі.

Варта згадаць у гэтым шэрагу і шасцітомнік «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь» (пад агульнай рэдакцыяй В. Лемцюговай). Мы задаволеныя не толькі вынікам сваёй працы, але і тым, што сістэма транслітарацыі, распрацаваная Рэспубліканскай тапанімічнай камісіяй і пакладзеная ў аснову гэтага даведніка, знаходзіць практычнае выкарыстанне — перадусім у візуальна-інфармацыйным афармленні станцый Мінскага метрапалітэна.

Надзвычай важнай працай лічым выпуск факсімільнага выдання першай масавай беларускай газеты «Наша Ніва». Адзначу таксама клавір оперы Антона Генрыка Радзівіла «Фаўст», падрыхтаваны творчым калектывам «Беларуская Капэла» і выдадзены ў серыі «Музыка старажытных сядзібаў». Манаграфіяй Юрыя Лаўрыка «Кнігі і кнігазборы куцеінскага Богаяўленскага манастыра ў сярэдзіне XVII ст.» мы распачалі новую серыю «Кніжныя цэнтры Беларусі».

З кніг, што выходзілі асобна, па-за серыямі, хочацца назваць прысвечанае айцу Аляксандру Надсану выданне «Сонца твае не закоціцца, і месяц твой не схаваецца…» (пад рэдакцыяй І. Дубянецкай, А. Макміліна і Г. Сагановіча). Падобных да яго выданняў у Беларусі дагэтуль не было. Прадметам нашага гонару з'яўляецца і першая ў гісторыі Беларусі «Матэматычная энцыклапедыя» (пад рэдакцыяй В. Берніка).

**— Якім крытэрыям павінен адпавядаць рукапіс, каб ён ператварыўся ў кнігу менавіта ў вашым выдавецтве?**

— Патрабаванні да рукапісу стандартныя, як і ва ўсіх навуковых выдавецтвах. Найперш гэта высокі навуковы ўзровень. А дыяпазон кніг, якія мы выпускаем, даволі шырокі: тэхнічная літаратура, манаграфіі і зборнікі па генетыцы, біятэхналогіі, эксперыментальнай батаніцы, хіміі, экалогіі, медыцыне. Да кожнай кнігі ставімся з вялікай увагай і адказнасцю, але найбольш блізкія нам працы па беларускай гісторыі, мовазнаўстве, музычнай культуры, літаратуразнаўстве, фалькларыстыцы, этнамузыкалогіі — карацей кажучы, усё тое, што складае паняцце беларусістыкі. Гэта вынікае з пачуцця адказнасці за будучыню нашай мовы і культуры ды разумення, што ніхто за нас гэтага не зробіць.

> *«Тых выданняў, якія трэба ратаваць, у беларусаў яшчэ багата. Сярод іх у першую чаргу варта назваць «Беларускі шлях» — штодзённую газету (рэдактарам яе быў Алесь Гарун), якая выходзіла ў 1918 годзе, у надзвычай цікавы і драматычны час нашай гісторыі. Аднак, на маю думку, больш рацыянальна ісці па шляху стварэння электронных версій гэтых рарытэтаў. Гэта дазволіць ажыццяўляць іх выпуск хутчэй, у патрэбнай колькасці і меншым коштам. Бо ўсё ж факсімільнае выданне — рэч нятанная.*

Так, вялікі поспех у чытача мелі выдадзеныя ў «Тэхналогіі» кнігі па гісторыі: «Час выбару. Праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе» С. Рудовіча, «Традыцыйная беларуская вёска ў еўрапейскай перспектыве» В. Насевіча, «Старажытныя ліцвіны. Мова, паходжанне, этнічная прыналежнасць» П. Урбана, «Каменны век Беларусі. Ілюстраваны канспект лекцый» М. Чарняўскага. Дасягненні сучаснай беларускай этналогіі, напрыклад, адлюстраваныя ў манаграфіях «Міф. Прастора. Чалавек. Традыцыйны культурны ландшафт беларусаў у семіятычнай перспектыве» У. Лобача, «Цела чалавека. Слова, міф, рытуал» Т. Валодзінай, «Русальная традыцыя беларусаў. Міфапаэтычная сістэма, тыпалагічныя паралелі» У. Сівіцкага. Адзначу таксама, што, калі нам цікавая тэматыка, мы гатовыя разам з аўтарамі ідэі ўдзельнічаць у стварэнні кнігі.

**— У якіх кнігарнях можна набыць кнігі вашага выдавецтва? Як увогуле наладжана сістэма распаўсюджвання кніг?**

— Мы маем падпісаныя дамовы з усімі буйнымі кнігарнямі ды кнігагандлёвымі арганізацыямі краіны. Сярод партнёраў — ААТ «Белкніга», «Акадэмкніга», «Кніжны салон» і іншыя. Для прыцягнення ўвагі да кніжных навінак важнае значэнне надаём прэзентацыям з запрашэннем дзеячаў навукі і культуры, журналістаў з газет, радыё і тэлебачання. Ладзім гэтыя імпрэзы, як правіла, у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук, з якой у нас сталае шматгадовае супрацоўніцтва. Удзельнічаем мы і ў штогадовых міжнародных кніжных выстаўках-кірмашах, падчас якіх можам кантактаваць з аўтарамі, кнігагандлярамі, бібліятэкамі і чытачамі.

**— Сёння выдаўцы ўсё часцей кажуць пра продаж невыключных правоў на выкарыстанне электронных версій кніг замежным выдаўцам, кнігагандлярам, бібліятэкам. Ці актуальны для вас такі кірунак працы?**

— Вядома, мы рухаемся ў гэтым кірунку. Аднак для нас больш актуальная праца, скіраваная непасрэдна на беларускага чытача: некаторыя выданні выходзяць абмежаванымі накладамі, пасля распаўсюджання знайсці іх бывае даволі цяжка, а попыт ёсць. Таму электронныя версіі некаторых нашых кніг паводле дамоўленасці з аўтарамі размешчаныя ў вольным доступе ў інтэрнэце.

**— «Тэхналогія», напэўна, адно з нямногіх беларускіх выдавецтваў, якое стала працуе з замежнай друкарняй. Чаму ў якасці партнёра вы абралі менавіта беластоцкае прадпрыемства *Orthdruk*?**

— Так, супрацоўніцтва ў нас сапраўды даўняе. Мацуецца яно трыма вызначальнымі фактарамі: высокай якасцю паліграфіі, канкурэнтаздольнымі коштамі ды аператыўным выкананнем замовы. Але разважаем мы там параўнальна няшмат выданняў. Звычайна ж карыстаемся паслугамі айчынных паліграфістаў — балазе, выбар тут досыць шырокі.

**— У ліку самых яркіх выдавецкіх праектаў «Тэхналогіі» я згадала б выпуск факсіміле «Нашай Нівы». Распавядзіце, калі ласка, крыху падрабязней пра ідэю праекта і яго рэалізацыю. Ці плануецца нешта падобнае і ў будучыні?**

— Ідэя ўзнікла з усведамлення велізарнага значэння «Нашай Нівы» ў айчыннай гісторыі. Сто гадоў таму гэтая газета стала цэнтрам беларускага нацыянальнага руху. Яна заклала падмурак адраджэння нашай дзяржаўнасці. Выхаваўшы і згуртаваўшы нацыянальную эліту, «Наша Ніва» падрыхтавала беларускі народ да барацьбы за свае інтарэсы ў пазнейшых выпрабаваннях. Для прыняцця рашэння пра факсімільнае выданне важным было асэнсаванне таго, што гэтую нацыянальную рэліквію, гэтае багацце мы можам страціць. Бо стан газеты, што друкавалася ў пачатку XX стагоддзя на паперы невысокай якасці, няўхільна пагаршаўся. Фактычна гэты праект быў праектам выратавання «Нашай Нівы».

Падрыхтоўка пачалася ў 1988 годзе. Я працаваў тады ў акадэмічным выдавецтве «Навука і тэхніка». Адзначу, што Беларусь (усе яе кнігазборы, разам узятыя) не маюць камплекта «Нашай Нівы», таму даводзілася звяртацца і ў бібліятэкі Пецярбурга, Вільні, а таксама да прыватных калекцыянераў. Вельмі шмат часу займалі рэтуш і рэканструкцыя тэксту.

Першы выпуск факсімільнага выдання (нумары за 1906 — 1908 гады) пабачыў свет у 1992 годзе. Другі (1909), падрыхтаваны таксама ў выдавецтве «Навука і тэхніка», выйшаў у 1996 годзе пад маркай «Беларускай навукі». Астатнія выпускі выдадзены ў «Тэхналогіі»: у 1998 годзе — трэці (нумары за 1910 год), у 2003-м — чацвёрты (1911) і ў 2009-м — пяты (1912 — 1915, 1920 гады).

Мы задаволеныя, што гэтае фундаментальнае выданне стала даступным шырокаму колу спецыялістаў — гісторыкам, сацыёлагам, даследчыкам літаратуры, мовазнаўцам, філосафам, тэатразнаўцам, культуролагам, эканамістам, краязнаўцам. Але «Наша Ніва» захапляе і звычайнага чытача, бо ўтрымлівае пласт ведаў, якія дазваляюць знайсці адказы на шмат якія надзённыя пытанні. Яе проста цікава чытаць. Гартаючы газету, нібыта ўваходзіш у той свет, дзе жылі нашыя прадзеды.

Тых выданняў, якія трэба ратаваць, у беларусаў яшчэ багата. Сярод іх у першую чаргу варта назваць «Беларускі шлях» — штодзённую газету (рэдактарам яе быў Алесь Гарун), якая выходзіла ў 1918 годзе, у надзвычай цікавы і драматычны час нашай гісторыі. Аднак, на маю думку, больш рацыянальна ісці па шляху стварэння электронных версій гэтых рарытэтаў. Гэта дазволіць ажыццяўляць іх выпуск хутчэй, у патрэбнай колькасці і меншым коштам. Бо ўсё ж факсімільнае выданне — рэч нятанная.

**— Успамінаецца і яркая кніга нямецкага журналіста Увэ Рада «Галасы Панямоння», яе можна назваць часткай вялікага міжнароднага праекта. Якія кнігі вашага выдавецтва можна паставіць на адну паліцу з ёю?**

— Сярод перакладных выданняў перш за ўсё адзначу метадалагічна прадуманыя, напісаныя бліскучай моваю кнігі «Сучасная культурная антрапалогія» М. Говарда, «Сціслая гісторыя сацыялагічнай думкі» Э. Сінджвуда, «Гісторыя і сацыяльная тэорыя» П. Бэрка, «Гісторыя эканамічнай думкі» А. Дэні, «Канфлікт і кампраміс» Г. Уінтэра і Т. Бэлоўза, «Эканоміка» Дж. Бэрдшоў. Гэта выдатныя падручнікі, перакладзеныя на шмат якія мовы свету. Імі карыстаюцца не толькі студэнты, але і тыя, хто проста мае цікавасць да навукі. Радуюся, што наша моладзь мае магчымасць праз сваю мову далучыцца да набыткаў сусветнай навуковай думкі. Не магу не назваць таксама дужа цікавую і арыгінальную працу Р. Майлз «Жаночая гісторыя свету», якая дапамагае скарэкціраваць нашы традыцыйныя ўяўленні пра ўнёсак далікатнай паловы чалавецтва ў развіццё цывілізацыі.

**— Колькі слоў пра планы на будучыню. Чым парадуеце чытачоў у бліжэйшы час?**

— Будзем радаваць чытачоў выхадам тых кніг, якія ад нас чакаюць. Гэта трэці том «Слоўніка мовы "Нашай Нівы"», чарговы выпуск збору твораў Міколы Равенскага «Харавыя творы», а таксама новая кніжка серыі «Нашы славутыя землякі», прысвечаная Тадэвушу Рэйтану. Цікавы працяг будзе мець і серыя «У пошуках страчанага». У планах «Тэхналогіі» таксама выданне капітальнага энцыклапедычнага слоўніка-даведніка «Беларускія псеўданімі і крыптонімы» (XVI —XX стст.), створанага нашым славутым навукоўцам Янкам Саламевічам. А зусім неўзабаве пабачыць свет кніга С. Токця і М. Дзелянкоўскага «Скідзель і яго ваколіцы. Жывая гісторыя». Багата ілюстраваная, інфармацыйна насычаная, яна асвятляе гісторыю гэтага рэгіёна ад старажытнасці да Другой сусветнай вайны. Упэўнены, што шмат каго з чытачоў яна не толькі захопіць сваім зместам, але і падштурхне да складання радавода.

Лічым сваім ганаровым абавязкам годна сустрэць разам з усімі беларускімі выдаўцамі 500-годдзе айчыннага кнігадруку.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Агінскі. Разбурэнне стэрэатыпаў

Учора ў Маладзечне адбылася прэм'ера новай нацыянальнай оперы «Міхал Клеафас Агінскі. Невядомы партрэт». Напісаў яе кампазітар Алег Залётнеў, аўтар лібрэта і рэжысёр-пастаноўшчык Сяргей Макарэй, музычны кіраўнік і дырыжор — заслужаны дзеяч культуры Беларусі Рыгор Сарока, хормайстар Вера Каханоўская, сцэнаграфія Вольгі Грыцаевай, мастак па касцюмах Таццяна Макарэй, балетмайстар Аляксандр Драгаміраў. Спектакль увасоблены артыстамі Маладзечанскага маладзёжнага率 опернага тэатра на сцэне гарадскога Палаца культуры. 14 снежня — другі паказ новай пастаноўкі, наступны чакаецца толькі ўвесну.



*Рыгор Сарока на рэпетыцыі.*

Напярэдадні прэм'еры я завітала ў Маладзечна. Колькі гадзін у палоне рэпетыцыі — а ўражанняў хопіць на тыдзень! Опера беларуская па сутнасці, з унікальным нацыянальным героем, актуальнай праблематыкай, захапляльнай інтрыгай, эпатажнай развязкай. Тут не скарыстана ніводнай тэмы ці знаёмай інтанацыі з музычнай спадчыны Агінскага, аднак створана стылізаванае водгулле гукавога асяроддзя XIX ст., напоўненага рытмамі паланэза, вальса, мазуркі, кранальнымі рамантычнымі мелодыямі. Па-тэатральнаму выразнае аркестравае пісьмо, псіхалагічна пранікнёныя арыманалогі, кантрасныя харавыя эпізоды, напружаныя палемічныя ансамблі (дуэты, трыа, квартэты), спеўныя лейтматывы, трапны, часам афарыстычны тэкст... Вобразнае асэнсаванне лёсу героя сілкуюць адвечныя матывы і драматычныя супярэчнасці нашай гісторыі, высокія мары і нязбытныя спадзяванні суайчынніка-патрыёта на годную долю сваёй краіны, мітрэнгі стомленай душы: «Дзе ты, мая радзіма? З кім ты, мая Айчына?»

Сюжэт оперы разгортваецца ў маёнтку Залессе за два дні да ад'езду яго гаспадара М. К. Агінскага ў Італію. Ён збірае гасцей, ладзіць баль, абвяшчае «заздраўную» ў гонар Вялікага Княства, ды неўзабаве робіцца ўдзельнікам і сведкам падзей, якія толькі прыспешваюць княза назаўжды пакінуць радзінны дом і страчаны край.

Глыбіню задумы спектакля ўжо з першых нот адчуе кожны, хто знаёмы з багатай літаратурай пра жыццяпіс і асобу Агінскага, хто неадночы хадзіў па сцежках яго колішніх «Паўночных Афінаў» і з неабыякавым сэрцам сочыць за сённяшнім аднаўленнем княжацкай сядзібы. Але што кажуць стваральнікі оперы?

**Алег Залётнеў.** Сама ідэя стварэння належыць маэстра Рыгору Сароку. Постаць М. К. Агінскага асабліва для яго дарагая. Дзякуючы Р. Сароку Маладзечанскі музычны каледж, дырэктарам якога ён з'яўляецца, носіць імя Агінскага і побач устаноўлены помнік нашаму славутаму земляку. Рыгор Сямёнавіч быў адным з ініцыятараў усталявання мемарыяльнай дошкі на доме ў Фларэнцыі, дзе завяршыў свой зямны шлях Міхал Клеафас. Мы даўно знаёмы з маэстра, ён ведае маю монаоперу пра Адама Міцкевіча «Адзінокі птах», якая ўжо 12 гадоў у рэпертуары тэатра «Зніч», і аднойчы прапанаваў напісаць оперу пра Агінскага. У якасці лібрэтыста я запрасіў Сяргея Макарэя, якога добра ведаю па творчай працы, — спрактыкаванага сцэнарыста, спецыяліста ў рэжысуры, дасведчанага ў музыцы. Разам, на аснове рэальных падзей, пачалі прыдумляць гісторыю, якая б магла здарыцца ў Залессі. Праца заняла тры гады. Музыку пісаў увогуле месяцы чатыры, а сумесныя «творчыя пакуты» расцягнуліся надоўга. Вагаліся, напрыклад: уводзіць гучанне знакамітага Ля мінорнага паланэза ці не? Была спакуса пайсці насустрач абывацелю, які чакае гэту папулярную мелодыю. Але мы імкнуліся адысці ад стэрэатыпнага ўспрымання выбітнай асобы як «аўтара аднаго паланэза» (і, як вядома, па музычнай выразнасці гэта не самы моцны сярод яго опусаў). Палітык, дзяржаўны дзеяч, сенатар, прафесійны дыпламат, высокаадукаваны шляхетны чалавек, Агінскі проста захапляўся аматарскім музіцыраваннем. Такое хобі было ў князя. Ён жа сам сябе кампазітарам не лічыў! І для нас галоўнае — паказаць вялікую трагічную асобу грамадзяніна, патрыёта, які прысвяціў жыццё змаганню за незалежнасць сваёй радзімы, але ў выніку сутыкнуўся з падманам, здрадніцтвам, прыніжэннем, зняважай нават ва ўласным доме.

**Сяргей Макарэй.** Ніколі не сядзеў у кабінеце над чыстым аркушам: лібрэта пісаў урыўкамі, часта па дарозе да мікрараёна Сокал, дзе жыву. Штосьці атрымлівалася маланкава хутка, патрэбныя вершаваныя радкі прыходзілі нібы самі сабой. Шмат часу адымала пераасэнсоўванне, дадумванне, спрэчкі, сумненні. Алег Залётнеў напісаў геніяльную музыку, з адчуваннем прыроды тэатра, законаў драматургіі, пэўнага стылю. Сёння ў оперы не трэба фармальнага наватарства — патрэбны эмоцыі, прыгожыя і вострыя, і музыка, на якую адгукнецца публіка. А кагосьці зачэпіць сама трагедыя вялікага чалавека, які на схіле жыцця страціў усё: аднадумцаў-сяброў, падтрымку сям'і, надзею на новае каханне. І Айчыну... Дзякуй Богу, што ў гэтым творы супалі памкненні і прынцыпы нас траіх! Нягледзячы на вялікія фінансавыя цяжкасці, арганізацыйныя праблемы, звязаныя з пастаноўкай паўнавартаснага двухактовага опернага твора, вартага вялікай акадэмічнай сцэны, маэстра Р. Сарока самаадданна змагаўся за справу, давёў яе да ладу, знайшоў зацікаўленых людзей, якія дапамаглі здзейсніць праект. Чакаем 2015 года, калі на календары ЮНЕСКА з'явіцца знакавая дата: 250-годдзе М. К. Агінскага. Гэты міжнародны юбілей, думаю, паспрыяе шырокай цікавасці да нашай оперы.

**Рыгор Сарока.** Мы не запрашалі артыстаў са сталіцы — усе салісты мясцовыя, вельмі адметныя, гэта моладзь 20 — 25 гадоў. Міхала Клеафаса ўвасобіў наш выпускнік, цяпер выкладчык сольных спеваў, лаўрэат многіх міжнародных конкурсаў, барытон Андрэй Саўчанка, які ўжо спяваў галоўныя партыі ў оперных спектаклях нашага Вялікага тэатра і ў Каўнасе. Ролю Марыі, жонкі Агінскага, выконвае Яўгенія Курбатава (меццa-сапрана) — маладзечанка, якая цяпер вучыцца і працуе ў Маскве. Вобраз італьянскай спявачкі, госці гаспадара Залесся,



*Помнік М. К. Агінскаму ў Маладзечне.*

стварыла педагог каледжа Наталля Францкевіч (сапрана). У ролі пляменніка Агінскага выступае нядаўні наш выпускнік, цяпер першакурснік Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, тэнар Андрэй Мацюшонак. У ролі мастака, які наведваецца ў «Паўночныя Афіны», каб напісаць партрэт князя, — выхаванец класа сольных спеваў, драматычны барытон Міхаіл Кляпец. (Усяго ў спектаклі ўдзельнічае каля ста акцёраў, таму



*Алег Залётнеў і Сяргей Макарэй падчас рэпетыцыі.*

апрануць у арыгінальныя сцэнічныя строі змаглі толькі асноўных персанажаў, для масоўкі мусілі падбіраць адпаведныя касцюмы, пашытыя раней для пастаноўкі «Яўгеній Анегін»). Мы атрымалі грант Мінскага аблвыканкама ў памеры 100 мільёнаў рублёў. Шчыра ўдзячныя спонсарам, сярод якіх — «Белгазаўтасэрвіс», «Белінвестбанк», «ЭНЭФ», ММЦ, «МІГ ЛТД», «СТРУМ», «Альянс», рэдакцыя «Маладзечанскай газеты», дабрачынны фонд «Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага». На пачатку 2014 года будуць выдадзены партытура і клавір оперы з пазнакай даты і месца першай пастаноўкі: гэта — падзея, бо мала каму з беларускіх кампазітараў пашанцавала надрукаваць ноты сваіх опер. Прыемна, што наша прэм'ера выклікала цікавасць шэрагу замежных дыпламатаў. Магчыма, з часам адбудзецца канцэртнае выкананне оперы ў Літве, Расіі, у парыжскай штаб-кватэры ЮНЕСКА.

Фабула інтрыгуе. Што гэтым разам учыніць жонка князя, якая даўно прыдбала славу бессаромнай Месаліны? Чаму пляменнік Агінскага раптам стане для яго сапернікам? Мундзір якіх часоў выбера гаспадар Залесся для свайго параднага партрэта? І ці напіша той партрэт мастак, што воляю фантазіі аўтараў оперы завітаў у Залессе? Як бы там ні было, а насамрэч гэта яны, нашы сучаснікі, рызыкнулі стварыць невядомы партрэт свайго героя, праз які раскрываюцца адвечныя паняцці Радзімы, Гонару, Сумлення, Абавязку і Любові.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

# Каб вышэй на прыступку

Беларускі саюз кампазітараў святкуе юбілей. Творчае аб'яднанне заснавана ў Мінску пры Саюзе пісьменнікаў 80 год таму, у 1933-м. Першым старшынёй быў абраны савецкі кампазітар і грамадскі дзеяч Ісаак Любан. Сёння ў шэрагах Беларускага саюза кампазітараў налічваецца каля 130 аўтараў, а кіраўніком з 1980 года з'яўляецца слынны беларускі кампазітар, народны артыст СССР Ігар Лучанок.

З нагоды юбілею снежаньская філарманічная афіша змясціла пяць канцэртаў з твораў беларускіх аўтараў. Святкаванне пачалося 5 снежня «Святочнай уверцюрай» Анатоля Багатырова. Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста рэспублікі Аляксандра Анісімава выканаў пралог з балета «Мара» Яўгена Глебава, сімфанічную сюіту з балета «Апошні Інка» Сяргея Картэса, Adagio і Эпілог з балета «Клеапатра» Вячаслава Кузняцова, Скерца з Сімфоніі № 2 Уладзіміра Гаркушы, Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Ганны Карoткінай, «Песнь апошняга трубадура» Дзмітрыя Смольскага, Сімфонію № 11 Андрэя Мдзівані, канцэрт для вялікага сімфанічнага аркестра Галіны Гарэлавай.

Народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў 10 снежня ў Малой зале імя Р. Шырмы прадставіў аўтарскія транскрыпцыі фрагментаў харэаграфічных, сімфанічных і камерных твораў Анатоля Багатырова, Яўгена Глебава, Сяргея Картэса ў праграме «Старонкі беларускай музыкі ў канцэртных транскрыпцыях для фартэпіяна». Прадоўжыла серыю канцэртаў праграма «Парад прэм'ер» у выкананні Сімфанічнага аркестра Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь.

Сёння, 13 снежня, вечар харавой музыкі падораць публіцы Дзяржаўны камерны хор Беларусі пад кіраўніцтвам Наталлі Міхайлавай і Акадэмічны хор Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі пад кіраўніцтвам Паўла Шэпелева. А завершыцца святкаванне 18 снежня канцэртам «Беларускі кампазітар. Алхімік. Творца» Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Расіі Яўгена Бушкова.

На прэс-канферэнцыі, якая ладзілася напярэдані юбілею, творцамі былі ўзняты шэраг даволі балючых пытанняў: ліквідацыя Беларускага аўтарскага фонду, невядомасць маладых беларускіх кампазітараў, панаванне ў СМІ камплiментарнай крытыкі і інш.

— Мастацтва не можа выконваць толькі забаўляльную ролю. Сённяшняя задача Беларускага саюза кампазітараў — узняць духоўнае развіццё грамадства хаця б на адну прыступку вышэй, — адзначыла кампазітар Галіна Гарэлава.

Эпоху ствараюць асобы. І, безумоўна, творцы! Святкаванне 80-годдзя Беларускага саюза кампазітараў і парад снежаньскіх канцэртаў — добрая нагода ў гэтым пераканацца.

**Таццяна ШЫМУК**

## З пошты «ЛіМа»

### Рэдакцыі газеты

У мінулым нумары вашага тыднёвіка (№ 48 ад 6.XII.2013 г.) змешчаны артыкул «Аператыўны малюнак». Мушу адрэагаваць аператыўна. Сябрам Саюза мастакоў я з'яўляюся з 1975 года і, натуральна, у 1961 годзе «стварыць секцыю плаката» (структурную адзінку СМ) ніяк не мог.

У другой палове 1980-х гадоў не займаўся плакатам Арлен Кашкурэвіч, і як ён трапіў у спіс мастакоў, дзякуючы якім на гэты перыяд «прыпадае ўздым плакатнага мастацтва» — загадка, пры ўсім маім захапленні графікай Арлена Міхайлавіча.

Лявон Ліпень за ўсё сваё жыццё стварыў адзін (sic!) плакат і таксама трапіў у спіс «уздымальнікаў». У той жа час са спіса стваральнікаў секцыі плаката выпалі імёны А. Чуркіна, Л. Кроля, Л. Замаха (сёння ўжо нябожчыкаў). Са спіса творцаў другой паловы 1980-х выпалі Канстанцін Ракіцкі і Рыгор Данчанка (нябожчыкі), а таксама Людміла Калмаева (сёння грамадзянка Галандыі). Пра астатнія каструбаватасці, недакладнасці і недарэчнасці тэксту нават неахвота пісаць.

Дзіўна, што гэты «аператыўны» матэрыял акрамя Людмілы Налівайка падпісаў кандыдат мастацтвазнаўства, прафесар, дацэнт Яўген Шунейка.

**Уладзімір КРУКОЎСКІ, сябра Беларускага саюза мастакоў**

# Зямля пад белымі крыламі



## Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

*Слова краязнаўцы*



**Уладзімір ШУШКЕВІЧ, вядучы журналіст сайта LEPEL.BY, прэс-сакратар Лепельскага клуба турыстаў і краязнаўцаў «Паходнік», ініцыятар і аўтар праекта «Стварэнне скульптуры Цмока Лепельскага», распавядае пра тое, з чаго ўсё пачыналася:**

— Ідэю скульптуры Цмока я выношваў даўно. І, як ні дзіўна, манумент быў устаноўлены на працягу года! Пачалося ўсё з пошукаў для горада Лепеля турыстычнага брэнда, які быў бы цалкам эксклюзіўным. Спыніліся на скульптуры Цмока Лепельскага. Менавіта пра гэта ішла размова на семінары «Як ператварыць Лепельскі раён у паспяховую турыстычную дэстынацыю», які праводзілі райвыканкам і Беларускае грамадскае аб'яднанне «Адпачынак у вёсцы». Паколькі я прапанаваў ушанаваць Цмока, то і давесці да канца гэтую справу даручылі мне.



Але якім чынам? Прапаноўваць лягчэй! І тут зусім нечакана Вольга Маханенка, менеджар праекта міжнароднай тэхнічнай дапамогі «Вада, прырода і людзі ў знікаючым ландшафце. Развіццё ўстойлівага сельскага турызму ў Расіі і Беларусі» з беларускага боку, прапанавала паўдзельнічаць у міжнародным конкурсе мясцовых ініцыятыў. Ляпіць скульптуру Цмока пагадзіўся Леў Аганаў, які раней стварыў для горада помнікі Льву Сапегу і Пятачку. Неўзабаве ён прывёз у Лепель пластылінавы макет, у якім увасобіў сваё бачанне міфічнай істоты.

Адным Цмок спадабаўся, другія яго раскрытыкавалі. Таму абвясцілі конкурс сярод лепельскіх мастакоў. А я тым часам працягваў распрацоўваць праект скульптуры. Пачалі паступаць прапановы і ад мастакоў. Пакуль праводзіўся конкурс, міжнароднае журы разглядала і мой праект. Члены журы не былі аднадушнымі, аднак маю распрацоўку зацвердзілі і выдзелілі на яе ажыццяўленне грант у памеры 2900 еўра.

Праўда, усе прадстаўленыя эскізы былі мала падобныя да Цмока з Лепельскага возера, пра ягога распавядаў Уладзімір Караткевіч у рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». І тады дызайнер Святлана Маханенка-Крэс зрабіла эскіз, максімальна блізкі да апісанага вобраза. Ён і быў прыняты за аснову. Леў Аганаў вырабіў новы макет. Віцебскі абласны мастацкі савет адобрыў і зацвердзіў макет скульптуры і эскіз яе ўсталявання. У хуткім часе скульптар вылепіў макет Цмока з гліны ў поўную велічыню.

Адразу ж паўстала пытанне: хто будзе адліваць скульптуру? На дапамогу прыйшло кіраўніцтва адкрытага акцыянернага таварыства «ТехнолитПолоцк». Яго дырэктар Леанід Пятроў пацвердзіў, што бяруцца за адліў Цмока з чыгуну за значна меншы кошт, чым хацелі атрымаць выканаўцы з Мінска.

І вось Цмок адліты. Важыць ажно 600 кілаграмаў. Маналітная скульптура складаецца з чатырох частак, якія надзейна змацаваныя шпількамі і зварыныя паміж сабой.

Так Цмок вярнуўся на радзіму. Але чаму — вярнуўся? Справа ў тым, што, паводле народных легенд, ён жыў у Вялікім Княстве Літоўскім задоўга да адлюстравання Уладзімірам Караткевічам сярэднявечча. Паўстаў разам са з'яўленнем чалавека на нашай зямлі. Пачынаючы з 1793 года нашым продкам пачалі навязваць чужы вобраз — міфічнага Змея Гарыныча. Атрымалася тое, што і павінна было атрымацца: на Цмока забыліся зусім, а Змея Гарыныча пачалі ўвасабляць нават у скульптурах.

Скульптура ж нашага Цмока — першая і адзіная ў свеце. Запрашаем вас наведаць Лепель і пазнаёміцца з незвычайным помнікам!

*Музейны ўнікат*

# Новае з сярэднявечча

**Штогадовы выставачны праект «Новае ў археалогіі Гомельшчыны», які распавядае пра нядаўнія даследаванні і знаходкі археолагаў, адкрыўся ў дзяржаўнай гісторыка-культурнай установе «Гомельскі палацава-паркавы ансамбль».**

Традыцыйна на тэрыторыі абласнога цэнтра і Гомельскай вобласці праводзяцца даследаванні помнікаў археалогіі розных эпох, у якіх бяруць удзел не толькі спецыялісты, але і студэнты, валанцёры і проста аматары даўніны. Знойдзеныя падчас раскопак археалагічныя калекцыі пасля іх вывучэння перадаюцца на пастаяннае захоўванне ў фонды музеяў.

Як паведамілі ў музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля, штогод паступаюць сотні новых прадметаў археалогіі, якія з'яўляюцца каштоўнай крыніцай для вывучэння гісторыі рэгіёна. На жаль, вялікая частка рарытэтаў вядомая толькі вузкаму колу навукоўцаў, бо экспазіцыі, якія існуюць, не ў стане змясціць усе знойдзеныя артэфакты.



Фота Дзмітрыя Ліндзянкова

Кругавы гаршчок X ст.

«Новае ў археалогіі Гомельшчыны» — унікальны па сваім змесце выставачны праект, мэта якога — не толькі прадставіць аматарам даўніны ўнікальныя прадметы былых часоў, але і прадэманстраваць найважнейшыя навуковыя вынікі апошніх палявых і лабараторных археалагічных даследаванняў.

Апрача іншага наведвальнікі выстаўкі ўбачаць матэрыялы з раскопак сярэдневечнага комплексу помнікаў каля вёскі Мохаў Лоеўскага раёна. Работы праводзілі члены экспедыцыі Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны пад кіраўніцтвам доктара гістарычных навук Алега Макушнікава пры актыўным удзеле супрацоўнікаў сектара археалогіі музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля.

**Міра ІЎКОВІЧ**

*Супольнасць*

# Іх агульны дом

Прадстаўнікі дзесяці нацыянальнасцей з дзевяці рэгіёнаў Міншчыны з'ехаліся ў горад Маладзечна на юбілейны X абласны фестываль нацыянальных культур. Тут сабраліся разам палякі, грэкі, украінцы, расіяне, армяне, узбекі і прадстаўнікі іншых дыяспар, каб пазнаёміць гасцей і жыхароў райцэнтра са сваёй культурай, мастацтвам і кухняй.

Гэтае мерапрыемства, якое праходзіць раз у два гады, стала традыцыйным для Мінскай вобласці. «Галоўная мэта фестывалю — умацаванне міжнацыянальных адносін у грамадстве, папулярызацыя лепшых узораў паэтычнага, музычнага, харэаграфічнага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва нацыянальных суполак, якое гарманічна дапаўняе нашу агульную культуру і складае моцны падмурак духоўнага жыцця краіны», — занзначыў намеснік старшыні Мінскага аблвыканкама Аляксандр Юшкевіч.

Сярод удзельнікаў фэсту цяжка было не прыкмеціць групу ўзбекаў у яркіх залацістых строях. Аказалася, гэта сямейны танцавальны калектыў, які працуе пры цэнтры культуры і вольнага часу ў вёсцы Горкі Старадарожскага раёна. Кіруе ім Сайёра Саміева. Адзінаццаць гадоў яна лічыць родным домам нашу краіну і паважае беларусаў за шчырасць, спагаду, дабрыню.

Народнае аматарскае аб'яднанне «Шматгалоссе» Касцюкоўскага Дома нацыянальных культур Барысаўскага раёна згуртоўвае 42 прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей. «Ёсць у нас спевакі, музыкі, паэты-песеннікі, вакальны казачы ансамбль, майстры народных промыслаў і адмысловыя кухары, — распавяла кіраўнік суполкі Наталля Кавалеўская. — Даўно наведваюць клуб член Саюза пісьменнікаў Беларусі Ала Лапошыч, Валянціна Леві і Раман Рубінчык. Завітваюць на агеньчык пачынаючыя творцы — напрыклад, казачы атаман Іван Дробышаў. Дарэчы, убачыла свет першая кніга яго вершаў. У Валянціны Леві сёлета выйшла кніга «Янтарный кулон». А ў Алы Лапошыч — зборнік вершаў «Цветок Эдельвейса».

— Галоўнае, што мы, этнічныя грэкі, можам збірацца разам, каб больш даведацца пра сваю гісторыю, каб не парываліся нашыя сувязі, — падкрэсліў старшыня савета Беларускага грамадскага аб'яднання грэкаў «Пелапанес» Рафаэль Дэльянаў. — Грэкі — вельмі эмацыянальны, творчы народ, таму з задавальненнем бяром удзел у такіх цікавых мерапрыемствах.

Усе ўдзельнікі фэсту імкнуліся прадэманстраваць і самабытную культуру сваіх народаў, і ўласныя таленты. А кампетэнтнае журы на чале з народным артыстам Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, мастацкім кіраўніком Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча, прафесарам Міхаілам Дрынеўскім вызначыла лепшыя калектывы і асобных выканаўцаў, якія прадставяць Міншчыну на X Рэспубліканскім фестывалі нацыянальных культур.

На фэст, што пройдзе ў чэрвені 2014 года ў Гродне, накіруюцца прадстаўнікі Беларускага грамадскага аб'яднання грэкаў «Пелапанес», украінскіх культурна-асветніцкіх аб'яднанняў «Краяны» і «Обрій», аматарскі калектыў майстроў "Вербачка" (Маладзечанскае гарадское аддзяленне Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Русское Общество»), танцавальны калектыў сям'і Саміевых з вёскі Горкі Старадарожскага раёна, заслужаны аматарскі калектыў Рэспублікі Беларусь, ансамбль песні і танца «Спатканне» Пятрышкаўскага дома культуры Мінскага раёна, народнае аматарскае аб'яднанне прадстаўнікоў нацыянальных культур «Шматгалоссе» Касцюкоўскага дома нацыянальных культур Барысаўскага раёна, а таксама Юлія Абрамовіч з Маладзечна, Арсэн Алексанян са Смалявіч, Таццяна Саарбекян і Ганна Язэпчык, Аляксандра Баранава і Рыната Макаш з Нясвіжскага раёна, Вера Ждановіч і Любоў Навічэнка і інш.

**Раіса МАРЧУК**

# «Паважаем свае карані»

Дэманстрацыя нацыянальнымі суполкамі сваёй самабытнай культуры пазбаўляе сучасных стэрэатыпаў, дапамагае зразумець асаблівасці іншых народаў, а літаратурнае слова і музыка дазваляюць навучыцца мудрасці, пранікнуць у глыбіні іх душы.

Менавіта так можна акрэсліць агульную думку, якая рэфрэнам гучала падчас прэс-канферэнцыі ў Прэс-цэнтры Дома прэсы «Музыка слова ў дыялогу культур». Як сведчыць статыстыка, сёння ў Беларусі пражываюць прадстаўнікі каля 140 нацыянальнасцей, дзейнічае больш як 180 грамадскіх арганізацый і амаль 30 філіялаў. Усе яны вядуць актыўную культурна-асветніцкую дзейнасць. Тым часам за межамі краіны больш як 220 грамадскіх суполак прапагандуюць культуру Бацькаўшчыны і вядуць актыўны дыялог у розных сферах з дзяржавамі, дзе знайшлі другую радзіму.

— Калі мы знаёмімся з літаратурным ці музычным творам, міжволі пераўвасабляем за героя і не задумваемся, якой яны нацыянальнасці, — зазначыў дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міхаіл Рыбакоў. — Мы выраслі ў Савецкім Саюзе і былі прывучаны чытаць кнігі ў перакладах аўтараў з іншых братніх рэспублік. Са знікненнем СССР гэты працэс ускладніўся, тым не менш спроба зразумець іншыя народы праз літаратуру — адна з самых важных. Вялікі ўнёсак у гэтую справу робіць перакладная літаратура. Мы пачынаем узнаўляць тое, што амаль страцілі. Праўда, сёння моладзь больш цікавіцца інтэрнэтам, і гэты фактар стараемся таксама ўлічваць. Запісалі дыск пад назвай «Нацыянальная палітра Беларусі», дзе ў мультымедыйным фармаце змешчаны розны даведачны матэрыял пра нашыя аб'яднанні, а таксама фільмы, якія распавядаюць пра іх жыццё ў нашай краіне.

Дзейнасць нацыянальных суполак у Беларусі скіравана ў асноўным на культурную сферу. На базе Рэспубліканскага цэнтра створаны інтэрнацыянальны клуб, адкрыта грамадская бібліятэка, дзе сабрана кніжнае багацце розных народаў. Гэты збор пастаянна папаўняецца, а выданнямі ўсё часцей цікавяцца студэнты, навукоўцы.

Старшыня рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларуская абшчына літоўцаў» Віталія Калеснікава навучае сваіх суайчыннікаў літоўскай мове. І робіць гэта праз паэзію, каб маладыя людзі маглі чытаць у арыгінале, прыкладам, творы Крысціёніса Данелайціса. Прадстаўнікі суполкі цесна супрацоўнічаюць з Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеем Якуба Коласа і праводзяць сумесныя мерапрыемствы, прысвечаныя знакамітым літоўскім творцам.

Прайшло два гады, як пры Рэспубліканскім цэнтры нацыянальных культур быў створаны ансамбль інтэрнацыянальнай дружбы. Аляксандр Свірскі, яго кіраўнік, падкрэсліў, што «…песня — тая ж літаратура, аздобленая яшчэ і музыкай. У асноўным мы бяром для выканання песню народную, матчыну, якая перадаецца нам «па крыві» і нясе генетычны код кожнай нацыі. Мы, канечне ж, розныя, але калі пачынаеш цікавіцца музыкай, абавязкова знаходзіш нешта агульнае. Узбагачаем айчынную культуру тым, што знаёмімся з творчай спадчынай іншых народаў. Паважаючы свае карані, мы будзем паважаць і іншыя нацыі».

**Бажэна СТРОК**

# Гучная справа мастакоў



Аўтапартрэт Яна Дамеля.

**Ян Дамель — вядомы беларускі мастак XIX ст. Асаблівая цікавасць да яго біяграфіі ўзнікла ў 90-я гады мінулага стагоддзя, калі сярод дакументаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі была знойдзена перапіска двух сяброў — Яна Дамеля і таленавітага фальшываманетчыка Ігнацыя Цэйзіка, якая тлумачыць нюансы гучнай крымінальнай справы 1815 г.**

Слуцкім павятовым судом супраць Ігнацыя Цэйзіка ўзбуджаецца крымінальная справа па падробцы дзяржаўных асігнацый. Аднак менавіта з ім звязваюць даўнія адносіны Яна Дамеля. Яны ведаюць адзін аднаго з 1799-га. Сяброўства маладых людзей не спыняецца і тады, калі Цэйзік пакінуў Вільню і пасяліўся ў фальварку. Яны вядуць актыўную перапіску і час ад часу сустракаюцца. Дамель выконвае розныя даручэнні Цэйзіка: пасылае яму кнігі па філасофіі, нумары "Кур'ера літоўскага", англійскую паперу для малявання. Ігнацій сочыць за яго творчасцю, часам набывае работы сябра, якія яму спадабаліся. Дык за што ж збіраліся пакараць Цэйзіка?

Скарыстаўшыся хаосам у Расійскай імперыі падчас вайны з Напалеонам у 1812 г., Ігнацій стварае майстэрню-друкарню фальшывых грашовых знакаў. Зрабіўшы ўласнаручна мармуровае клішэ і наладзіўшы працэс вырабу патрэбнай паперы, ён пачаў друкаваць 5-, 10- і 25-рублёвыя асігнацыі. У саўдзельнікі ўзяў роднага брата Фелікса і яго сябра Дамініка Корзуна, якія заняліся збытам падробак у літоўскіх і беларускіх губернях імперыі.

Аднак у 1815 г. фальшываманетчыкаў раскрылі і судзілі. Усіх траіх пасадзілі ў Слуцкую турму. За год да заканчэння зняволення, 15 жніўня 1819 г., Цэйзік і Корзун збеглі і на выкрадзенай брычцы накіраваліся спачатку на Валынь, а адтуль — на Падолле. Гэтае падарожжа працягвалася амаль паўгода. Уцекачы начавалі ў заезных дварах, паспелі зрабіць сабе фальшывыя пашпарты і нарэшце ў пачатку 1820-га спыніліся ў Меджыбожы (Украіна). Прыглядзеўшыся да мястэчка і перагаварыўшы з мясцовым купецтвам, Цэйзік амаль адразу заявіў сябрам, што тут досыць добрыя ўмовы для працягу іх злачыннай справы.

Змоўшчыкі знайшлі прытулак у аднаго з мясцовых яўрэяў і знялі на ўскраіне горада дом. Ігнацій узяўся за выраб патрэбнага інструмента, а саўдзельнікі пачалі здабываць мармур, паперу, волава... Праз месяц у лютым 1821 г. майстэрня запрацавала на поўную моц. У Меджыбожы падрабляліся выключна 25-рублёвыя купюры — самыя распаўсюджаныя і лёгкія для збыту. Як і раней, Ігнацій займаўся вырабам асігнацый (да ста штук у месяц), а Фелікс і Дамінік — іх рэалізацыяй.

«Геаграфія» збыту гэтых падробак была досыць шырокай — гарады Падолля і Валыні, Бярдзічаў, Магілёў, Брэст. Фальшыўкі або абменьвалі на чырвонцы, або куплялі на іх тавар. Нагадаем некаторыя цэны ў тыя гады: курыца — 5 кап., палова тушы цяляці — 1 руб., аршын сукна — 1 руб. 15 кап., пуд сметанковага масла — 2 руб. Таму прыбытак у ашуканцаў быў немалы.

Раскрыццё дзейнасці меджыбожскай майстэрні было нечаканым як для паліцыі, так і для саміх злачынцаў. У лютым 1822 г. Цэйзік і Корзун з чарговай партыяй падробак прыехалі ў беларускі горад Кобрын, дзе іх выпадкова ўбачыў былы слуцкі чыноўнік, які пазнаў уцекачоў і заявіў у паліцыю, якая адразу затрымала злачынцаў. А ўжо ў сакавіку была выкрыта майстэрня ў Меджыбожы і арыштаваны Ігнацій. Падчас следства так і не ўдалося высветліць, колькі фальшывак зрабіў Цэйзік. У сваім прызнанні ён назваў лічбу — 1000 купюр, але факты сведчаць пра тое, што іх было значна больш. Абцяжарвала выяўленне падробак і тое, што па ўзроўні выканання яны не саступалі арыгіналам. Нават экспертыза Дзяржаўнага асігнацыйнага банка Расійскай імперыі не магла знайсці розніцы паміж фальшыўкамі і сапраўднымі банкнотамі. Фальшываманетчыкаў выслалі на катаргу ў Сібір.

Як блізкі сябар Цэйзіка Дамель трапляе ў поле зроку следчых органаў. На яго кватэры праведзены вобыск, падчас якога канфіскавана ўся карэспандэнцыя мастака. У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі захаваліся дакументы: «Вопросные пункты, данные вице-профессору Дамелю с ответами на оные» і «Дополнительные показания вице-профессора Дамеля». Яны раскрываюць ход следства па справе Дамеля, падчас якога старанна вывучаюць карэспандэнцыю мастака, спрабуючы хоць тут знайсці супраць яго доказы. У адным з лістоў Цэйзік жартаўліва пытаецца ў Дамеля, ці можна ў Вільні набыць аслоў. На гэта той адказвае: «Усіх аслоў развезлі па вёсках, пашукай у сябе дома, можа, аднаго і знойдзеш». Гэты нявінны абмен жартамі выклікае ў следчага сур'ёзнае падазрэнне.

Пазней у прысудзе будзе запісана, што Дамель меў з Цэйзікам перапіску «ў вельмі цёмных выразах». Нягледзячы на тое, што доказаў супраць Дамеля не маецца, яго заключаюць пад варту і адпраўляюць у Мінск, дзе справа па вырабе фальшывых асігнацый разглядаецца Галоўным судом першага дэпартамента. 7 лютага 1815 г. мінскі губернатар П. Дабрынскі паведамляе: «Віленскі грамадзянскі губернатар даставіў да мяне віцэ-прафесара Дамеля і Іосіфа Кажухоўскага разам са знойдзенымі ў іх лістамі, напісанымі Цэйзікам, з якіх знятыя паказанні і знаходзяцца ў справе».




Фальшывая асігнацыя.

Сябры спрабуюць аблегчыць лёс мастака. Граф Адам Гюнтэр піша прашэнне на імя імператара Аляксандра I: «Прафесара Віленскага ўніверсітэта Івана Дамеля, які знаходзіцца пад вартай у горадзе Слуцку па сакрэтнай справе, жадаю ўзяць да заканчэння справы на даручальніцтва». На гэтым дакуменце стаіць адзнака, зробленая 11 мая 1816 г.: «Прашэнне пакінуць аж да вяртання рашэння дэпартамента». 9 чэрвеня 1816 г. Дамель звяртаецца з просьбай да Гюнтэра, каб ён пахадайнічаў праз мінскага губернатара Сулістроўскага пра вызваленне яго пад заклад.

Заступніцтва ўплывовых сяброў Яна Дамеля не ратуе яго ад правасуддзя. Следчыя знаходзяць склад злачынства, даказваюць яго саўдзел у збыце фальшывых асігнацый Цэйзіка. Мастака адпраўляюць у сібірскую ссылку.

Гэтая гучная справа хутка абрасла чуткамі. Нават сучасныя нумізматы ведаюць легенду, што на судзе таленавіты злачынец Цэйзік прапанаваў падарыць яму волю, за што абяцаў стварыць самыя дасканалыя грошы, якія немагчыма падрабіць. Суддзя не пайшоў на падобную здзелку, кожны атрымаў свой тэрмін.

Незвычайным чынам сябры аказваюцца ў ссылцы ў адным горадзе — Табольску. Але і тут Ігнацій Цэйзік не згубіўся. Пасля адбыцця шматгадовага пакарання ў адным з астрогаў ён у 1829-м прыбыў на «пасяленне пад наглядам» у цэнтр Сібірскай губерні Табольск. Тут за кароткі час таленавіты мастак заваяваў сабе славу моднага скульптара — вырабляў па замове керамічныя барэльефы, вытанчаныя лампады, трубкі, фігуркі святых. Аднак у ссылцы ў Цэйзіка прачнуўся яго авантурны характар: у Табольску ён зноў пачаў падрабляць асігнацыі! Непапраўнага фальшываманетчыка раскрылі ў 1846 г. і тады ўжо асудзілі на пажыццёвую катаргу ў Нерчынскіх рудніках. Небяспечнага злачынца дэманстратыўна пакаралі — яму вырвалі ноздры. Праца ў рудніках праз некалькі гадоў стала прычынай яго смерці.

Ян Дамель пасля сібірскай ссылкі вернецца ў Мінск, куды ён быў адпраўлены пасля заканчэння судовага працэсу. Знойдзе верных сяброў і створыць свае лепшыя работы. Тут у 1840 г. і памрэ.

**Дар'я ІЎЧАНКА**

# Знакамітая вучнямі

**Днямі ўрачыста адзначыла 150-гадовы юбілей Пухавіцкая сярэдняя школа. Сотні хлопчыкаў і дзяўчынак атрымалі тут веды.**

Сёння большую частку педкалектыву складаюць выпускнікі Пухавіцкай СШ. А яшчэ многія з іх працавалі і працуюць настаўнікамі ў розных месцах Беларусі. На Міншчыне добра ведаюць дырэктара Мар'інагорскай гімназіі Алу Ралькевіч, якая два скліканні выбіралася ў склад Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, узнагароджана ордэнам Пашаны.

— Сярод тых, хто вучыўся ў нашай школе, — распавяла дырэктар гэтай установы Валянціна Бяседзіна, — шмат вядомых людзей: Героі Савецкага Саюза Васіль Тарлоўскі і Мікалай Шут, славуты нейрахірург, акадэмік Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі Арнольд Смеяновіч, генерал-лейтэнант Яўген Мікульчык, які ўзначальвае Беларускі саюз афіцэраў, доктар палітычных і кандыдат філасофскіх навук прафесар Мікалай Лабуш, акцёр-купалавец Аляксандр Лабуш, ваенны камісар Пухавіцкага раёна палкоўнік Аляксандр Казак. Трое былых вучняў школы — ганаровыя грамадзяне Пухавіцкага раёна. Мы рады, што веды, атрыманыя ў нашых сценах, для многіх сталі асновай высокіх прафесійных і жыццёвых здзяйсненняў.

У розныя дзесяцігоддзі тут працавалі і вучыліся пісьменнікі Уладзімір Ляўданскі, Алесь Пальчэўскі, Вольга Савасцюк. Вось як згадвае сваю вучобу ў Пухавічах Уладзімір Ляўданскі: «Маімі настаўнікамі і дарадчыкамі ў жыцці былі педагогі Пухавіцкай сямігодкі. Нашы настаўнікі былі немаладыя, з багатым жыццёвым досведам і добрым веданнем прадмета. Прагнасць жа ў нас, вучняў, да ведаў была тады неймаверная. Гэта настаўнікі заклалі ў нас той падмурак, на якім сфарміраваліся пасля асоба, характар кожнага. Помніцца сходы, вячоркі і спектаклі, якія мы ставілі разам з педагогамі. Збіралася ў зале столькі людзей, што пажарнае дэпо (самае вялікае памяшканне ў мястэчку) не магло ўсіх прыняць».

Алесь Пальчэўскі працаваў у Пухавіцкай СШ пасля таго, як першы раз выйшаў са сталінскага лагера. Стварыў драматычны гурток, ставіў спектаклі, пісаў інсцэніроўкі і вяртаўся да літаратурнай творчасці. Праўда, «перапынак» паміж лагернымі адседкамі быў нядоўгім... Калі зазірнуць у кнігі выбраных твораў пісьменніка, то можна знайсці не адно апавяданне, напісанае якраз у Пухавічах.

Дарэчы, шмат хто з настаўнікаў, вучняў школы займаўся літаратурнай творчасцю. Напрыклад, Іван Падбярэжскі, які з'яўляецца суаўтарам кнігі гумарэсак, што выйшла у «Бібліятэцы часопіса "Вожык"». Іван Іванавіч пайшоў з жыцця. Нявыдадзеным застаўся яго раман пра мястэчка Пухавічы і яго ваколіцы ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Толькі невялікія ўрыўкі з рамана былі змешчаны ў часопісе «Маладосць» і газеце «Чырвоная змена». А ў газеце «Пухавіцкія навіны» друкавалася часткамі яго паэма пра Пухавічы і іх слаўную гісторыю. У розных перыядычных выданнях з артыкуламі, краязнаўчымі нататкамі выступалі настаўнікі Леў Пілатовіч, Васіль Лапка.

У школе заўсёды працавалі таленавітыя асобы. Беларускую мову і літаратуру шмат гадоў выкладалі Рыгор Гардзей, Леў Пілатовіч, біялогію — Фаіна Рудакоўская, матэматыку — Ніна Кавалёнак, Уладзімір Станютка, пачатковую ваенную падрыхтоўку — Анатоль Усцінаў, хімію — Надзея Усцінава, фізіку — Людміла Мяткалік, Любоў Смірнова, гісторыю — Уладзімір Яковін, Васіль Лапка, нямецкую мову — Галіна Пілатовіч, рускую мову і літаратуру — Уладзімір Сырэц... У пачатковых класах працавала Таццяна Лапко. Шмат чые дзеці прадоўжылі справу бацькоў-настаўнікаў.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

# Традыцыйнасць ці наіў?


*Уладзімір Стальмашонак «Рыгор Шырма», 1968 г.*


*Уладзімір Стальмашонак «Кандрат Гаруля», 1970 г.*


*Уладзімір Стальмашонак «Максім Гарэцкі», 1983 г.*

Нацыянальны мастацкі музей Беларусі штораз ўражвае разнастайнасцю сваіх экспазіцый. Да прыкладу, сёння кожны аматар высокага мастацтва можа наведаць дзве зусім не падобныя выстаўкі: «Сыны Беларусі» і «Перасячэнні і пераемнасць у Маене».

Першая прымеркавана да 85-годдзя народнага мастака Беларусі Уладзіміра Стальмашонка (1928 — 2013). У экспазіцыю ўвайшло тры партрэты знакамітых дзеячаў нашай краіны: Рыгора Шырмы, харавога дырыжора і фалькларыста (1968), Кандрата Гарулі, старшыні калгаса (1970), Максіма Гарэцкага, пісьменніка і літаратуразнаўца (1983).

Уладзімір Стальмашонак вядомы як ў станковым жывапісе, так і ў манументальным мастацтве (напрыклад, мазаіка на сталічнай станцыі метро «Маскоўская» ў суаўтарстве з В. Т. Даўгалам), а таксама актыўнай грамадскай дзейнасцю.

Нарадзіўся мастак у сям'і медыкаў у 1928 годзе. З дзесяці гадоў займаўся ў студыях М. А. Керзіна, С. П. Каткова. Адукацыю атрымаў спачатку ў Беларускім політэхнічным інстытуце на будаўнічым факультэце, пасля ў Ленінградскім мастацкім вучылішчы на факультэце сцэнаграфіі. Там вучыўся ў К. Б. Кустодзіева, адначасова працуючы ў ленінградскіх тэатрах. Скончыў Інстытут жывапісу, скульптуры і архітэктуры імя І. Я. Рэпіна, майстэрню Б. В. Іагансона, дзе выкладалі таксама А. Д. Зайцаў, І. П. Сцяпашкін, В. В. Сакалоў і іншыя. Пасля абароны дыплома вярнуўся ў Мінск. З 1957 года пачаў удзельнічаць у выстаўках, быў прыняты ў Беларускі саюз мастакоў у 1959-м. Памёр у чэрвені 2013 г. у Мінску. Асноўныя жывапісныя і графічныя творы мастака захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

Уладзімір Стальмашонак — аўтар шэрагу запамінальных партрэтаў беларусаў — гістарычных персанажаў і сучаснікаў. Ён ствараў вельмі выразную, актыўную мастацкую форму, пераважна ў межах «суровага стылю».

Зусім не традыцыйныя карціны прадстаўлены ў экспазіцыі «Перасячэнні і пераемнасць у Маене». Гэта работы мастакоў-самавукаў сінгулярнай, наіўнай і папулярнай плыні мастацтва Францыі. Дадзеныя палотны (а іх каля 40) прадстаўляюць сучасную культуру горада Лаваль. Яны ўпершыню экспануюцца ў Беларусі дзякуючы Нацыянальнаму мастацкаму музею і Пасольству Францыі ў Рэспубліцы Беларусь.

У пэўным сэнсе заснавальнікам фантастычнага кірунку ў творчасці мастакоў Маена яшчэ ў XVI стагоддзі стаў Амбруаз Парэ (каля 1510 — 1590) — каралеўскі лекар і вядомы ілюстратар. З гэтага часу ўзнікла пераемнасць, якая ў XX стагоддзі ўмацавала свае пазіцыі такімі імёнамі, як Анры Русо (1844 — 1910) і Альфрэд Жары (1873 — 1907). Гэтыя вядомыя майстры спрыялі з'яўленню і фарміраванню іншых мастакоў родам з Маена, тых, хто прыйшоў у мастацтва, будучы прадстаўнікамі іншых прафесій. Так, Рабэр Татэн (1902 — 1983), муляр-будаўнік, пасля 1945 года стаў займацца жывапісам і скульптурай. Анры Труяр (1892 — 1972) пакінуў рамяство чырванадрэўшчыка і ў 1950 — 1960-х гадах прысвяціў сябе фантастычнай і наіўнай творчасці. Следам за імі з'яўляецца новае пакаленне мастакоў: Жак Рэмо (1949 — 1987) стварае кампазіцыі, што навяваюць пачуццё непакою; Ален Лакост (1935), чые творы працягваюць традыцыі; Гастона Шэсака (1910 — 1964) парушае ўсе правілы малюнка, набліжаючыся тым самым да сінгулярнага мастацтва. Сучаснае пакаленне мастакоў знаходзіцца пад моцным уплывам гэтых аўтараў: Серж Паяр (1958) у сваіх творах адлюстроўвае таямнічую археалогію выдуманай краіны Пататоніі, Жан-Луі Серызье (1957) стварае кампазіцыі, якія спалучаюць элементы мары і рэальнасці.

Пры яскрава выяўленай індывідуальнай манеры, характэрных, упадабаных сюжэтах творы сучасных прадстаўнікоў наіўнага мастацтва рэгіёна Маена выяўляюць выразную пераемнасць творчасці старэйшых майстроў.

Экспазіцыя «Перасячэнні і пераемнасць у Маене» не толькі знаёміць з вельмі цікавым матэрыялам — творамі «наіўных» мастакоў, але і з'яўляецца прэзентацыяй Музея наіўнага і сінгулярнага мастацтва ў г. Лаваль, з калекцыі якога ў складзе выстаўкі экспануецца 11 твораў. Заснаваны ў 1967 годзе па ініцыятыве гандляра і мастака Жуля Лефранка (1887 — 1972) лавальскі Музей наіўнага і сінгулярнага мастацтва з'яўляецца сёння найбуйнейшым зборам наіўнага мастацтва ў Францыі і адной з найважнейшых устаноў у гэтай сферы мастацтва ў свеце. Дзякуючы выстаўкам і біенале наіўнага мастацтва творчасць майстроў Маена стала шырока вядомай за межамі Лаваля і рэгіёна.

**Таццяна ШЫМУК**


*Марыс Брыжыт «Цырк», 1998 г.*

# Аб'ёмны свет гукаў

У паўднёвай галерэі палаца Румянцавых і Паскевічаў працуе выстаўка «R + Я», прысвечаная дзесяцігадоваму юбілею Міжнароднага пленэру глухіх і з парушэннямі слыху мастакоў «R + Я».

Гісторыя пленэру пачалася ў Гомелі яшчэ ў 1986 і 1989 гадах з правядзення міжнародных выставак малюнкаў глухіх дзяцей з розных краін свету: Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі, Македоніі, Францыі і Шатландыі. Менавіта гэтыя экспазіцыі далі старт творчаму супрацоўніцтву гомельскага мастака-педагога, які не чуе, Васіля Сідарэнкі і мастакоў-педагогаў з Дзяржынска — Наталлі Ермаловіч і Уладзіміра Шчэрбіна. Першапачаткова ў пленэрах удзельнічалі толькі дзеці, але неўзабаве да яго праявілі цікавасць і дарослыя творцы з Беларусі, Расіі і Украіны.

З 2003 года пленэр праводзіцца ў Вялікім Сяле пад Дзяржынскам. Штогод ён аб'ядноўвае знакамітых і пачынаючых мастакоў, лепшыя жывапісныя і графічныя работы якіх прадстаўлены на выстаўцы ў палацы Румянцавых і Паскевічаў. Для гамяльчан і гасцей горада гэта цудоўная магчымасць пазнаёміцца з неардынарнай творчасцю аўтараў з адметным поглядам на свет.

Прадстаўленыя на выстаўцы «R + Я» жывапісныя і графічныя работы выкананыя ў розных жанрах: пейзаж, нацюрморт, партрэт, тэматычная карціна. У кожным творы гучыць свая музыка. Шум гарадской вуліцы, птушыная песня, рыпенне падлогі, шум восеньскага дажджу, дзіцячы смех і, вядома, цішыня ночы — фарбы і лініі здольныя перадаць аб'ёмны свет гукаў.

У глухіх людзей, з дзяцінства пазбаўленых магчымасці ўспрымаць гукі, развіваецца зрок, здольнасць да маляўнічага ўспрымання навакольнай рэчаіснасці. Творцы руйнуюць міф пра абмежаванасць глухіх, няздольнасць іх да паўнавартаснага творчага існавання. Яны перадаюць на сваіх карцінах музыку сэрца, якая нараджаецца ў быцці чалавека, але амаль незаўважная ў штодзённай мітусні.

Пасля экспанавання ў Гомелі выстаўка працягне сваю працу ў Расіі і Украіне.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
наменік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2602.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 12.12.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 5331.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686